ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 44 (2505)
ПЯТНІЦА
31
ліпеня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:









АД РОДНАЕ зямлі, ад гоману бароў, ад казак вечароў... Ад гэтых жыватворных вытокаў—і славутае на ўвесь свет беларускае шкло. Яно зіхаціць, пераламляючы сонечныя прамяні ,таямніча дыміцца ад ледзяного напітку, радуе вока то празрыстасцю крыніцы, то блакітнасцю родных нябёсаў, каларытам беларускай восені, то строгасцю граняў, адмысловасцю аб'ёмаў...

Багацце, якое атрымалі мы ў спадчыну ад продкаў... Багацце душы народнай, якая прагне прыгажосці... І, каб не згубіць гэтае багацце, каб памножыць яго,—передаецца эстафета творчасці вось ужо колькі стагоддзяў—ад колішніх умельцаў XV стагоддзя да сённяшніх майстроў, якія працуюць на самых сучасных гутах.

Ну, канечне ж, як толькі гаворым пра сучасную гуту, адразу прыгадваем—«Нёман»!.. Вось і сёння ў артыкуле мастацтвазнаўцы М. Яніцкай—гаворка пра майстроў гэтага прадпрыемства. Але не пра мастакоў-прафесіяналаў, а пра тых, хто прыйшоў да творчасці ад сваёй тэхнічнай прафесіі выдзімальшчыка шкла.

Артыкул «ЧАРАЎНІКІ ГУТНАГА ШКЛА»—на старонцы 9. Гаворка ў ім ідзе пра нёманцаў, пра іх творчасць.

Унізе вы бачыце партрэты саміх майстроў—Г. Лінкевіча, Р. Багінскага, А. Федаркова, а ўверсе—рэпрадукцыі іх работ.







# У КАМІСІІ ПА ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЯХ БССР

*Камісія па Дзяржаўных прэміях БССР паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР 1970 года дапушчаны наступныя кандыдатуры:*

### У ГАЛІНЕ ЛІТАРАТУРЫ

На прэмію імя Янкі Купалы —

1. **Барадулін Р. І.** Зборнік вершаў і паэм «Лінія перамены дат».

2. **Куляшоў А. А.** Кнігі перакладаў: «Лірыка» М. Ю. Лермантава, «Энеіда» І. П. Катлярэўскага, «Спеў аб Гаяваце» Генры Лангфела.

На прэмію імя Якуба Коласа —

3. **Асіпенка А. Х.** Аповесць «Жыта».

4. **Пташнікаў І. М.** Аповесць «Тартак».

5. **Сачанка Б. І.** Аповесць «Апошнія і першыя».

6. **Скрыган І. А.** Кніга прозы «Кругі».

7. **Шкраба Р. В.** Кніга аб майстэрстве пісьменніка «Літаратура і мова».

Прадстаўлены прэзідыумам праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.

### У ГАЛІНЕ ЖУРНАЛІСТЫКІ

На прэмію імя П. М. Лепяшынскага —

1. **Ус А. П., Уладзімірава А. П.** Дакументальная аповесць «На семнаццатым кіламетры...» і нарыс «Вікторыя».

Прадстаўлена прэзідыумам праўлення Саюза журналістаў БССР.

2. **Пахомаў М. І., Дарафеенка Н. І., Дарафеенка М. У.** Кніга «Віцебскае падполле».

Прадстаўлена Віцебскім абласным міжведамасным бібліятэчным саветам.

3. **Сіпакоў І. Д.** Нарыс «Акно, расчыненае ў зіму».

Прадстаўлена рэдакцыйнай калегіяй часопіса «Полымя».

### У ГАЛІНЕ ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА

**Бембель А. А.,** скульптар, галоўны мастацкі кіраўнік праекта, **Стаховіч А. А.,** архітэктар. «Курган славы» на 21 кіламетры ад Мінска па Маскоўскай шашы.

Прадстаўлена Міністэрствам культуры БССР і прэзідыумам праўлення Саюза мастакоў БССР.

### У ГАЛІНЕ МУЗЫКІ

**Глебаў Я. А.** Музыка балета «Выбранніца» і араторыя «Свяці, зара».

Прадстаўлена праўленнем Саюза кампазітараў БССР.

### У ГАЛІНЕ ТЭАТРАЛЬНАГА МАСТАЦТВА

**Рахленка Л. Г.,** артыст. Выкананне роляў Бубнова ў спектаклі «На дне» М. Горкага, Прыбыткова ў спектаклі «Апошняя ахвяра» А. Астроўскага і іншых роляў у рэпертуары Беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Купалы ў 1967—1969 гадах.

Прадстаўлена Міністэрствам культуры БССР.

*Камісія па Дзяржаўных прэміях БССР звяртаецца да грамадскасці з просьбай прыняць актыўны ўдзел у абмеркаванні публікуемых у гэтым спісе твораў і работ. Заўвагі і прапановы просьба накіроўваць да 15 кастрычніка г. г. па адрасе г. Мінск, Дом урада, Камісія па Дзяржаўных прэміях БССР.*

## ад пятніцы да пятніцы

# У ПЯРЭДАДЗЕНЬ ЮБІЛЕЮ

**Сёлетняй восенню грамадскасць рэспублікі адзначыць 50-годдзе старэйшага беларускага тэатральнага калектыву — Дзяржаўнага Чырвонага Сцяга акадэмічнага тэатра БССР імя Я. Купалы. Для падрыхтоўкі і правядзення юбілейных урачыстасцей створана арганізацыйная камісія на чале з міністрам культуры БССР М. А. Мінковічам. У яе складзе пісьменнік І. П. Шамякін, народная артыстка СССР Л. П. Александроўская, народны артыст БССР М. М. Яроменка, партыйныя і грамадскія работнікі.**

**У дні падрыхтоўкі да юбілею ў памяшканні тэатра намячаецца разгарнуць вялікую фотавыстаўку, якая раскажа аб творчым шляху купалаўцаў. У іншых драматычных тэатрах рэспублікі будуць адкрыты перасоўныя фотавыстаўкі. Намечана выдаць буклет «Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы». Творчы шлях акадэмічнага тэатральнага калектыву будзе шырока асвятляцца ў друку, па радыё і тэлебачанні. На экранах кінатэатраў рэспублікі будуць дэманстравацца фільмы з удзелам артыстаў тэатра.**

**Купалаўцы рыхтуюць да юбілею новыя спектаклі, у прыватнасці, па п'есах, прэміраваных на рэспубліканскім конкурсе, які быў прысвечан ленінскаму юбілею. У час святкавання 50-годдзя тэатра гледачы ўбачаць і лепшыя работы мінулых сезонаў. Галоўныя ролі будуць выконваць славутыя майстры сцэны і артысты малодшага пакалення.**

# У ГЭТЫЯ ДНІ...

### ...ЗАКОНЧЫЛІСЯ

прыёмныя экзамены ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя Луначарскага. Больш двухсот юнакоў і дзяўчат трымалі экзамен. Але ўмовы конкурсу вельмі складаныя і вытрымаць яго змаглі не ўсе. Толькі 125 чалавек знойдуць свае прозвішчы ў спісах залічаных на стацыянар.

У гэтыя ж дні закончыліся прыёмныя экзамены ў другой творчай вну рэспублікі — Дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Вельмі нялёгкая задача стаяла перад прыёмнай камісіяй, асабліва пры экзаменах на акцёрскі факультэт, куды была пададзена большасць заяў. Пашчасціла нямногім. Толькі 13 абітурыентаў залічаны на першы курс. А вось на аддзяленне культурна - асветнай работы залічаны 71 абітурыент. Тыя з іх, хто паспяхова закончыць курс навучання, атрымаюць права працаваць рэжысёрамі народных тэатраў.

Вялікі конкурс давялося вытрымаць і паступаючым на аддзяленні станкавага жывапісу, скульптуры, графікі, керамікі, мастацкага афармлення і мадэліравання адзення, інтэр'ера і абсталявання, прамысловага мастацтва і манументальна - дэкаратыўнага жывапісу.

### ...АДПРАВІЛІСЯ

на другі Усесаюзны фестываль ансамбляў народнага танца ў Кішынёў самадзейныя артысты танцавальнага ансамбля «Нёман» Гродзенскага абласнога Палаца культуры.

На конкурсных канцэртах, якія адбудуцца ў «Зялёным тэатры», яны пакажуць два танцы — «Лявоніху» і «Гродзенскія вячоркі», а потым выступяць з творчай справаздачай перад працаўнікамі калгасаў і саўгасаў Малдавіі. У праграме ансамбля будуць беларускія народныя танцы «Козачка», «Залатыя каласы», «Перапёлачка», «Полька-трапятуха», харэаграфічная замалёўка «Прынёманская рапсодыя» і іншыя.

### ...ВЯРНУЛІСЯ

з творчага падарожжа па гарадах і сёлах Венгрыі самадзейныя артысты Брэсцкага танцавальнага ансамбля «Радасць», які выязджаў туды па пуцёўцы ЦК ЛКСМ Беларусі.

Пасля паспяховых выступленняў у Дэбрэцэне самадзейныя танцоры з Брэстчыны прынялі ўдзел у міжнародным конкурсе народных талентаў, які быў арганізаваны ў міжнародным лагеры моладзі ў Вероцы. У конкурсе ўдзельнічалі самадзейныя калектывы Чэхаславакіі, Венгрыі, Югаславіі, Польшчы, Францыі, Англіі, а таксама самадзейны ансамбль песні і танца Паўночнай Асеціі. Асаблівым поспехам у журы і шматлікіх гледачоў карысталіся беларуская «Лявоніха», «Вянок беларускіх танцаў», харэаграфічная замалёўка «Рускі сувенір». Менавіта за іх выкананне калектыў атрымаў узнагароду конкурсу — дыплом першай ступені.

Надоўга запомніцца самадзейным артыстам і сталіца Венгрыі — Будапешт, дзе яны сустрэліся з удзельнікам штурму Зімняга, ветэранам венгерскага рэвалюцыйнага руху Ласла Аладарам. Гэта менавіта з ім усклалі яны вянкі і жывыя кветкі на магілу «Невядомага салдата», да статуі Свабоды на гары Гелерт. А потым былі сустрэчы з моладдзю Венгрыі, гутаркі, дыспуты, канцэрты на возеры Балатон.

## Госці з братняй Польшчы



*Тры дні на Брэстчыне гасціў Ансамбль песні і танца Войска Польскага з г. Любліна. Госці далі канцэрты ў калгасе, выступалі перад воінамі і ў Брэсцкім парку культуры.*

*На здымку — ансамбль песні і танца Войска Польскага выступае ў Брэсцкім парку.*

Фота А. ВЯЛІКАСЕЛЬЦА.

## СТО РАДКОЎ з рэдакцыі

# А СУСТРАКАЦЦА ТРЭБА!

Калі тэатральныя гастралёры пакідаюць Мінск, яны аднадушна захапляюцца горадам, яго выдатнымі мясцінамі, гавораць пра гасціннасць патрабавальнай публікі беларускай сталіцы. І амаль абавязкова робяць адну заўвагу: «Шкада, што мы не пабачылі ніводнага спектакля купалаўцаў. Чулі, чыталі пра тэатр многа, знаёмы з некаторымі акцёрамі па кіно і па выступленнях на тэлеэкране. Але ж гэта — не тое! Пагаварыць хочацца, паспрачацца...»

Чаму мы пачалі размову на гэтую тэму? Бо мастаку неабходна правяраць сваю творчасць перад судом калег. Гэта агульнавядома. Жывапісец наведае вернісаж таварыша — і ў Саюзе мастакоў рэспублікі адбудзецца прынцыповая гаворка па актуальных пытаннях, у якой прымуць удзел і крытыкі, і мастакі «суседніх» жанраў, скульптары, графікі. Палатно, напісанае гамяльчанінам або гродзенцам, трапіць у поле зроку мастацкай грамадскасці. Літаратурны твор любога жанру прачытаюць паэты, празаікі і драматургі — у Саюзе пісьменнікаў БССР або ў маштабах секцыі наладзяць шырокае абмеркаванне. А таварыскія, не афіцыйныя і такія патрэбныя літаратару або мастаку, кампазітару або архітэктару гутаркі памагаюць нам, калі наш твор аналізуе грамадскасць прафесіянальна блізкіх калектываў!

Не тое ў тэатрах. Пакаленні маладых артыстаў, скончыўшы Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, гадамі жывуць толькі ўспамінамі пра тое, што яны студэнтамі бачылі на сталічнай сцэне. У Віцебску і ў Гродна, у Брэсце і ў Гомелі яны выступаюць у спектаклях часам па тых жа самых п'есах, што ставяцца ў Мінску, і працуюць з «аглядкай» на свае мясцовыя аўтарытэты і ўзроўні. Ну, штосьці перачытваюць з адпаведнай літаратуры, глядзяць кінастужкі з удзелам вядомых майстроў, гартаюць пажоўклыя студэнцкія канспекты. І іграюць потым усё ж на «магілёўскім» або «гродзенскім» узроўні. Суцяшаюць сябе, што атрымліваецца не горш, як у людзей, а праверыць, ці сапраўды гэта не «горш»,—не могуць. Бо «вырвацца» з бягучага рэпертуару на пару дзён нават у Мінск цяжка (пра Маскву і казаць няма чаго!). І наадварот. Пагаварыце з купалаўцамі: яны ведаюць па пісьмах сяброў і па газетных рэцэнзіях, скажам, што ў другім па значэнні рэспубліканскім нацыянальным тэатры — імя Я. Коласа ў Віцебску — адбылася цікавая прэм'ера, дзе і рэжысура сказала сваё не банальнае слова, і ёсць арыгінальныя акцёрскія работы, але пабачыць гэта ім не ўдаецца. І, можа здарыцца, ніколі не давядзецца, бо афішы мяняюцца не так рэдка!..

А ў творчыя групы БТА, што перыядычна накіроўваюцца ў абласныя гарады, каб абмяркоўваць дзейнасць мясцовых тэатраў, уключаюцца толькі сталічныя крытыкі, рэжысёры і асобныя артысты старэйшага пакалення. Яны, бывае, з сезона ў сезон наведваюць адзін і той жа горад, да іх там прывыкаюць і загадзя здагадваюцца, якая будзе іх ацэнка гэтай п'есе і гэтаму рэжысёру. А што — памарым уголас! — калі б, напрыклад, «прымаць» спектакль «Трэцяя патэтычная» ў коласаўцаў выправілася трупа Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы! Размова аб новым сцэнічным увасабленні драмы ў беларускім тэатры тады, відаць, была б шырокая, прафесіянальна сталая, усебаковая. А што — працягваем марыць! — калі б тры тэатры Беларусі, дзе ставяць п'есу «Толькі адно жыццё» А. Маўзона, маглі «на публіцы» паказаць свае пастаноўкі адзін аднаму, а потым сесці за «круглы стол» і паспрачацца... Ды і наогул, няўжо гэта нармальна, што нават галоўныя рэжысёры ад выпадку да выпадку знаёмяцца з работамі суседзяў, а часцей проста не ведаюць пра сутнасць творчых шуканняў калег!!

Заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР А. Струнін, адказваючы на пытанне аб самай страшнай пагрозе для перыферыйнага акцёра, сказаў: «Ён гадамі варыцца ў сваім саку, не параўноўвае зробленае з дасягненнямі такога ж акцёра ў іншых тэатрах». І скардзіўся, што з Гродна тэатру цяжка выправіць артыста ў Мінск у творчую камандзіроўку, пра выезд калектывам на спектаклі сталічных тэатраў і гаварыць няма чаго.

А сустракацца трэба! Калі гадамі жывеш нават змястоўным творчым жыццём у чатырох сценах роднага тэатра, да цябе завітваюць і непажаданыя госці — самазадаволенасць, штамп, механічнасць, а дух неспакойнага мастака без уплываў і параўнанняў пачынае засынаць. Пабывайце на спектаклях Магілёўскага тэатра, паглядзіце некаторых акцёраў у Гродна, вам будзе ясна, якая гэта пагроза і таленавітым людзям. Парушыць прыкрую ізаляванасць нашых сталічных і перыферыйных артыстычных калектываў, стварыць дзелавую атмасферу ўзаемнага абмену творчымі дасягненнямі, умовы для прынцыповай крытыкі на высокім прафесіянальным узроўні — да гэтага варта заклікаць рэспубліканскае Тэатральнае аб'яднанне і дырэкцыі тэатраў. Добра будзе, калі творчыя кантакты паміж артыстычнымі трупамі стануць калектыўным клопатам грамадскасці. Тут, зразумела, патрэбны і грошы, і арганізацыйныя намаганні, і разуменне творчай неабходнасці гэтай справы. Тады будзе плён. Будзе карысць тэатральнаму мастацтву.



Уладзімір ЮРЭВІЧ

# ХАЎРУС З ЗЯМЛЁЙ

Гадоў дзесяць таму назад мне давялося быць сведкам вельмі ўражлівай падзеі, якая стала неўзабаве адзнакай часу. Было гэта пад Нясвіжам. Хутар перaязджаў у новы пасёлак. Бурылася хата, бо аджыла свой век. Бурылася апошняя варыстая печ, здавала вахту апошняя дзяжа. У камяніцах пасёлка сталі ўжо газавыя пліты.

Гаспадыня ўчыніла з вечара апошні хлеб. Раніцай я прачнуўся ад прыемнага казытання ў носе — кіслая рошчына паравала з дзяжы. А над ёй чаравала ў белым хвартуху, павязаўшы на галаву белую хусцінку, старэйшая ў хаце — маці гаспадара. Ёй пасабляла ўнучка, дзяўчынка пад 12 гадоў. Пасабляла неяк асабліва ахвотна— ўвішна падавала ваду ў карцы, падносіла лубку з мукой, а гаспадыня мясіла цеста, мясіла доўга, старанна, натхнёна. Стамлялася, адпачывала і зноў бралася за тое ж.

А потым, калі апоўдні падыходзіў я да той хаты, што была воддаль ад пасёлка, усё наваколле дыхала пахам свежага хлеба. Зайшоў у хату. Сям'я палуднавала. На стале ляжаў свежы бохан хлеба. У хаце было душна, але прыемна. Тут пахла хлебам, тут адчуваўся смак хлеба. Тут было свята, хоць былі і слёзы на вачах гаспадыні, якая любавалася апошнім, самой спечаным хлебам. Але пераважала радасць, як на вядомым палатне нашага выдатнага мастака Міхася Савіцкага «Хлеб». Крамяныя караваі сваімі рукамі створанага хлеба тут паказаны як услаўленне галоўнага сэнсу жыцця—працы чалавека на хлебадайнай ніве, першаасновы яго існавання.

Калі, бываючы на вёсцы, я чую цяпер з вуснаў бабулі трафарэтнае — «Вазьмі грошы, унучка, збегай па хлеб!» — становіцца ніякавата і міжволі прыгадваецца тая ўнучка, што памагала пячы апошні «свой» хлеб, яе, поўныя захаплення вачаняты, у якіх былі гонар сваім заняткам і няўрымслівае жаданне — мясіць, вось гэтак як бабуля, цеста, выгладжваць боханы, класці іх на лапату і саджаць у напаленую печ...

І ўнучка, і бабуля сталі сёння «спажыўцамі» гатовага хлеба. Усё менш і менш людзей, нават на вёсцы, ведаюць смак свежага, выпечанага на кляновым лісці хлеба. Усё менш і павагі да хлеба, той павагі, якая выглядала некалі ледзь не як святое таінства. Усе садзіліся за стол, бацька браў круглы бохан, прытуляў яго да грудзей і наразаў скібку за скібкай, кладучы яе перад кожным. І ты павінен быў з'есці ўсю яе, да апошняй макулінкі. Гэта ішло не ад беднасці — перад вайной мы мелі ўжо ўдосталь хлеба, мелі і да хлеба. Гэта было выяўленне глыбокай пашаны да плёну працы на зямлі, выяўленне шчырага хаўрусу чалавека з зямлёй, з яе дарункамі, здабытымі ўласным потам.

Вярнуць сельскую гаспадыню да дзяжы бадай цяжка ў наш час, ды і ці варта гэта рабіць? А вось вярнуць кожнаму — ад малога да старога— асалоду свежаспечанага бохана хлеба мабыць варта, калі дбаць пра ўзмацненне любві жыхара вёскі да зямлі. Хацелася б, каб у кожную хату быў вернуты водар, уласцівы хлебу, а не тым не заўсёды дагледжаным сродкам транспарту, на якіх гэты хлеб дастаўляецца за 20—30 кіламетраў у краму сельпо. Самы смачны хлеб той, які спажываюць там, дзе яго росцяць, як і самае смачнае, самае каштоўнае малако — сырадой, цёпленькі, адразу з дайніцы.

Пры ўсіх перавагах гарадскога ўкладу жыцця, што так актыўна прабіваецца ў вёску, варта было б захаваць і некаторыя перавагі сельскага побыту. Сціранне граняў між горадам і вёскай таксама патрабуе роздуму пры яго канкрэтным здзяйсненні ў дэталях.

Тут вялікую службу могуць саслужыць і тыя бытавыя зручнасці, што прыйшлі і ўсё больш прыходзяць на вёску: электрычнасць, газ, водаправод... Не трэба ўсчынаць малаплённыя дыскусіі пра тое, ці патрэбна варыстая печ у доме сельскага жыхара. А вось задумацца над тым, каб распрацаваць электрычныя ці газавыя пліты ў варыянтах, зручных для вёскі, мабыць трэба, бо гэта будучыня яе. Будучыня павінна абапірацца на традыцыі вясковага ўкладу і варта было б знайсці магчымасці для сельпо мець у вёсках невялікую (можа газавую ці электрычную) пякарню, каб лунаў у наваколлі водар свежага хлеба, а не аднаго толькі бензіну.

Смак хлеба! Якое гэта святое пачуццё і як мы пагардліва часам ставімся да яго не толькі ў горадзе, але і на вёсцы. А калі не пагардліва, дык у кожным разе не выхоўваем яго з маленства, а потым, калі юнак ці дзяўчына кіруюцца ў самастойную дарогу, спахопліваемся і пачынаем біць трывогу — чаму яны бягуць ад самімі вырашчанага хлеба да купленага ў магазіне, чаму яны не надта шануюць тэхніку, што ўсё больш і больш ідзе на вясковыя прасторы, а кідаюцца да той, якая ў заводскіх цэхах? Чаму ўсё меншае вытворцаў хлеба і большае яго спажыўцоў? Чаму сённяшняя вясковая моладзь з першых крокаў самастойнай дарогі ўскладняе сабе жыццё?

А можа гэта адметная рыса героя нашых дзён і можа station... 

Літаратура, як мастацтва словам, павінна была б паўней раскрываць цудоўныя поспехі савецкага народа, здабытыя самаадданай, а часам і самаахвярнай працай. Поспехі не столькі ў плане матэрыяльных здабыткаў, колькі ў плане душэўных зрухаў у самой сутнасці працаўніка. Мы прызвычаіліся да гэтых здабыткаў, да гэтых зрухаў, лічым іх як нешта само па сабе зразумелае. Нават не здзіўляемся новым здзяйсненням чалавека ў космасе. Але ж калі мець на ўвазе выхаваўчую функцыю літаратуры, дык яна павінна памагаць чытачу, асабліва маладому, зразумець гераіку нашых будняў, крыніцы няўхільнага развіцця нашага грамадства, усю складанасць і супярэчлівасць асобных яго сфер.

Сельская гаспадарка на новым маршы. І гэты марш ідзе не торнай дарогай, але дарогай, якую трэба ў каторы ўжо раз пракладваць па цаліку, бо кожны раз мы кіруемся на яшчэ больш высокі ўздым матэрыяльнага, а значыць і духоўнага дабрабыту ўсяго народа і ў першую чаргу, вядома, працаўнікоў вёскі. За апошнія пяць — дзесяць гадоў зусім іншым стаў унутраны змест жыцця на вёсцы, што заўважна нават па знешніх яго праявах. Але ж літаратура пакуль не дайшла да зразумення гэтага ўнутранага зместу. У лепшым выпадку мы маем рэгістрацыю таго, што на паверхні і даволі прыблізна характарызуе новае, якое і складанае, і супярэчлівае, і ўвесь час у руху да ідэальнага.

А ідэальнае ж мабыць там і тады, дзе і калі ўзнікае бескарыслівая зацікаўленасць працай, дзе і калі праца становіцца абавязкам усвядомленым і народжаным унутрана, як пасыл душы чалавека, што не можа жыць без таго, каб не ствараць.

Аляксей Кулакоўскі ў сваім артыкуле «Зямля-матухна», які з'явіўся як водгук на ліпеньскі Пленум ЦК КПСС («ЛіМ» 10.7.70), выказвае не толькі радасць з поваду вялікіх перамен на вёсцы, але і зразумелую заклапочанасць тымі новымі праблемамі, якія гэтыя перамены ставяць перад чалавекам. Выказваючы, аднак, захапленне «ўжо новай, выгаднай і прагрэсіўнай» з'явай — гарантаванай грашовай аплатай працы ў калгасах, аўтар тут жа знімае гэтае захапленне трывогай пра «залішнюю ўрбанізацыю» жыцця на вёсцы, якая прадугледжвае, вядома, у больш-менш блізкай перспектыве пераход на «магазіннае» забеспячэнне патрэб сельскага працаўніка і яго сям'і.

Мне здаецца, што гэта не проста супярэчлівасць ў мысленні пісьменніка, а супярэчлівасць самога ўкладу вясковага жыцця, якое часам штучна прыспешваецца ў хадзе без дастатковага навуковага абгрунтавання гэтага прыспешвання. Іменна гэтая, жыццём народжаная супярэчлівасць і выклікае тыя канфлікты, якія вырастаюць у вялікую праблему спалучэння традыцыйнай любві селяніна да зямлі з сённяшнімі ўмовамі працы на гэтай зямлі.

Прыход тэхнікі ў працоўны і хатні побыт чалавека зямлі, які складваўся праз вякі, выклікала глыбокую духоўную яго пераарыентацыю. Сам працэс працы, як і збор яе плёну, з прычыны ўключэння ўсё большай колькасці механізмаў аддаляе чалавека ад зямлі. На змену любві да зямлі прыйшла любоў да тэхнікі, а гэта пацягнула за сабой і новую псіхалогію сучаснага земляроба, які ўсё больш пачынае захапляцца самім працэсам працы, усё менш дбае пра канечны вынік яе, які ўспрымаецца як сам сабой зразумелы і неадменны, — гарантаваны заробак.

Некалі Энгельгарт, вядомы савецкі вучоны-біяхімік, заўважаў, што **не той араты, што арэ, а той араты, які сваім ворывам цешыцца.** Пэўны, асуджаны ЦК партыі, перыяд у кіраванні сельскагаспадарчай вытворчасцю, калі ўсё дыктавалася зверху, калі глушылася ўсялякая ініцыятыва знізу, не мог не адбіцца на псіхалогіі сельскага працаўніка. Цяпер, калі захады партыі і дзяржавы скіраваны на тое, каб зрабіць калгасніка паўнапраўным гаспадаром і сваёй зямлі, і сваёй арцелі, павінны да яго зноў вярнуцца і любасць да зямлі, і захапленне плёнам працы на ёй.

Калгасы перайшлі на гарантаваную грашовую аплату працы. І вось аўтары скараспелых нарысаў пра вёску пачалі біць у званы — ай, як гэта добра, якая гэта прагрэсіўная з'ява!—не падумаўшы заадно пра тое, а ці не падрывае такая аднабаковая ацэнка працы земляроба самой сутнасці яго жыцця — любві да зямлі і адчування радасці плёну працы на ёй. Іменна гэты бок справы прымушае рускага пісьменніка Леаніда Іванова ў нарысе «Пра любоў да зямлі» (часопіс «Звезда» № 5, 1970) зазірнуць у калгас, дзе спалучалі грошы і натуру, каб не парушаць адразу складзенага праз стагоддзі ўкладу жыцця на вёсцы.

Пісьменнік адкрывае нам чалавека дзяржаўнага маштабу мыслення старшыню калгаса «Молдзіна» Калінінскай вобласці Яўгена Аляксандравіча Пятрова, які ўмее глядзець у корань з'явы. «Пры грашовай аплаце працы, — гаворыць старшыня, — у многа якіх калгасах адмовіліся ад натуральных выдач. Думаю, зроблена памылка. Бо ў селяніна ў крыві гэта — мець у доме прадукт свае працы. Калі трэба, ён і сам ператворыць яго ў грошы». Такое разважанне можа і не згоднае з агульнапрынятай, як кажуць, «грамадскай думкай», але разумнае, бо падказана самім жыццём, якое старшыня ўмее назіраць і рабіць з яго слушныя вывады — разумець душы калгаснікаў. А адсюль і нараджаецца ўзаемная любоў старшыні і калгаснікаў, якая вырастае ўрэшце ў вялізную любоў да зямлі.

І мясціна з даклада Л. І. Брэжнева на ліпеньскім Пленуме ЦК КПСС, дзе гаворыцца пра тое, што трэба клапаціцца, каб працаўнікі вёскі маглі набыць маладняк, нарыхтаваць корм для сваёй жывёлы, трэба «рэкамендаваць калгасам выдаваць калгаснікам у лік гарантаванай аплаты працы збожжа, грубыя і сакавітыя кармы», падказана самім жыццём.

Варта вітаць новае, якое нараджаецца ў змаганні са старым, але ж нельга штучна, адміністрацыйнымі захадамі ці навукова неабгрунтаванымі рэкамендацыямі спыняць гэтае змаганне якраз на той стадыі, калі яно пераходзіць з сферы эканамічнай у сферу псіхалагічную.

Праца на грамадскай гаспадарцы дае сёння заробак, які дазваляе добра апранацца, сытна пад'есці і культурна правесці вольны час. Але гэтая праца не знімае яшчэ клопату пра хатні побыт, які ўсё большым цяжарам кладзецца на плечы старэйшых у сям'і, што маюць, як правіла, меншы адукацыйны цэнз (вайна і пасляваенныя цяжкасці не давалі магчымасці набыць яго). Залежнасць дарослых дзяцей ад бацькоў (заробак моладзі часцей бывае большы за заробак старэйшых) і бацькоў ад дзяцей (дзяржава забяспечвае старых пенсіяй) бурыцца ўсё больш і больш. Існаванне некалькіх пакаленняў сям'і пад адным дахам — з'ява ўсё больш рэдкая. У маладых сем'ях ўсё меншае зацікаўленасць асабістай гаспадаркай, інакшымі становяцца пункты судакранання ў сельскім жыцці. Абмеркаванне бытавых праблем і вясковых здарэнняў тут ідзе куды радзей, чым абмен думкамі пра жыццё краіны і свету, пра спорт і кінафільмы, прачытаную кнігу ці прагледжаную тэлеперадачу. Усё часцей і часцей агульнасць духоўных сувязей, а не эканамічная заможнасць трымаюць сям'ю ў згодзе. Але...

Але і праца па доглядзе сям'і яшчэ цэніцца вельмі высока. Іменна яна прыносіць пашану: пакуль што больш паважаюць тую гаспадыню, якая мае дома свой прыварак, і таго гаспадара, у якога дагледжан сад ды раяцца пчолы. Бо, як правіла, такія людзі найбольш актыўныя і ў працы на грамаду, ведаюць «толк у працы», маюць унутраную любасць да зямлі, не прыпамінаюць, а фізічна адчуваюць штодзень смак сваімі рукамі «зробленага» хлеба.

Мусіць жа і сёння, у век рызыкоўных палётаў чалавека ў космас, рана яшчэ забывацца на нічым незаменную духмянасць свежага каравая. Сублімíраваны прадукт зручны, але ці смачнейшы за натуральны? Нездарма ж Андрыян Нікалаеў, вярнуўшыся пасля працяглай працы ў космасе, шчыра прызнаўся журналістам: «Мы сумавалі па Зямлі». Хочацца дадаць: «І па хлебе». Па свежым водары хлеба, які вядомы чалавеку з малых гадоў. І калі гэтае адчуванне пачынае прытупляцца, або яшчэ горш — зусім знікаць, тады бяда для чалавека, для грамадства, заснаванага на працы ўсіх дзеля ўсіх.

Перагорнем хоць бы паэтычныя зборнікі, што складаюць залаты скарб нашай літаратуры. У вачах паўстаюць і куляшоўскае жніво, калі «хлеб дыхае жарам, звініць у прасторы», і панчанкаўскі «гул малацілак на таках, па ўсёй краіне хлебны пах», і танкаўскі вераснёвы час, калі «зямля пахне хлебам аж да небакраю», і барадулінская восень, якая «гаспадыняю прыйшла і з новай збажыны — у дзве асьміны — духмяных караваяў напякла...».

Вобраз хлеба, як першаасновы жыцця чалавека, мабыць ніколі не знікне з літаратуры. Але трэба шчыра прызнацца, што сёння ўжо стаў ён цьмянейшы. Чаму? Ці не таму, што паслабелі сувязі літаратуры з жыццём, хаўрус яе з зямлёй, на якой расце той самы хлеб? Ці не вынік гэта таго, што пісьменнікі «вясковай тэмы», пакідаючы за сабой ролю рэгістратара новых з'яў, усё менш абцяжарваюць сябе роздумам над гэтымі з'явамі? І асабліва ў сферы, даследаваннем якой увесь час ганарылася наша беларуская літаратура — сферы вясковага жыцця.

# ПРЫЯЗДЖАЙЦЕ ЗНОЎ, НІЖАГАРОДЦЫ!

**ЗАКОНЧЫЛІСЯ ГАСТРОЛІ АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА ДРАМЫ ІМЯ М. ГОРКАГА**

Учора мінчане ўрачыста развіталіся з калектывам Горкаўскага акадэмічнага тэатра драмы. Былі ўдзячныя словы, былі кветкі, былі сяброўскія размовы. За месяц са спектаклямі гаркаўчан пазнаёмілася амаль 50 тысяч гледачоў. Тэатр прапанаваў разнастайны і змястоўны рэпертуар, дзе было, як кажуць, усяго і на любы густ. Лепшыя работы рэжысуры і акцёраў вызначаліся арыгінальнай задумай, увасобленай у яркай мастацкай форме. Умеюць валжане дакапацца да зерня драматургічнага твора, распрацаваць маштабныя характары. І за гэта ўзнагародай ім былі гарачыя апладысменты.

Госці ў другі раз знаёміліся з Мінскам. Яны пазнавалі і не пазнавалі горад, дзе былі ўпершыню шэсць гадоў назад.

— Ваша сталіца сталее і маладзее,—гаворыць заслужаная артыстка РСФСР Раіса Міхайлаўна Вашурына. — А мінская ліпа ў квецені сваім водарам кружыць галаву. Не, не падумайце, што поспех нашых гастролей таксама закружыў галовы артыстам. Мы разумеем, што мінчане былі гасцінныя, што яны даравалі нам і не вельмі ўдалыя выступленні. Мушу зазначыць, што ў параўнанні з мінулай сустрэчай публіка ваша стала больш патрабавальнай. Пры ўсёй добразычлівасці зала ўсё ж ведае, дзе варта пасмяяцца, а дзе і не «прымаць» жарт, дзе «выслухаць» паўзу на сцэне, а дзе і перачакаць... Скажам, на «Стаўпах грамадства» і «Місіс Сэвідж», дзе я іграю такія любімыя мае ролі, мы на сцэне адчувалі настрой залы, яе ўвагу, і гэта неяк асабліва дапамагала нам паглыбляцца ў характары персанажаў. Штосьці з такіх ураженняў акцёр захоўвае ў сэрцы назаўсёды. Мабыць, і мы павязем з Мінска нешта незабыўнае...

Звяртаемся да дырэктара тэатра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі і заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР Віктара Якаўлевіча Герасіменкі з просьбай расказаць пра гастролі. Ён пачынае з лічбаў:

— У памяшканні опернага тэатра, на стацыянары, нас наведала трыццаць чатыры тысячы гледачоў. Гэта былі гараджане. Двойчы на спектаклях залу запаўнялі хлебаробы Міншчыны. Гэта — яшчэ пяць тысяч. На выязных спектаклях пабывала шэсць тысяч: калгаснікі Маладзечанскага, Дзяржынскага, Вілейскага, Лагойскага, Пухавіцкага, Стаўбцоўскага раёнаў. Калектыў пасля таго, як мы пазнаёміліся з матэрыяламі Пленума ЦК КПСС, рашыў узмацніць абслугоўванне сельскага гледача. І шчыра скажу. амаль кожны наш выезд быў па-сапраўднаму святочнай падзеяй. Разумеюць беларусы тэатральнае мастацтва, умеюць гасцінна сустракаць.



Адзін з мінскіх маршрутаў гасцей-ніжагародцаў — Дзяржаўны музей народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. Флёра Зарыпава. Раіса Вашурына і Віктар Кузняцоў знаёмяцца з матэрыяламі стэндаў, прысвечаных драматургічнай дзейнасці Я. Коласа.

Фота Ул. КРУКА.

Для творчых работнікаў паездкі і сустрэчы заўсёды бываюць дарагімі, калі пашыраюць творчыя далягляды і дапамагаюць глыбей адчуць пульс сённяшняга жыцця.

І не толькі сённяшняга.

Артысты пабывалі ў Хатыні, наведалі музеі, пазнаёміліся з выдатнымі мясцінамі Мінска. Па-мастацку мы адчулі тое, што называюць рэхам вайны, у думках зноў пагарталі абпаленыя яе полымем старонкі гісторыі. Вядома, гэта той маральны капітал, без якога сапраўдны артыст не можа плённа працаваць у мастацтве. Відаць, цяпер многія з нас па-новаму будуць успрымаць творы аб вайне, па-новаму будуць глядзець (і паказваць потым на сцэне!) на чалавека, які крочыў да перамогі праз попел Хатыні...

А як цёпла гутарылі мы з шахцёрамі Салігорска, з трактаразаводцамі і са стваральнікамі славутых МАЗаў! У заводскіх цэхах перад намі быў той сучаснік, вобраз якога тэатр імкнецца паказаць ва ўсёй праўдзе і велічы. Адчуваеш, што духоўны свет нашых людзей узбагаціўся. Калі мы жывём і працуем дома, у Горкім, нам часам здаецца, што гэты працэс узбагачэння характэрны для патомных прадстаўнікоў рабочага класа колішняга Ніжняга Ноўгарада. Бывае такое адчуванне, быццам гэта нешта мясцовае, лакальнае. Пасля мінскіх сустрэч мастак не можа не думаць пра істотныя зрухі ў духоўным жыцці краіны. І за гэта дзякуй вашай беларускай сталіцы!

Шэсць гадоў — тэрмін немалы. Аднак тэатр сустрэў у Мінску даўніх сяброў. Мабыць, чытачы вашай газеты не палічаць, што я выхваляюся, калі скажу: Акадэмічны тэатр драмы горада Горкага набыў у вашым горадзе новых сяброў. Патрабавальных, шчырых, людзей з добрым густам. Зразумела, на камедыйныя прадстаўленні ішоў адзін кантынгент гледачоў, на драму — другі. Але ў крэслах партэра і ў ложах былі і нашы сталыя прыхільнікі, якіх мы лічым сябрамі нашага тэатра...

Рэпарцёры «Літаратуры і мастацтва» сустрэлі народнага артыста РСФСР Віктара Іванавіча Кузняцова ў Дзяржаўным музеі народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.

— Узрушае сціпласць гэтага цудоўнага песняра. Здаецца, што Колас быў заўсёды ў душы селянінам. Да зямлі ён прыкіпеў. А ў літаратуры — адмысловы майстра. І тэатру падараваў хвалюючыя творы. Шкада, што нам не давялося паглядзець спектаклі беларускіх тэатраў. Бо нацыянальную драматургію лепш за ўсё пазнаваць на роднай ёй сцэне. Але мы — у Мінск, а купалаўцы — у Гродна...

Набліжаецца 750-годдзе нашага горада над Волгай. У планах тэатра ёсць намер паставіць і гістарычныя п'есы. Цяпер мы як бы «намацваем» тэмы, якія маглі б стаць такой п'есай — напрыклад, Максім Горкі і сям'я Багдановічаў... Ну, можа, не поўнаметражнай п'есай, але нейкі істотны момант у жыцці Буравесніка, звязаны з Беларуссю і беларусамі, мог бы ўпрыгожыць сцэнічны твор пра чалавека, імя якога носіць наш горад і наш тэатр...

Віктара Іванавіча падтрымлівае маладая актрыса, выхаванка Горкаўскага тэатральнага вучылішча Флёра Зарыпава:

— Ой, можа, так бывае заўсёды, калі адкрываеш для сябе нешта новае! І сапраўды, вось пабылі мы месяц з мінчанамі, а ўжо з'явілася жаданне нешта сыграць, падказанае гэтымі ўражаннямі. Вядома, мастацтва далёка не заўсёды жыве «мясцовымі рамкамі», але ж тут перад намі паўстае лёс нацыі. На сцэне нам даводзіцца бываць нарвежцамі і англічанамі, немцамі і французамі. А ці гэта не мара для актрысы — стаць беларускай хоць у адным спектаклі! З гэтым я паеду з вашага прыгожага горада. Што? Калі сыграю? Ну, гэта залежыць не толькі ад мяне. Я ж спадзяюся, што такая мая мара здзейсніцца...

Мабыць, словы артыстаў, якія мы толькі што прывялі, не даніна гасцей звычайным нормам ветлівасці: вось што яны напісалі ў кнізе водгукаў у музеі дзядзькі Якуба — «Вялікая радасць перапаўняе нас ад знаёмства з гэтым светлым домам! Вялікае вам дзякуй!..»

Апошні дзень у тэатры перад вяртаннем дадому быў таксама працавіты — адбылася яшчэ адна рэпетыцыя новага спектакля «Семнаццаць імгненняў вясны». Удакладняліся маршруты гастрольных паездак трох творчых груп тэатра па калгасах Горкаўскай вобласці. Пакаваліся касцюмы і рэквізіт. А артысты, занятыя ў апошнім спектаклі — у «Стаўпах грамадства», хваляваліся, бо гэта п'еса не з тых, якія можна іграць і глядзець у лёгкадумным настроі. Мабыць, і яна была выбрана кіраўніцтвам тэатра не выпадкова. Гаркаўчане развіталіся з Мінскам, даўшы настрой глыбокага роздуму аб прызначэнні чалавека, аб сапраўднай каштоўнасці яго, нібы абяцаючы ў наступны раз, калі будуць зноў гастролі ў беларускай сталіцы, працягнуць вялікую размову аб жыцці на мове яркага і заўсёды прывабнага сцэнічнага мастацтва.

Да новых сустрэч, ніжагародцы! Дзякуй вам за Тэатр!

---

Поўдзень. Пад ліпай з буслянкай і крыху далей, у парку, саўгас спраўляе хлебаробскае свята.

Ад гарачыні ліпне да плячэй кашуля, смагне ў роце. Дзеці і дарослыя акружылі машыны, з якіх прадаецца вадашыпучка і марожанае. Адны птушкі ў крыўдзе. Дурныя... Ляцелі б на азёры. Нават людзі ўсё больш наровяць абмінаць буфеты, таўкатню, музыкаў—ідуць туды, дзе ціха, не горача, дзе не вянуць кветкі і душы.

У цудоўным Альшэўскім парку расяныя сцежкі вядуць праз амаль што дзікую чашчобу: з горкі ў равочак, зноў на горку, зноў у лагчыну на аксамітных берагах азёр. Пры самай вадзе маўчаць стромыя сосны—жывая ахова прыгажосці.

— Дзень добры, Іван Пятровіч...

— Добры дзень...

Гуляе моладзь. З белымі і вялікімі, па фарфоравым слоіку, лілеямі ў руках. Кветкі пакіданы і пад ногі, на сцежку...

— Вера, Люба, Люся?.. Вам не шкада красу таптаць?

— Гэта, Іван Пятровіч, хлопцы...

— Ай-яй-яй!..

Хто ж тут, з моладзі асабліва, не ведае Івана Пятровіча Драўніцкага, дырэктара Куцькаўскай васьмігодкі, суседняй з Альшэвам. Усе ведаюць. Таму і няёмка перад настаўнікам. Няёмка перад дачкой Пятра Бондара, аб якой так прывабна расказваў Іван Пятровіч.

...На беразе Глублі стаялі калісьці дзве хаткі. У адной жылі браты Янук і Барыс Яскевічы, у другой—Пётр Бондар. Браты палявалі на звера і птушку, невадамі лавілі ў возеры рыбу. Было тут рыбы ўсякай. Па начах на маланку выходзілі з глыбокіх нор вугры, у вясёлых крынічных рачулках гуляла фарэль. Толькі Пётр не мог дзяліць занятак з Януком і Барысам. Хворы на ногі, ён сядзеў на адным месцы, ля хаты, і рабіў бочкі, кубелцы, плёў з лазы кашы. Рабіў усё адмыслова і вырабы свае вазіў у Лынтупы на рынак.

Так беглі дні, беглі ночы. Аднойчы ўвечары на возера забрыў граф з паляўнічай зброяй, світай, сабакамі. Яны шукалі начлег, і гаспадары гэтага прыгожага кутка шчодра сустрэлі нечаканых гасцей.

Спадабаўся куток графу. Прыехаў ён сюды і другі раз. Сілаю сагнаў з возера братоў Янука і Барыса—за лес, на рэчку, на пясок, туды, дзе і сёння стаяць вёскі Барысы і Януковічы. Пятра граф прымусіў будаваць палац.

Нядоўгі век быў у Пятра. Неяк застудзіўся ён, злёг і памёр. Засталася сіратой яго дачка Лілея.

Не было ў дзяўчыны іншай дарогі, як ісці да пана пасвіць статак. Жыла разам з усімі парабкамі. І бачылі людзі яе чыстую душу, добрае сэрца, незвычайную прыгажосць. Казалі:

— Залатое сэрца ў нашай Лілеі.

Сэрцам сваім прывабіла Лілея не толькі графскіх слуг, але і графскага сына Багдана. Вечары і дні дзяліў ён з ёю, праседжваючы на пашы. Разам глядзелі жывёлу, разам слухалі птушак у небе, травы і кветкі, дрэвы і жыта. Але дазнаўся пра каханне свайго сына граф...

Аднойчы прыгнала Лілея з пашы гавяду. Выйшла на бераг возера, прысела на камень, ля якога сустракалася з Багданам. Схілілася над вадой, спусціла да ціхай празрыстай вады залацістыя валасы, убачыла ў вадзе такую ж дзяўчыну з залацістымі ва-

---

З ПОШТЫ «ЛІМа» З ПОШТЫ «ЛІМа» З ПОШТЫ «ЛІМа» З ПОШТЫ «ЛІМа» З ПОШТЫ «ЛІМа»

# КАЛІ БРАЦЬ, ДЫК З РОЗУМАМ

Яшчэ ж зусім нядаўна лічылася, што зямля Беларусі багата толькі на торф. Торф — на паліва, торф — на угнаенне... Сёння гэта выклікае ўсмешку. Рэспубліка славіцца на ўвесь свет сваімі мінеральнымі ўгнаеннямі і нафтай. Беларусь — перспектыўны раён і з пункту гледжання выяўлення жалезных і медных руд, баксітаў, гаручых сланцаў і фасфарытаў. У нас шырока распаўсюджаны лёгкаплаўкія гліны, вапна, даламіт, вапнавы туф і г. д.

Гэтыя звесткі, як кажуць, для запеўкі. Гаворка пойдзе пра тое, як мы гаспадарым, як ставімся да багацця, якім нас так шчодра адарыла матухна-прырода.

Солі. Мінеральныя солі. Або, як іх яшчэ небеспадстаўна называюць — хлеб зямлі. Па запасах калійных соляў наша Старобінскае радовішча — другое (пасля Верхнекамскага на Урале) у Савецкім Саюзе.

Але самае багатае радовішча вядома ж не вечнае. Мінеральныя выкапні ў адрозненне ад жывой прыроды не самаўзнаўляюцца. Калі ўзяў, дык у падземнай кладавой адразу паменшала.

У нас забываюць пра гэта. Чую пярэчанне — дык што, не браць! Браць, вядома, але з розумам. Не па прынцыпе— учора ўзялі, сёння бяром, а заўтра — бог бацька.

Пры камернай сістэме распрацоўкі, якая ў нас ужываецца, мы трацім пры здабычы 65 працэнтаў калійных соляў. Карацей, з кожных 100 кілаграмаў здабываецца 35, астатнія назаўсёды застаюцца пад зямлёй.

Шмат солі мы трацім у цэліках: пад горадам Салігорскам, пад Салігорскім вадасховішчам, пад трыкатажнай фабрыкай, вакол разведачных свідравін, якіх на радовішчы больш двухсот.

У прыватнасці, толькі пад вадасховішчам закансервавана 289 мільёнаў тон выкапняў. Арыентыровачны падлік паказвае, што народная гаспадарка магла б мець ад распрацоўкі гэтых выкапняў не менш 119 мільёнаў рублёў прыбытку (каштарысны кошт вадасховішча 8 мільёнаў рублёў).

Да чаго ўсё гэта прывядзе! Згодна з праектам, эксплуатацыя радовішча разлічана на 50—60 гадоў. Пры такім спосабе здабычы гэты тэрмін зменшыцца ўдвая. У той жа час у нетрах застанецца назаўсёды 70 працэнтаў усіх запасаў калійных соляў.

Але гэта яшчэ не ўсё. Пры здабычы мінеральных угнаенняў мы выкарыстоўваем (і то не вельмі ўдала) толькі адзін прадукт — хлорысты калій. Але ж ёсць яшчэ каменная соль і іншыя карысныя рэчывы, якія складаюць каля 80 працэнтаў агульнай масы. Яны зусім не выкарыстоўваюцца і складваюцца на паверхні, псуючы добрыя сельскагаспадарчыя ўгоддзі. Сёння пад адвалы і т. зв. хвостасховішчы занята некалькі сот гектараў ворнай зямлі. Фактычна ж шкода намнога большая, бо ўся навакольная зямля і вада засаляюцца. І гэты працэс будзе працягвацца.

Галоўная праблема, якая стаіць перад салігорскімі калійнымі камбінатамі — змяненне існуючай сістэмы выпрацоўкі на больш рацыянальную. Па думцы многіх спецыялістаў, Старобінскае радовішча можна распрацоўваць суцэльнай сістэмай. Менавіта так распрацоўваецца ў Францыі Эльзаскае радовішча, якое мае аналагічныя са Старобінскім гідрагеалагічныя і горнатэхнічныя ўмовы. У Эльзасе страты выкапняў складаюць усяго 10—12 працэнтаў.

Ёсць некалькі спосабаў павышэння эфектыўнасці здабычы выкапняў. Адзін з іх — запаўненне выпрацаваных штрэкаў адыходамі абагачальнай фабрыкі. Гэта дае магчымасць праводзіць далейшую распрацоўку (адыходы адыгрываюць ролю мацуючага матэрыялу).

Яшчэ летась Міністэрствам хімічнай прамысловасці СССР быў выдаткаван Першаму Салігорскаму калійнаму камбінату мільён рублёў на правядзенне адпаведных доследных работ. Дырэктар камбіната В. Яцэнка паабяцаў пусціць гэтыя сродкі па прызначэнні. Але чым закончыліся доследныя работы (ды ці праводзіліся яны), невядома і сёння.

Праблема гаспадарскага, рацыянальнага выкарыстання калійных соляў Старобінскага месцанараджэння патрабуе свайго неадкладнага вырашэння.

**М. КРАСНАКУЦКІ,**
старшыня секцыі аховы нетраў Беларускага таварыства аховы прыроды.

# І НАША АДКАЗНАСЦЬ

Нядаўна на Савецкай вуліцы ў Гомелі, насупраць Цэнтральнага паштамта, я на-

Віктар КАРАМАЗАЎ, спец. кар. «Літаратуры і мастацтва»

# НА АСЯЛКУ НАРОДНАЙ МУДРАСЦІ

ласамі, пачала з ёй гаворку. Не чула, як з-за куста выйшаў чалавек, служка графскі, падскочыў ззаду да Лілеі... І не стала дзяўчыны.

Калі кругі разышліся, на тым месцы ўсплыла на паверхню вады беласнежная кветка з залацістай сардушкай. Убачылі людзі кветку, ахнулі ад такой прыгажосці і назвалі кветку Лілеяй.

ТАМ, на беразе Глублі, у Альшэўскім парку, яшчэ я не ведаў гэтай легенды. Яе Іван Пятровіч расказаў пазней, калі мы вярталіся з саўгаснага свята ў Куцькі. І тады зноў прыгадалася яго кароценькая размова з дзяўчатамі на беразе возера:

— Вера, Люба, Люся?!. Вам не шкада красу таптаць?..

— Гэта хлопцы...

І я ўжо быў упэўнены, што кветкі не рвалі ні Вера, ні Люба, ні Люся. Яны былі вучнямі Драўніцкага, а яго вучні ведалі народнае паданне пра залатое сэрца Лілеі.

Недзе ў ціхім кутку, зусім, здаецца, нечакана, адзін чысты крынічны струменьчык прабіваецца на волю і дае пачатак магутнай шматводнай рацэ... Такім першым струменьчыкам—чыстым, крынічным—стала легенда аб Лілеі. Драўніцкі падслухаў яе ад людзей, сваіх землякоў, зразумеў мудрасць і паэзію. якая ў ёй жыве, яе права на існаванне і запісаў. Да першай ручаінкі пацяклі іншыя. Людзі ўбачылі, як старанна шукае настаўнік паданні, слухае і запісвае мудрасць народную—самі панеслі яму і легенды, і песні, і казкі. У разумных бацькоў аказаліся разумныя дзеці. Збіраць вусную народную творчасць, запісваць яе пачалі школьнікі—вучні Драўніцкага. Захапленне стала калектыўным, авалодала амаль усёй школай.

Гартаю альбом з вуснай народнай творчасцю, сабранай вучнямі Куцькаўскай васьмігодкі. Пяцікласніца Іра Позныш запісала надзвычай цікавую песню «Доля», Лёня Кібіс—песню «У бары», Лёня Позныш—легенду «Дзявіца»... У гэтых легендах і песнях усё сваё, куцькаўскае: назвы вёсак, азёр, рэк і прозвішчы сялян, паноў, на якіх некалі парабкавалі дзяды і прадзеды сённяшняй куцькаўскай моладзі, і прырода свая, родная.

— Непадалёк ад Куцек стаяць вёскі Лукашэвічы, Венцавічы, Багацькі, Калоднае,— кажа Іван Пятровіч.— Адкуль такія назвы? Ёсць паданне. Вакол вёскі Багацькі землі і раней былі багатыя. Дазнаўся аб гэтым ваявода, прыйшоў з войскам трэсці сялян. Выбралі сяляне казаля Лукаша сваім атаманам, і пачаў Лукаш біцца з асілкам ваяводы. Зламалася ў Лукаша булава—мужыкі рэзалі вялізныя калоды і біўся Лукаш калодамі. Дзе рыхтавалі калоды—там цяпер вёска Калоднае. Не стала калод — біўся каменнем, якое мужыкі зносілі адусюль. Таму столькі многа вакол камення. Схапіў Лукаш камень у восемдзесят пудоў і забіў ім асілка ваяводы на трэці дзень бойкі. Пабеглі войскі. Дзе перамог Лукаш — там вёска Лукашэвічы. А дзе Лукаша вянком з палявых кветак упрыгожылі, там стаіць вёска Венцавічы...

Драўніцкі расказвае, як народная творчасць, яе паэтычныя вобразы, змест, мова дапамагаюць выхоўваць моладзь, прывіваць ім разуменне жыцця, любоў да сваёй зямлі, яе гісторыі, культуры, да сваёй вёскі і аднавяскоўцаў. З гэтай любві ў моладзі нараджаецца неабходнасць самім складаць радкі верша, песні, апавядання. Пачынаецца творчы працэс, мысленне роднымі вобразамі.

ЗА АКНОМ шчабечуць птушкі. У хаце—дзеці.

Драўніцкі збірае сям'ю ў дарогу, спяшаецца, бо недзе праз паўгадзіны трэба трапіць на аўтобусны прыпынак—каб не спазніцца ў далекаватую ад Куцек вёску на вяселле. Але і ў спешцы не забывае паказаць мне рукапісны літаратурна-мастацкі часопіс «Хваля», які выходзіць у школе, афармлены вучнямі альбом пра аднавяскоўца Героя Сацыялістычнай Працы Эдуарда Вікенцьевіча Ціхага. У альбоме не толькі цікавыя здымкі, дакументы, але і біяграфія чалавека. Напісана яна цікава, кожнае слова прапушчана праз душу:

«Закінуты сярод лесу засценак. Стогне мяцеліца, трашчыць мароз. Лучына асвятляе кавалак стала. Чуваць песню:

Пахне дзёгцем, потам, рыжаю аўчынай,
Цішыня ў хаце, згорбленай, старой,
Ды гарыць памалу ноч даўгой лучынай...

Ля бабулі Альбіны, стаіўшы дыханне, сядзяць малыя дзеці».

Гэта радкі з біяграфіі Эдуарда Вікенцьевіча. Чыстыя словы — ад чыстых пачуццяў...

А ніжэй—фотаздымак. Эдуард Вікенцьевіч, вясковы механізатар і герой, гэтак жа паэтычна настроены чалавек, чытае казку вясковым дзецям. Ці не тую самую, што пачуў калісьці ад бабулі Альбіны?

Дзіцячая творчасць вылілася і яшчэ ў адну патрыятычную справу. Па ініцыятыве Драўніцкага вучні школы пачалі складаць гісторыю сваёй роднай вёскі—«Родны кут». Пачынаецца яна так:

«Пры ўпадзенні рэчкі Безымяннай у Струну здаўна ўтварыліся прыгожыя куткі зямлі. Маляўніча спалучаліся тут дрымучы лес, лугі, рэчка. Слова «куткі» з цягам часу страціла сваё першаснае вымаўленне. Літара «т» змякчылася перад мяккім суфіксам «к» і ўтварыўся ўласны назоўнік «Куцькі».

Так і Багатка стала Багацькамі...»

З першага радка— і гісторыя, і граматыка, і геаграфія, і паэзія роднага кута.

А далей—даследаванне жыцця вёскі, жыцця людзей, якія аралі зямлю, вырошчвалі хлеб, садзілі сады, будавалі хаты, лавілі рыбу, гадавалі дзяцей... І змагаліся. Супраць паноў і паншчыны. За волю і долю. Усталёўвалі ў Куцьках Савецкую ўладу. Будавалі калгас. Ваявалі. Перамагалі. Гінулі і выжывалі. Тут — пра Івана Нябескага і Мацвея Місевіча, якія змоладу пайшлі ў рэвалюцыю, прымалі ўдзел у штурме Зімняга палаца ў Пецярбурзе;

пра ўсталяванне Савецкай улады ў Куцьках і першага старшыню мясцовага камітэта беднаты Міхаіла Позныша;

пра Мікалая Місевіча, члена Камуністычнай партыі з 1905 года, які вырас ад куцькаўскага бядотнага хлапчука да народнага камісара па забеспячэнні;

пра трынаццаць куцькаўскіх мужыкоў, якія ад голаду і панскіх здзекаў уцяклі ў 1927 годзе ў Аргенціну на заработкі, пра дваіх з іх—Позныша і Місевіча,—якім толькі і ўдалося вярнуцца назад у сваю вёску;

пра аднавяскоўцаў, якія ўдзельнічалі ў Вялікай Айчыннай вайне, мужна змагаліся з фашызмам...

А потым вёскаю і лугамі мы ішлі да прыпынку на свірскі аўтобус. Іван Пятровіч усю дарогу расказваў аб сваёй школе, Куцьках, аб аднавяскоўцах, дзецях. Аб старых і новых звычаях, народным мастацтве.

Так, новыя звычаі тут нараджаюцца таксама. Як?... А вось...

Выдалася нядзелька. Летняя, цёплая, парная. Сабраў Драўніцкі вясковых рыбакоў і павёў іх на рэчку спаборнічаць. Хто выцягне на вуду большую рыбіну, хто смачнейшую юшку зварыць... За рыбакамі сыпанулі на рэчку малыя і старыя, рыбацкія жонкі і маці. З вясёлымі жартамі, песнямі, парадамі. Лавілася рыбка вялікая і малая. Была юшка на вогнішчы. Але самае вясёлае чакала наперадзе, калі Іван Пятровіч аб'явіў конкурс на рыбацкія былі і небыліцы, анекдоты, тую бяскрыўдную захапляючую пахвальбу, якая спакон веку прыжылася ў рыбацкай душы і даўным-даўно мяжуе з сапраўднай народнай творчасцю. Пераможца вызначаўся па апладысментах і рогаце. Плесці анекдоты рыбакам дапамагалі жонкі, спаборнічалі цэлымі сем'ямі. Тут ужо смех даходзіў да слёз... І пераможцы, безумоўна, былі таксама. Галоўнае ж—смяяліся Куцькі да позняга вечара...

А яшчэ вёска памятае, як летась у школе было наладжана свята школьнага ўраджаю. Кожны вучань павінен быў што-небудзь спячы: булку, пірог... Пяклі, вядома, дома. Найпершая ўмова—каб печыва было прыгожае, пamастацку аформленае, арыгінальнай формы. Ну і... Каб было смачнае...

Потым селі за сталы. Быў чай. Дэгуставала амаль уся вёска. З вучнямі папрыходзілі іх бацькі. Асабліва актыўнічалі жанчыны: у тых пірагах была вялікая доля і іх мастацтва, умельства, іх любві да хлеба.

Не забудуць і гэтага свята Куцькі. А маладыя людзі, вядома, яшчэ мацней палюбяць хлеб, узгадаваны на роднай ніве...

МЫ ДАЧАКАЛІСЯ аўтобуса і брукаванай шашой ехалі з вёскі. Іван Пятровіч з сям'ёй—за Мядзель, я—да Мядзеля. Як толькі мог, выў і чыфыкаў далёка не новы матор і гаварыць, каб добра чуць адзін аднаго, было цяжка. Неўзабаве мы замоўклі.

У дарозе можна было яшчэ раз падумаць аб тых уражаннях, якія напаткалі мяне ў Альшэве і Куцьках. Але павяло на ўспаміны больш далёкія. Мне раптам здалося, што Драўніцкага я недзе сустракаў і раней. Дзе ж?.. Недзе ў Веткаўскім раёне... І пад Бабруйскам... І на Лепельшчыне. А яшчэ — у вёсцы Матарова Пухавіцкага раёна... Не, там быў стары настаўнік Сцяпан Іванавіч Бардзіян. Ён таксама пісаў гісторыю сваёй вёскі, сабраў на дзіва цікавыя ўспаміны старых аднавяскоўцаў, дзе захаваў і мову іхнюю, і дробязі вясковага побыту, і саму сялянскую філасофію. А самае цікавае і каштоўнае, што гэты вясковы энтузіяст вельмі многае зрабіў, каб адшукаць пісьмы Аляксея Максімавіча Горкага ў Матарова да селяніна Хведара Трапашкі, які вельмі цяжка, самавукам ішоў да ведаў і якому вельмі дапамог у гэтым Горкі. Сотні кніг прыслаў са сваёй бібліятэкі Горкі ў Матарова. Войны растрэслі іх. Але некалькі пісьмаў яго да Трапашкі і калгаснікаў Бардзіяну ўдалося адшукаць і захаваць, зрабіць надзвычай карыснымі дапаможнікамі ў выхаванні моладзі вёскі.

Многа ў нас стала такіх людзей, як Драўніцкі. Сапраўдныя інтэлігенты на вёсцы, людзі высокай культуры, якія выйшлі з народа, глыбока разумеюць каштоўнасць народнага слова, яго песні, легенды, яго мудрасці, у любы час гатовы стаць даследчыкамі гэтага духоўнага скарбу, рэстаўратарамі яго першаснай чысціні і духмянасці.

Закончыць гэтыя нататкі хочацца кавалачкам з легенды «Дзявіца», якую запісаў вучань сёмага класа Куцькаўскай васьмігодкі Лёня Позныш.

...Ля рэчкі Струны, ля якой стаяць і Куцькі, землямі і людзьмі некалі валодаў граф Старжынскі. Парабкавалі ў яго Ганна і Раман. Кахалі яны адзін аднаго, але графіня Эльза рашыла высватаць Ганну за сына свайго аконама. Паклікала Ганну, загадала ёй:

— Паспявай мне сваю песню.

— Мае песні беларускія, а ты немка. Мае песні мужыцкія, а ты графіня,—адказала ёй Ганна.

— Тады будзеш жонкаю сына аконама,—загадала Эльза.

— Я кахаю Рамана...

І кінулася Ганна ў рэчку Струну, у вір.

Аднойчы прыйшоў на Струну Раман. Выйшла да яго Ганна з віра, сказала яму:

— Змагайся, любы, з няпраўдай.

І пачалі гуляць чырвоныя пеўні па панскіх ды графскіх стрэхах.

Загадаў граф спаліць хаты Рамана і Ганны. Калі яго служкі падышлі да Ганнінай хаты—яна правалілася ў зямлю, а там, дзе стаяла, аказаўся чорны вір.

Знішчыў Раман графа Старжынскага. Знішчыў усё яго племя, вызваліў сваю зямлю ад паноў і графаў. Усплыло тады некалькі бярвенцаў Ганнінай хаты.

Пайшоў Раман па свеце далей—нішчыць ліхадзеяў, паноў, графаў, ворагаў працоўнага чалавека. І калі знішчыць усіх на свеце, як прасіла Ганна, тады выйдзе яна з рэчкі Струны, усплыве ўся яе хата, і будуць сумленныя людзі гуляць яе вяселле з Раманам.

А цяпер, раз у год, кажуць, паказваецца яна з віра, каб паглядзець як Раман бяду знішчае.

Кажуць людзі:

— Дзявіца выходзіць.

І завуць Ганнін вір Дзявіцай...

Такую легенду запісаў Лёня Позныш. Колькі людзей яна выхавала паэтамі і змагарамі за волю і справядлівасць на зямлі з таго часу, як ходзіць у народзе, колькі зерняў праўды, сумленнасці яна пасеяла. А колькі яшчэ пасее!

## З ПОШТЫ ЛІМа

З ПОШТЫ ЛІМа — З ПОШТЫ ЛІМа — З ПОШТЫ «ЛІМа» — З ПОШТЫ ЛІМа

**глядаў такую сцэну. Да двух юнакоў, у якіх нястрыжаныя космы віліся па каўнярах, падышлі хлопец і дзяўчына. У яго капа нячэсаных валасоў, чаравікі на тоненькіх абцасах. У руцэ транзістар, уключаны на ўсю моц. Дзяўчына ў пярэстай сукенцы з начэпленымі бліскучымі бляшкамі. Ярка падведзены вочы і вусны. Хлапец абшчаперыў сяброўку.**

**— Ало, мальчыкі! Прашвырнемся да Сожа на пляж...**

**— Псіх, — адказаў яму высокі канапаты юнак з нястрыжанай грывай. — Які Сож! Лепш зойдзем у кабак — у жываце нешта пабульквае...**

**«Кабаком», як я здагадаўся, яны называлі рэстаран.**

**Людзі на вуліцы здзіўлена азіраліся. Але шумную кампанію, відаць, гэта не бянтэжыла. Наадварот, як я заўважыў, яны ганарыліся, што звяртаюць на сябе ўвагу, а дзяўчына, на плечы якой усё яшчэ налягаў хлапец, пыхліва пагладала вакол сябе. Здавалася, позірк яе гаварыў: «Што вы разумееце ў модзе! Вось стаім і гутарым, і адразу відаць, што мы — сучасная моладзь. Захочам—«прашвырнемся» на пляж, або засядзем у любым рэстаране...»**

**Прыслухоўваюся да іхняга небагатага лексікону, і на памяць прыходзіць Элачка з «Дванаццаці крэслаў». Аўтары з сарказмам пісалі, што, па падліках даследчыкаў, слоўнік Шэкспіра складаўся з 12 тысяч слоў, слоўнік негра племя «Мумба-Юмба» — з трохсот слоў, а вось Элачка Шчукіна лёгка абыходзілася трыццаццю. «Колькі ж слоў у лексіконе гэтых нястрыжаных і нячэсаных!» — падумаў я.**

**І каб гэта быў адзіны выпадак, ён, мусіць, і не запоўніўся б.**

**Але я бываў у многіх гарадах і такія сцэнкі бачыў даволі часта.**

**Нядаўна ў рэдакцыі «Гомельскай праўды» мяне пазнаёмілі з адным пісьмом. У ім некалькі гамяльчан з абурэннем пішуць пра такіх вось юнакоў і дзяўчат, што, як пудзілы, сноўдаюцца па вуліцах. Аўтары пісьма называлі іх гультаямі, абібокамі...**

**Можа, гэта і не зусім так. Упэўнены—сярод юнакоў і дзяўчат з «ультрамоднымі» прычоскамі нямала добрых, працавітых. Але неразумная цяга да перайманія ўсяго знешняга, крыклівага, жаданне не адстаць ад моды робіць тое, што яны перашываюць касцюмы, чапляюць на сябе бог ведае што, размалёўваюцца, адпускаюць валасы...**

**Мне ўспамінаюцца нялёгкія ваенныя гады — цяжкія баі за Сінявінскія вышыні. Там, непадалёк, праходзіла па лёдзе Ладажскага возера славутая «Дарога жыцця». Па ёй падтрымлівалася сувязь з гераічнымі ленінградцамі, якія не скарыліся ворагу. І за рулём, у цесных, прамерзлых кабінах грузавікоў сядзелі юнакі прыкладна такога ж узросту, як вось гэтыя, што на поўны голас раяцца, куды пайсці правесці вольны час. Тыя юнакі везлі ў блакадны Ленінград боепрыпасы і хлеб — везлі жыццё. Яны не хаваліся пры артылерыйскім ці авіяцыйным налёце, часам разам з машынай правальваліся ў палонкі, прабітыя снарадамі. Яны любілі жыццё і абаранялі яго. А здаралася — і паміралі. Ціха, як героі. Яны думалі не аб сабе, а аб іншых, аб светлым дні перамогі...**

**Гэтыя ж не ведаюць, як бавіць час. Я ўпэўнен: яны рэдка заглядваюць у кнігу, наўрад ці сочаць за лепшымі навінкамі літаратуры і кіно. Галоўны іх клопат — быць падобнымі на тых «хіпі», якіх малююць на вокладках замежных часопісаў.**

**Што на гэта можна сказаць! Я лічу, што нейкая доля віны ляжыць і на нас. У кожнага з гэтых юнакоў і дзяўчат ёсць бацькі. Усе гэтыя, можа, і не такія дрэнныя маладыя людзі, працуюць або вучацца, жывуць у калектыве. Ці ўсё зрабілі іх бацькі і мы, каб раскрыць вочы «моднікам» на сапраўдныя скарбы культуры, на тое, што культурны, адукаваны чалавек ніколі не будзе на поўны голас абмяркоўваць з сябрамі, куды пайсці прабавіць час, не будзе груба ашчаперваць сяброўку на вачах у людзей. У маладога чалавека павінна быць багатая ўнутраная культура, чаго, безумоўна, дабіцца значна цяжэй, чым адпусціць даўжэзныя валасы.**

**Я доўга працаваў настаўнікам, прывіваў сваім выхаванцам любоў да тэхнікі, да дакладных навук, канструявання. Разам з тым я ніколі не забываўся вучыць іх культуры паводзін, сціпласці, ветлівасці. За былых сваіх вучняў я спакойны.**

**Дык давайце агульнымі намаганнямі перавыхоўваць нястрыжаных, калматых «моднікаў». Няхай кожны з нас будзе нецярпімы да самага малога праяўлення бескультурнасці на вуліцах роднага горада, да падобных сцэн, якія я абмаляваў у пачатку гэтага пісьма. Няхай усе пажылыя і маладыя — будуць вартымі нашага цудоўнага светлага жыцця.**

Альбін МІЛЕЎСКІ,
заслужаны настаўнік БССР, ганаровы грамадзянін г. Гомеля.

## Валянцін Зуб

# Юнацтва рыцара





**Урывак з п'есы**

**Рэспубліканскі тэатр юнага гледача паставіў маю новую п'есу аб юнацкіх гадах Ф. Э. Дзяржынскага. На рэспубліканскім конкурсе спектакль па гэтай п'есе атрымаў трэцюю прэмію. Прапаную ўвазе чытачоў урывак з гэтай п'есы.**

**Сябра сям'і Дзяржынскіх ксёндз Гжыбоўскі, без ведама і згоды Фелікса, дамовіўся з Ватыканам, што юнак, калі скончыць гімназію, паедзе вучыцца ў Рымскі універсітэт «Ангелікум». Фелікс прыходзіць у касцёл сказаць Гжыбоўскаму, што ён адмаўляецца ехаць.**

**Аўтар.**



*СЯРЭДЗІНА касцёла. Цемра. Толькі маленькая лампадка пад вялікай іконай, высвятляе кавалачак адзення якогасьці святога. Сюды заходзіць Фелікс. У яго руках кніжка Лёрэнцэ, якую ён нервова круціць. Спыняецца. Уважліва азіраецца наўкола. Але адчуваецца, што ён нікога не бачыць. І раптам з цемры чуецца голас: «Сын мой, ты прыйшоў вельмі дарэчы. Вячэрня ўжо скончылася, усе парафіяне разышліся па дамах і нам ніхто не перашкодзіць пагаварыць па-шчырасці».*

*У наступны момант у цьмяным святле лампадкі паяўляецца ксёндз Гжыбоўскі. Ён запальвае некалькі свечаў і ў касцёле адразу робіцца святлей. Толькі тады Гжыбоўскі падыходзіць да Фелікса, пільна глядзіць на яго ў чаканні, што ён скажа.*

ФЕЛІКС. Я прыйшоў падзякаваць вам, ойчэ, за вашы клопаты аба мне... Але я не магу паехаць вучыцца ў «Ангелікум».

ГЖЫБОЎСКІ. Што здарылася, сын мой?

ФЕЛІКС. Нічога. Я не хачу быць ксяндзом, не хачу служыць богу.

ГЖЫБОЎСКІ. Але чаму, сын мой?

ФЕЛІКС *(горача)*. Чаму ён не спапяліў тых, хто спапяляў невінаватых? Ён жа ўсё ведае, усё бачыць, усё чуе. Чаму так спакойна і абыякава глядзеў на гэтыя страшныя кастры? Чаму ён не пакараў забойцаў? Чаму ён маўчаў? А хіба цяпер на свеце мала робіцца зла і несправядлівасці? Хіба людзі менш пакутуюць? Я больш не веру! Чуеце, ойчэ? Я не веру! Дык няхай ён пакарае мяне, калі ён ёсць. *(Звяртаецца да іконы.)* Аглушы! Асляпі! Я чакаю!

ГЖЫБОЎСКІ. Сын мой, хто пасяліў у цябе зерне сумнення?

ФЕЛІКС *(адкрывае кніжку Лёрэнцэ, чытае)*. «Не шкадуйце людзей, не шкадуйце крыві. Памятайце, што няма ахвяры больш прыемнай богу, чым кроў яго ворагаў. Дзейнічайце мячом, а калі вам не ўдасца адкрыта забіць вінаватых, карыстайцеся ядам. Спаліце ўсе гарады, няхай агонь знішчыць праклятую краіну ерэтыкаў. Няхай на дрэвах будзе больш павешаных, чым лісцяў у лесе».

ГЖЫБОЎСКІ *(спакойна)*. Гэта з энцыклікі Папы Мартына пятага.

ФЕЛІКС. І людзей спальвалі толькі за тое, што яны думалі не так, як камусьці хацелася. У інквізіцыі былі і свае «героі». Фама Тарквамеда праславіўся тым, што адзін спаліў дзесяць тысяч дзвесце дваццаць чалавек жывымі. .

ГЖЫБОЎСКІ. Так, гэта было страшна... Але гэта было неабходна... У імя ўратавання веры... Веры ў бога.

ФЕЛІКС. Я магу яшчэ зразумець дзяржаўных дзеячоў, калі яны ўзнімаюць меч на ворагаў. Але царква—гэта ж храм міласэрнасці...

ГЖЫБОЎСКІ. Чалавеку патрэбна вера, бо ён прывык да паслушэнства і не ўяўляе сваё жыццё інакш. А рэлігія дае яму не прыгнечанне тырана, а мудрую і разумную мараль: «не забі, не ўкрадзі, не пажадай жонкі бліжняга свайго, ні асла яго...» Хіба гэта не справядліва?

ФЕЛІКС. Пабудаваная на падмане вера не можа быць справядлівай.

ГЖЫБОЎСКІ. Ты начытаўся Лёрэнцэ? І я чытаў, сын мой... Чытаў... І вось таксама абураўся. Але мне ўдалося пераадолець сябе... Я ўпэўнены: людзям патрэбен бог.

ФЕЛІКС. Вы не верыце ў бога! Вы дзеля сваёй ксяндзоўскай кар'еры забілі ўсё самае лепшае, што было ў вашым сэрцы.

ГЖЫБОЎСКІ. Зразумей, сын мой, толькі цаной пераадолення сябе чалавек знаходзіць сябе і сваё месца...

ФЕЛІКС. Яшчэ раз дазвольце падзякаваць вам, ваша прападобнасць, за вашы клопаты аб маім лёсе. Але я не буду забіваць сябе дзеля кар'еры.

ГЖЫБОЎСКІ. Адумайся, сын мой! Ад чаго ты адракаешся! Якую магчымасць аб'яднаць радзіму нашу ўпускаеш! Многія, вельмі многія маладыя сыны Польшчы палічылі б гэта за найвялікшае шчасце. Толькі імем усявышняга мы можам аб'яднаць палякаў. Ты шукаеш сілу, здольную ўладарыць над светам. Дык вось яна!... *(Уздымае руку з крыжам.)* Адзін узмах і тысячы падаюць ніцма... Каралі і каралевы ўзнімаюцца на трон і злятаюць з яго па ўказцы аднаго гэтага пальца... *(Паказвае мізінец.)* Адно наша слова і мільёны з мячамі кідаюцца адзін на аднаго... Людзям патрэбен бог! Інакш на зямлі будзе хаос і неразбярыха... І тады загіне яшчэ больш людзей, чым ад інквізіцыі. Вальтэр мудра сказаў: «Калі б бога і не было, яго трэба было б выдумаць».

ФЕЛІКС. Ён выдуманы, ваш бог! Выдуманы!

*Выбягае.*

**Але ксёндз Гжыбоўскі не адмовіўся ад свайго намеру і спрабуе праз сям'ю ўздзейнічаць на Фелікса.**

*Двор сям'і Дзяржынскіх. Раніца. На дварэ Тарас з расшпіленым каўняром габлюе дошкі. Ужо некалькі новых дошак заменена ў агарожы, пад дрэвам бялее новая лавачка. З дому выходзіць Альдона. Убачыўшы яе, Тарас хуценька зашпільвае каўнер. Альдона выцірае фартухом вочы.*

ТАРАС *(занепакоена)*. Панна Альдона, вы плачаце? Што здарылася?

АЛЬДОНА. Я чысціла цыбулю.

ТАРАС *(палегчана ўздыхае)*. Уф, дзева Марыя... А як маці?

АЛЬДОНА. Ляжыць. Ёй зусім нельга хвалявацца. *(Заўважае зробленае Тарасам.)* Які вы гаспадарлівы, пан Тарас. А ў нас хлопцаў многа, а толку мала. Фелікс умее бачыць толькі чужую бяду, а што робіцца дома, гэта яго зусім не турбуе.

ТАРАС. Бачыць чужую бяду далёка не ўсе хочуць. Звычайна людзі стараюцца яе не заўважаць, абысці... А ўмешваюцца толькі тыя, у каго тут *(прыкладае руку да сэрца)* не вугельчык тлее, а полымя шугае.

АЛЬДОНА. Ад гэтага полымя ў нас дома ўсё гарыць. Вас не здзіўляе гэтае нечаканае рашэнне Фелікса адмовіцца ад паездкі ў «Ангелікум»?

ТАРАС. Вы ўжо ведаеце?

АЛЬДОНА. Так. Раніцай аб гэтым нам сказаў сам Фелікс. А цяпер прыехаў ксёндз Гжыбоўскі. Ён вельмі ўсхваляваны. Як толькі ўсё гэта перажыве мама.

ТАРАС. Вы павінны растлумачыць ёй...

АЛЬДОНА. Не, гэта вы, як сябра, як старэйшы таварыш, павінны растлумачыць Феліксу, што ён памыляецца, ён зусім не ведае жыцця і не ўмее жыць з людзьмі. *(Плача.)*

ТАРАС. Няўжо вы не разумееце, што Фелікс ужо выйшаў з таго ўзросту, калі водзяць за ручку.

АЛЬДОНА. Разумею. Таму і прашу вас пагаварыць з ім. Часам і разумнага трэба перасцерагчы. Вы абяцаеце? Абяцаеце?

*З дому выходзіць Алена Ігнатаўна і ксёндз Гжыбоўскі.*

АЛЕНА ІГНАТАЎНА. Альдона, дай мне крэсла.

*Крэсла падае Тарас.*

Дзякую *(садзіцца)*.

АЛЬДОНА. Мама, навошта ты ўстала? Ты ж зусім хворая.

АЛЕНА ІГНАТАЎНА. На Фелікса нехта дрэнна ўплывае. Я гэта адразу адчула.

АЛЬДОНА. Але хто? Тут жа нікога такога няма. Можа, у Вільні?

АЛЕНА ІГНАТАЎНА. І ў Вільні і тут. *(Раптам, павярнуўшыся да Тараса)*. Таму я вас вельмі прашу, пан Тарас, пакіньце майго сына ў спакоі... І ў Вільні, і тут.

АЛЬДОНА. Мама, што такое ты гаворыш?

АЛЕНА ІГНАТАЎНА. Я ведаю, што я гавару.

*Тарас рвануў каўнер кашулі, пабег у хату, потым спыніўся.*

ТАРАС. Прашу мяне прабачыць. *(Выбягае.)*

---

# Паэтычная паверка

## Міхась СТРАЛЬЦОЎ



### ПІШЫЦЕ ПІСЬМЫ

Прывітанні шліце, прывітанні.
Спакваля мінаецца пара,
Калі ў дні турботаў, у растанні
Мы без пісьмаў верылі сябрам.

Што пісьмо? Якая ў ім зарука?
Ашчадкніжка дружбы? У той час
Ў сэрцы мы заходзілі без стуку—
Хто за тое крыўдаваў на нас?

Тэлефонна-звонны, рукапісны
Запаўняем вось на дружбу чэк.
«Тэлеграмы лепей, чымся
пісьмы!»—
Агітуе рэактыўны век.

Шлём і пішам, хоць і без ахвоты,
Без імпэту і старання без.
«Ашчаджайце грошы! Самалёты
Значна лепей, лепей, чым экспрэс».

Аркушок узяў паперы чыстай:
Што дарэмна плакаць ды
ўздыхаць?
Не адбудзеш вершыкам, і ліст той
Усё роўна мусіш напісаць.

●

О як я вернасці баюся,
О як я вернасці жадаю!
Плачу даніну дзіўнай скрусе,
Калі табе кажу: «кахаю!»

Плачу даніну дзіўнай здрадзе,
Што між пялёсткамі лілеі,
Прыдатная чужой уладзе,
Быць пэўнай ў пэўны час умее.

І ты, лілея, ты, лілея!..
Спякотны дзень трымціць
бясконца.

Тады ўжо я паразумнею,
Калі цябе сасмажыць сонца!..

●

Мяне замкнула у пакоі —
Знарок, напэўна, каб я спаў,
Затым, каб грэшнае, зямное
Сюды парог не прапускаў.

І мне прысніліся дубровы
І на таку дзіцячы след,
Раней не сказаныя словы
І у жніво скупы абед.

Дзень сарамлівы, дзень уцешны
Глядзеў з-пад дзедавай страхі...
І сон мой быў не так і грэшны,
Хоць сніліся мне і грахі.

●

Які прастор!
Які прастор!
Рукой падаць,
Рукой дастаць
Да зор!
Лячу увысь. Шчаслівае імгненне!
Ураз парваны путы прыцягнення—
І вольны я. І прагай распылення,
Пакутай гордаю самазнішчэння
Душа напоўнена.
Вось выбух!
На зямлі
Вы ў гэты міг хіба яшчэ жылі?

### ДРУГІ СЕЗОН

І перапіт і з'едзены
На поўдні ўвесь азон,
К начальству на агледзіны
Імчым — другі сезон.

Настаўніцы—застаўніцы
Сямейнага дабра —
Яшчэ як ля прылаўніцы
Чужога серабра.

А поўдзень, поўдзень, поўдзень
Плыве над галавой...
Дык, можа, сёння пойдзем?
Ці пойдзеш ты са мной?

Я быў на той жа волі,
Але ад той пары
Збярог яшчэ даволі—
Рублёў мо сотні тры.

Ну што маўчыш, красуня?
Маўчыш — ні мэ, ні бэ,
Хада мой крок прасуе
Насупраць СКБ —

Твайго, мая красуня,—
Прасуе і прасуе.

### НА АДЫХОД ЗІМЫ

**1.**

Марозны дзень. Ледзь чутна
сіняе,
Паветра стыне. Вунь гара,
Дзе елкі несуцэльнай лініяй
Высока значаць небакрай.

А мне відно, як на далоні,
Паставу кожнай і абрыс.
У паасобку па адхоне
Яны ідуць спаважна ўніз.

Ідуць падобна—непадобна,
А снег на вецці—як пасаг.
І ў кожнай, як дазвол асобны,—
Свая асобная краса.

Вунь вёска. Там дымок узняўся
Над комінам—заляжа цень...
Не хочацца, каб паўтараўся
Днём учарашнім гэты дзень.

**2.**

Назаўтра вецер быў і пабяднелі
елкі.
Перамяло палі сумётамі. Пагоркі
Шурпата-шэрыя. Здалёк відаць:
ільсняцца
Сухім і шорсткім бляскам —
пралыселі.
Бяда ўжо будзе лыжніку. Яму
Так схочацца хутчэй туды, дзе
беллю
Хрупастка-чыстаю азначана
лагчынка.
(Зляжалы, белы, нетутэйшы снег!
Рукаў мятлюгі, выпетраны
ветрам).
Крычыць здурнела грузная
варона,
Ёй вецер пер'е рве, калі яна
садзіцца,
Зрабіўшы круг няўмелы, на
камлыгу.
Дарогай гонкай едуць цыганы.
(Бульдозер ранкам быў, пасля
ішлі машыны),
Цяпер на ей цыганскі санны след.
Ускраіна бо тут. Жывуць тут
цыганы.

**3.**

Жаўрук, ты тут зазімаваў
Ля сметнікаў, каля сумётаў.
І дзень пры дні—так многа спраў!
І столькі многа пералётаў!

АЛЬДОНА. Мама, мама, што ты робіш?

ГЖЫБОЎСКІ. Пані Альдона, вы ведаеце, я сябра вашай сям'і. І дрэннага вам не жадаю... Наш абавязак ратаваць Фелікса.

*З дому выходзіць Фелікс.*

ФЕЛІКС. Мама, навошта ты гэта зрабіла?

АЛЕНА ІГНАТАЎНА. Я ж твая маці... Хіба магу я маўчаць, калі цябе штурхаюць у прорву?

ФЕЛІКС. Але ж ты не выслухала мяне, не пагаварыла з Тарасам... *(Падыходзіць да маці, прыціскаецца да яе.)* Мама, ты павінна мяне зразумець... Я толькі цяпер пачынаю намацваць сваю сцежку, сваю дарогу...

АЛЕНА ІГНАТАЎНА. Мы хацелі, каб ты быў чалавекам...

ФЕЛІКС *(цвёрда)*. Я буду чалавекам, мама.

АЛЕНА ІГНАТАЎНА. Адукаваным.

ФЕЛІКС. Я буду адукаваным, мама.

АЛЕНА ІГНАТАЎНА. Шчаслівым...

ФЕЛІКС. Я буду шчаслівы, мама.

АЛЕНА ІГНАТАЎНА. Мы хацелі, каб ты дапамагаў людзям...

ФЕЛІКС. Я буду дапамагаць людзям, мама... *(Памаўчаў.)* Гэта ж ты, мама, навучыла мяне ненавідзець зло, несправядлівасць, прымус яшчэ ў дзяцінстве, калі расказвала нам аб паўстанні Кастуся Каліноўскага, аб лютасці Мураўёва-вешацеля... А з тых часоў мала што змянілася. Дык хіба можна з гэтым прымірыцца? Няўжо ты хочаш, каб і я навучыўся лгаць, крывіць душой? Ты такім хочаш мяне бачыць, мама? Такім?

АЛЕНА ІГНАТАЎНА *(прыхінула Фелікса да сябе, дрыжачай рукой гладзіць яго па галаве)*.

Мой сыночак, мой сын...

*З'яўляецца Тарас з чамаданам. Спыняецца.*

ТАРАС. Яшчэ раз прашу мяне прабачыць. *(Развітваецца схіленнем галавы.)*

*Усе прысутныя накіроўваюць трывожныя позіркі на маці, што скажа яна.*

АЛЕНА ІГНАТАЎНА *(павярнуўшыся да Тараса, доўга глядзіць на яго, нібы бачыць упершыню)*. Гэта вы мяне прабачце, пан Тарас. Я прашу вас—застаньцеся ў нас.

ГЖЫБОЎСКІ *(хвалюючыся)*. Пані Гелена, пані Гелена, цяпер я вас не разумею...

АЛЕНА ІГНАТАЎНА *(Гжыбоўскаму)*. Даруйце, ваша прападобнасць... *(Да Фелікса.)* Я не хачу няволіць цябе, Фелікс. Ты правы... Свой жыццёвы шлях кожны павінен выбіраць сам... Ідзі, сын мой, ідзі той сцежкай, якую падказвае табе сэрца... Дрэннай дарогі ты не выбераш... Я веру ў цябе...

*Цалуе Фелікса.*

ФЕЛІКС *(узрушана)*. Дзякую, мама...

*Павольнае зацямненне.*

---

**А крылцы—кволае вясло —**
**Знайшлі табе упынак.**
**Пераняслo і занясло**
**Цябе на мой прыпынак.**

**Чакаў аўтобус. Наўпрасткі**
**Ішоў з таго пагорка я.**
**Не клюй, не клюй з маёй рукі**
**Табакі крошкі горкія.**

**4.**

**Вечар быў, вечар.**
**Вось раніца.**
**Ў гэтым адкінутым шкле**
**Фортачкі адбіваецца**
**Лыжніца звонка.**
**Але**
**Помню, як сон, з'інелае**
**(Барвы сухія былі)**
**Неперaспела — даспелае**
**Ціха зайшло за палі,**
**Што не збылося—збывалася.**
**Ты прачакаў мяне, конь!**
**Шчасце ціхутка падкралася**
**І казытнула далонь.**

**5.**

**«Дождж—грыбасей, снег —**
**крупасей...»**
**Адкуль вы мне прысніліся?**
**«Касіць касе, бываць расе...» —**
**Са мной дзе разлучыліся?**

**А я то думаў, думаў я**
**Пра песню непрапетую:**
**Злаўлю падпаху салаўя,**
**Зіму з ім пералетую.**

**Ах, салавейка, салаўчо,**
**Галоўка несуцешная!**
**Такое лёгкае плячо,**
**Душа такая грэшная...**

**. . . . . . . . . . . . . . .**

**Дождж-грыбасей, снег-крупасей,**
**Зглуміце ўсе няўроды!**
**І год, і два. І год, і два —**
**Ідуць гады і годы.**

---



Янка СКРЫГАН

# БЕГЛЫЯ ЗАПІСЫ

У МЯНЕ ў апавяданні напісана: *Выгадавала* дзвюх дочак, і вельмі шчаслівая». Але на тэлебачанні нехта паправіў, і артыстка прачытала: «*Вырасціла* дзвюх дочак...»

Той, хто правіў, быў перакананы, што папраўляе лепш. На жаль, так бывае часта.

●

Настала пільная патрэба перавыдаць руска-беларускі і беларуска-рускі слоўнікі. Прайшоў доўгі час, шмат чаго добра ўнармавалася, сёе-тое не дало плёну, не апраўдала сябе. Большаю пашанаю пачала карыстацца жывая мова, законна становячыся асноваю стыляў — мастацкага, навуковага, службовага, а цяпер і энцыклапедычнага.

Многія пісьменнікі, журналісты, рэдактары, наогул людзі, якія знаюцца з моваю, на сваіх экземплярах слоўнікаў робяць паметы, дапіскі. Не шкодзіла б, каб інстытут мовазнаўства сабраў гэтыя паметы, і новае выданне слоўнікаў было б куды багацей.

●

Каларытнае слова *цяпершчына*. І калі б папракнулі нейкага пісьменніка, што ў яго творах мала цяпершчыны, то ўсё роўна ён зразумеў бы, што ад яго патрабуюць *сучаснасці*.

Сінонімы — багацце мовы; яны ніколі не варагуюць.

●

Вечная няўпэўненасць, як пісаць: *вінаробны* і *масларобны* ці *вінаробчы* і *масларобны*. Лепш бы ўжо нешта адно, або абедзьве формы і там і там. Бо памятаць штучную кніжную ўмоўнасць цяжка.

●

Ніяк не ўразумею, чаму мы пішам *звеннявы, звеннявая*, калі словаўтварэнне ідзе ад звяна і не патрабуе другога «н»: *звенавы, звенавая*.

●

Гэтак жа як *гатоўнасць*. Гатовы, гатоўля, загатоўля, гатаваць, гатоўка, нагатове, напагатове — нідзе няма «н». То, мабыць, правільна было б і пісаць *гатовасць?*

●

Цудоўнае слова *найсвяцейшы* — сінонім *свяшчэннага*. *Найсвяцейшы* наш абавязак — абараняць Радзіму.

●

Забываюцца некаторыя словы. І не яны вінаваты ў гэтым, а мы: усё аддаляемся ад жывое гаворкі. *Неўміручы, агністы, агняны, неўпрашоны...* А ў нас цяпер толькі *бессмяротны, вогненны, няўмольны*. Добрыя словы, але ж іх мала.

●

Жанчына ў магазіне:

— Ці ёсць у вас *складаная мэтра?*

Другая:

— Гэта ж я шукаю *машыновых* іголак ды нітак. Ці няма ў вас часам?

Колішняя партызанка ўспамінае, як выратаваліся яе сяброўкі з аблогі:

— Яны выйшлі цераз *тунэлу*.

На аўтастанцыі два мужчыны:

— Дакуль *будам* браць білеты?

— Да *Мірà!*

Паспрабуйце перадаць гэта моваю, прычэсанаю грабянцом нормы, і згіне ўся краса слова, яго жэст, свабода вобраза.

●

І яшчэ. Жанчына з Дзятлаўшчыны. Расказвае пра чалавека, што ўтапіўся.

— Ён быў вельмі спакойны мужчына. Вечна маўчыць. І ніхто ніколі не бачыў яго *выпітым*. Меў свой дом *на тры пакоі*. Як гарадскі: спальня, кухня, *прыхаджалая*.

Гэта, вядома, стыхія. Але які не пачапаны лад мовы!

●

Ёсць рускае слова *задел*. Тое, што пачата работаю, але не скончана. Думаючы, што калі «задел» ідзе ад «дело», то і ў беларускай мове лёгка можна ўтварыць ад «работы» — зароб. Так было і напісана: «У заробе тэатра тры п'есы». Аднак слова стаіць на такіх высокіх хадулях, што карыстацца ім ніхто не асмельваецца.

Мабыць, мова таксама мае свае законы несумяшчальнасці. Калі ісці ад прыроды яе, то можа лепш было б сказаць *распачын:* тое, што распачата работаю. «У *распачыне* тэатра тры п'есы». А найлепей успомніць жывую мову і сказаць: «Тэатр *распачаў работу* над трыма п'есамі».

●

— Сёння касілі па той *нізовіне*, што за лесам.

Якое светлае, яснае слова! А мы карыстаемся другараднымі.

Калі я працаваў у Эстоніі, мая памочніца была мне і за перакладчыцу. Я адчуваў сябе да страхаты няёмка: быць сярод людзей без іхняй мовы, гэта значыць быць ім чужым. Я паставіў сабе найпершую задачу: як мага скарэй не мець патрэбы ў перакладчыку. Праз паўгода ўсю дакументацыю я чытаў сам, ведаў, чаго ў мяне пытаюць або просяць, і што і як мне адказаць.

Мабыць, праз гэта доўга я адчуваў да сябе іхнюю прыязнасць нават пасля таго, як ужо не быў сярод іх.

●

Успамінаю, як ў нас гаварылі. Блакіт— гэта колер тонкі, лёгкі, з ласкаю для вока: *блакітнае* неба. А калі жанчына купляла хустку, то казала: «Купіла *галубовую* хустку». Гэта ўжо колер грубейшы, гусцейшы, больш празаічны.

Калі ткалі кросны, то ніколі не гаварылі, як у слоўніку: *чаўнок*. Гаварылі *чоўнік*. «Гэта ж мужчыны зрабілі новы чоўнік, дык цяжкавата ходзіць яшчэ».

А калі куплялі гаршкі на рынку, дык пробавалі моц, стукаючы па іх костачкамі пальцаў. Калі гаршчок (ці міска, ці макацёр, ці гладыш, ці злівак) быў пабіты, гэта пазнавалі па глухім голасе. На такі гаршчок казалі, што ён *трупціць*. Здаецца, што іначай і сказаць нельга, але цяпер у любой пасуднай краме гавораць іначай: не звініць.

У слове «трупціць» было знаццё справы, прырода самой рэчы, вобраз, мадэль.

●

У слоўніках напісана *дзяўчка*. А пра мужчын — *дзе́яч*.

Гаворым жа мы ўсё роўна дзеячы́, дзеячо́ў, дзеяча̀мі.

●

— Па *суботніх* і *нядзельных* днях слухайце нашы перадачы з цыклу...

Усё, здаецца, правільна ў гэтай аб'яве, па радыё, а праўды мовы няма. Кожная мова мае свае законы словаўтварэння. У рускай мове назвы двух дзён — субота і воскресенье — маюць свае прыметнікі: субботний день и воскресный день. У беларускай мове ні адзін дзень не мае свайго прыметніка. Вось чаму чутна̀ калька, хоць яна вельмі старанна падрабляецца пад натуру.

А натура выглядае куды харашэй і прасцей: — Слухайце нашы перадачы па *суботах* і *нядзелях*.

●

У Сафіі, у Дзяржаўным тэатры я глядзеў «Ягора Булычова». Вядома, на балгарскай мове. Пасля спектакля, устаўшы ўсёй сваёй жывой масай, зала доўга не выпускала артыстаў з гарачых воплескаў. Трыумф, слава, любоў, гордасць — усё было ў гэтай узрушанасці. Я падумаў пра сілу формулы: нацыянальная формаю і сацыялістычная зместам культура. Гэта яна мова, зрабіла так, што п'еса рускага пісьменніка стала з'явай нацыянальнай гордасці балгарына.

І тады падумалася пра дом. Калі сусветная і руская драматургія гучыць на беларускай сцэне, то ні сусветнай опернай класікі, ні рускай на сваёй мове мы не чуем. Ці вінаваты тут тэатр, ці паэты, ці артысты, але — шкада.

●

Уладзімір Калеснік, выступаючы неяк на сходзе, сказаў: «Па нашых творах рысы сучасніка выглядаюць часам *расплывіста*». А практыка абмяжоўваецца толькі адным, далёка не лепшым словам: *расплывчата*.

Ён жа, гаворачы пра нейкую каларытную фігуру, сказаў: «Не так разумны, як *нюхлівы*».

Якая яркая перадача вобраза!

І як жа доўга зачакаліся мы тлумачальных слоўнікаў, каб дасціпнасць жывога слова была ў нас напашэве.

●

— Ён змалку ў касцёле на *арганах* іграў.

Па слоўніках — на *аргане*.

Нехта ж тут памыляецца: ці жывая мова, ці слоўнікі.

●

— Зрабі сабе прымернік ды па ім і будзеш нарэзваць падрад, — казаў бацька, калі я збіраўся нарабіць дошчачак на фігурную шалёўку.

*Прымернік* — гэта экземпляр, які з'яўляецца асноваю да масавай вытворчасці, да якога прымерваюцца другія: узорзец. Мне здаецца, што гэтага слова вельмі не хапае ў тэхніцы. Бо *узор, узорны*— гэта нешта лепшае сярод другіх, а не той экземпляр, з якога можна размнажаць.

Яшчэ бацька казаў *зрàзы*. — Трэба будзе добрыя зразы дастаць ды прышчапіць тыя дзічкі, што з лесу паперасаджвалі.

Гэта таксама, мабыць, нешта лепшае, гатунковае, узорнае. Бо сёстры нават для вышывання даставалі зразы.

●

Археолагі пішуць: «Пры раскопках знойдзены скрэблы з пільчатай *рэтушшу*. А хочацца чытаць іначай, з больш натуральнай канструкцыяй слова: «...з пільчатым *рэтушам*». Гэтак жа, як і карціны пісаць не *гуашшу*, а *гуашам*.

●

Вось якімі багатымі адценнямі жывая мова надзяльвае некаторыя разуменні. Скажам — жанчына: дзяўчынка, дзяўчына, дзяўчо, дзеўчанё, дзеўчаня, дзеўка, дзявуля, дзявуха, маладзіца, кабета, баба. У кожным слове свая эмацыянальная акраса, за кожным стаіць свой вобраз і век — малады, сярэдні, пажылы. Але, перакладаючы з рускай «деваха», мы пакінем лепш кальку, а сказаць *дзейка, дзявуля* не асмелімся.

●

Можна быць бяздушным да чалавека, а да мовы нельга быць бяздушным, бо гэта народ.

●

Чытаю ў газетах: «У абстаноўцы поўнага ўзаемаразумення» і адчуваю душою, што не так гэта сказана. *Абстаноўка* — гэта тое, чым абстаўляюць кватэру, мэблю: «Купіў новую абстаноўку». А тут жа ўмовы, становішча, акалічнасць, абставіны.

Вось і хочацца, каб было напісана: «У *абставінах* поўнага ўзаемаразумення».

●

Барыс Платонаў расказваў, як аднойчы зусім нязначная выпадковасць *натыкнула* яго на думку прыдаць вобразу новую рысу.

Проста здорава, як хораша — натыкнула! А мы ж яго скрозь падменьваем словам *наштурхнула*, самі не верачы ў яго праўду.

●

Паміранне мовы такая ж натуральная з'ява, як і нараджэнне яе. Быць можа, што і мая мова некалі памрэ. Як памру я сам, чалавек. І я аніяк не баюся натуральнай смерці.

А от калі насільна паміраць — страшна.

**(Заканчэнне на 14-й стар.).**

СЯРОД КНІГ
СЯРОД КНІГ

# БЕЛАРУСКАЕ МАНУМЕНТАЛЬНАЕ

БЕЛАРУСКАЯ манументальная скульптура, пра якую ідзе гаворка ў гэтай кнізе, «...нягледзячы на цяжкія ўмовы, у якіх... фарміравалася ў першыя гады Савецкай улады і іншыя спецыфічныя асаблівасці росту, у цэлым развівалася ў агульным рэчышчы савецкага мастацтва, прайшла праз агульную барацьбу розных мастацкіх напрамкаў і, выйшаўшы на шырокую дарогу мастацтва сацыялістычнага рэалізму, унесла ў яго істотны ўклад...»

Рэтраспектыўна даследаваць беларускую манументальную скульптуру — задача надзвычай цяжкая, але і ўдзячная. І. Елатамцава, аўтар кнігі «Манументальны летапіс эпохі», упэўнена пракладвае першую баразну ў глебе маладаследаванага матэрыялу. І тут мы маем справу з вопытным, добра дасведчаным у сваёй галіне спецыялістам.

Першы раздзел кнігі — змястоўны нарыс аб супярэчлівым, але разам з тым на дзіва цікавым перыядзе беларускага мастацтва першых паслярэвалюцыйных гадоў. І. Елатамцавай удаецца перадаць непаўторную атмасферу творчых шуканняў мастакоў тых гадоў. Аўтар паслядоўна аналізуе характар развіцця тагачаснага савецкага мастацтва. Яна падкрэслівае, што пытанне аб шляхах развіцця культуры народаў, якім Кастрычнік даў роўнасць, было вельмі складаным. Калі перад рускімі мастакамі стаяла адна вядучая праблема — адлюстраванне новай сацыялістычнай рэчаіснасці, то ў мастацтве іншых рэспублік (і ў Беларусі ў тым ліку) гэта праблема ўскладнялася вырашэннем не менш важнай задачы: як будаваць новую рэчаіснасць, новую культуру сваімі, нацыянальнымі сродкамі? Вырашалася пытанне нацыянальнай своеасаблівасці мастацтва.

У кнізе створана шырокая карціна напружаных ідэйных і эстэтычных пошукаў мастакоў, барацьбы перадавых мастацкіх сіл супраць пустога, беспрадметнага эксперыментатарства. Не выпадкова аўтар акцэнтуе значэнне славутага Ленінскага плана манументальнай прапаганды, які адкрыў перад маладым савецкім мастацтвам сапраўды новыя шляхі. Асаблівае значэнне ён, зразумела, меў для скульптараў. На канкрэтных фактах у кнізе паказана ажыццяўленне гэтага плана ў Беларусі. І. Елатамцава не толькі здолела знайсці новыя матэрыялы і факты, якія пашыраюць наша веданне беларускага мастацтва паслярэвалюцыйных гадоў, але і сістэматызавала і прааналізавала раней вядомае.

У 30-я гады, калі ўдасканальваўся творчы метад сацыялістычнага рэалізму і калі з асаблівай вастрынёй паўстала праблема стварэння вобраза сучасніка, мастацкага асэнсавання размаху сацыялістычнага будаўніцтва ў краіне, «ад скульптуры патрабавалася максімальна выпуклае, яркае выяўленне новых якасцей, якія выхаваны ў людзях сацыялістычным ладам і змянілі іх знешняе і ўнутранае аблічча», уменне «спалучаць задачы манументальнай скульптуры са сродкамі псіхалагічнага партрэта». Апошняе, зразумела, павінна было адбіцца «на трактоўцы гістарычнай, рэвалюцыйнай тэмы, партрэтах дзеячоў прагрэсіўнага дэмакратычнага руху мінулага».

Гэты перыяд у беларускім мастацтве вывучаны больш сур'ёзна, чым папярэдні. Таму І. Елатамцава, натуральна, вялікую ўвагу ўдзяляе дэталізацыі аналізу канкрэтных твораў манументальнай скульптуры. Моцны бок гэтага аналізу — уменне прасачыць прычынную сувязь падзей і фактаў, устанавіць абумоўленасць з'яўлення той ці іншай задумы мастака, раскрыць прычыны поспехаў і няўдач творцаў.

На мой погляд, зусім справядліва аўтар удзяляе сур'ёзную ўвагу і тым з тагачасных задум, ажыццяўленню якіх перашкодзіла вайна. Але яны існавалі ў праектах, эскізах, макетах. І даўно ўжо чакаюць поўна вывучаны і апісаны ў спецыяльнай літаратуры (хоць, зразумела, кніга, у якой робіцца спроба расказаць чытачу пра беларускую манументальную скульптуру «ад і да», не павінна выключаць з дэталёвай размовы творы, аб якіх калісьці пісалася).

Нягледзячы на тое, што пасляваенны перыяд беларускага мастацтва вывучаны даволі добра, аўтар кнігі знаходзіць свой «ракурс» асэнсавання матэрыялу. Узнімаецца такая складаная праблема, як сінтэз мастацтваў.

У сувязі з гэтым І. Елатамцава разглядае эстэтычную каштоўнасць архітэктурна-скульптурных ансамбляў 50-х гадоў з пазіцыі сённяшніх уяўленняў аб архітэктуры і манументальнай пластыцы. Аўтар лёгка знаходзіць супярэчнасці ў архітэктуры Мінска 50-х гадоў і шукае прычыны іх з'яўлення. Вядома, было б наіўна звязваць іх толькі са з'явамі палітычнага і культурнага жыцця перыяду культу асобы. «Асноўная памылка заключаецца ў аднабаковым разуменні мастакамі сутнасці архітэктуры і празмерным пераўвелічэнні ролі мастацкай спадчыны...» — заўважае аўтар. Далей яна справядліва папракае мастакоў пачатку 50-х гадоў за празмернае захапленне мастацка-вобразным бокам архітэктуры. Не заўсёды асэнсаванае захапленне традыцыямі рускай класікі прывяло да пасіўнага выкарыстання старых форм, абмежавала пошукі новага. І, як натуральная рэакцыя на падобнага роду «класіцызм» у архітэктуры, з'явіліся вырашаныя ў тым жа духу помнікі. «Пастаменты рабіліся ў формах архітэктуры класіцызму і ўяўлялі сабой усечаныя пірамíды або чатырохграннікі. У структуры пастаментаў выдзяляліся база, або цокаль, ствол і, нарэшце, пляцоўка для скульптуры». Праўда, І. Елатамцава заўважае, што большасць скульптурных партрэтаў, устаноўленых на гэтыя пастаменты, створаны З. Азгурам яшчэ раней у якасці станковых. І ў іх канкрэтнасць, якая мяжуе з дакументальнай дакладнасцю, спалучаючыся з узвышанасцю пачуццяў і гераічным пафасам, натуральна чыталіся на такіх пастаментах.

Захапіўшыся гэтым безумоўна цікавым матэрыялам, І. Елатамцава, мне здаецца, дапускае іншы раз суб'ектыўнае тлумачэнне фактаў, што прыводзіць яе да пераўвелічэння ацэнак і значэння некаторых неажыццёўленых праектаў, помнікаў. А такі грандыёзны архітэктурна-манументальны комплекс, як Дом урада, аналізуецца аўтарам бегла, быццам гаворка ідзе аб рэчах зусім звычайных (выключэнне складае помнік У. І. Леніну скульптара М. Манізера). Дапушчаны недакладнасці ў разборы і ацэнцы афармлення інтэр'ераў Дома ўрада.

Відаць, дала сябе адчуць упэўненасць аўтара ў тым, што комплекс Дома ўрада даволі сур'ёзнага аналізу гісторыкаў мастацтва.

Раздзел «У пошуках новага» — аб апошнім 15-годдзі развіцця беларускага манументальнага мастацтва — напісаны лёгка і свабодна. Тэарэтычныя абагульненні звязваюцца тут з невялікімі па аб'ёму мастацтвазнаўчымі характарыстыкамі твораў. Паколькі большая частка помнікаў апошніх гадоў, аб якіх ідзе гаворка, стваралася адначасова з напісаннем кнігі, пастолькі, як прызнаецца сама аўтар, многія з іх толькі ўпамінаюцца.

Як можна зразумець з кнігі, аб'ектам увагі аўтара з'яўляецца ўсё, што створана беларускімі скульптарамі ў манументальнай пластыцы. У апошняй жа частцы кнігі І. Елатамцава раптам здраджвае гэтаму прынцыпу і адвольна выбірае з мастацкі раўназначных помнікаў адны і адмаўляецца нават назваць другія. (Мяркую, што і мне не варта называць іх тут). І, нарэшце, яшчэ адзін, на мой погляд, істотны недахоп у гэтай жа частцы кнігі: недастаткова чоткае выяўленне індывідуальнасці мастакоў, што не можа не ўплываць на трактоўку вобразаў і мастацкую своеасаблівасць створаных імі помнікаў.

**Э. ПЕТЭРСОН.**

Ірына Елатамцава. «Монументальная летопись эпохи». Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, 1969.

# АДКАЗ СКЕПТЫКАМ

Колькі разоў даводзілася чуць на розных метадычных канферэнцыях пры абмеркаванні рэпертуару для дзіцячых музычных школ Беларусі, нібыта няма для маленькіх выканаўцаў узораў нацыянальнай творчасці. Нават найбольш «аб'ектыўныя» прамоўцы, прызнаючы, што кампазітары рэспублікі сёе-тое для дзяцей пішуць, выказвалі думку пра неадпаведнасць напісанага вучэбна - мастацкім запатрабаванням. Адмаўленне наяўнасці ці каштоўнасці беларускай музыкі для дзяцей было не толькі «тэарэтычнай» размовай на педагагічных пасяджэннях. Яно адбілася і на практычнай дзейнасці многіх музычных школ Беларусі. Саюз кампазітараў БССР пасылаў у школы сваіх прадстаўнікоў высвятляць, як выкарыстоўваецца ў вучэбных праграмах нацыянальная музыка для дзяцей. Азнаямленне з бібліятэчным матэрыялам, гутаркі з педагогамі, праслухоўванні вучняў радасці не давалі.

Так, уражанне было прыкрае. Але можа педагогі-«скептыкі» мелі рацыю, можа нельга навучыць дзяцей іграць, любіць і разумець музыку на аснове беларускай кампазітарскай творчасці?

І вось перада мною — невялічкая кніжка, крыху большая за чатыры аўтарскія аркушы, якая на сваіх старонках дае добры, навукова і метадычна абгрунтаваны адказ «скептыкам». Кніжку гэтую — «Фартэпіянныя творы беларускіх кампазітараў у школьным рэпертуары» — напісаў Б. Гарт. Аўтар — не толькі вучоны-даследчык, які працуе над кандыдацкай дысертацыяй, ён і педагог Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі па класе фартэпіяна, педагог, які шмат гадоў з вялікім плёнам выкладаў у музычных школах. Таким чынам, яго меркаванні, аналіз, рэкамендацыі — не агульныя тэарэтычныя разважанні, а вынік значнай навукова-практычнай дзейнасці. І што гэта менавіта так, пераконваешся, калі знаёмішся з разборам больш 70(!) твораў.

Так, столькі твораў Б. Гарт дэталёва разглядае і аналізуе ва ўсіх аспектах — мастацкім і навучальным, тэхнічным і жанравым. Ён піша пра народнапесенны склад мелодыі, пра фактуру, фразеалогію, метрычную і рытмічную структуру, аплікатуру, пра шматгалосную музыку і варыяцыйную, ладавую будову п'есы і педалізацыю... Аўтар падкрэслівае, што без ідэйна-мастацкіх вартасцей, без народнай асновы музыкі самы дасканалы ў тэхналагічных, вузка вучэбных адносінах твор нічога не дае для выхавання маленькага музыканта.

Менавіта ў такім ракурсе аналізуе Б. Гарт, групуе па цяжкасцях выканання паліфанічныя (шматгалосыя) творы А. Аладава, Г. Вагнера, Д. Камінскага, варыяцыйныя і ў санатнай форме творы тых жа аўтараў і Э. Тырманд, апрацоўкі народных мелодый, зробленыя для фартэпіяна М. Чуркіным, віртуозныя п'есы А. Клумава, фартэпіянныя цыклы Л. Абеліёвіча, творы «Юны піяніст» М. Шнейдэрмана і «У піянерскім лагеры» П. Падкавырава і іншыя. Увесь аналіз у працы Б. Гарта падмацаваны нотнымі прыкладамі.

На нашу думку, аўтар распрацаваў тэму ў дастатковым аб'ёме, даў грунтоўныя характарыстыкі фартэпіяннай творчасці беларускіх кампазітараў. Дазволю сабе прывесці цытату з заключнага раздзела кнігі Б. Гарта. Вось што ён піша: «П'есы беларускіх кампазітараў цалкам адпавядаюць патрабаванням, якія сучасная музычная педагогіка прад'яўляе да дзіцячага фартэпіяннага рэпертуару...» Аўтару гэтых радкоў павінны верыць нават «скептыкі».

І ўсё ж некалькі слоў у абарону... «скептыкаў». Мне здаецца, што значная частка іх адмаўляе наогул тое, чаго... не ведае. Часткова — гэта вымушаны агнастыцызм, бо ён выкліканы мізэрнымі тыражамі, якімі выдаюцца ў рэспубліцы нашы нацыянальныя творы для дзяцей. Фартэпіяна вывучаюць тысячы вучняў у адным толькі Мінску, а колькі ж іх наогул па рэспубліцы! І ў той жа час, паўторым зноў, беларускія ноты друкуюцца адзін раз у некалькі гадоў у некалькіх сотняў экземпляраў, прычым перыядычнасць выдання і тыражы нот для скрыпкі, цымбалаў і іншых інструментаў, ігру на якіх вывучаюць у музычных школах, яшчэ больш сціплыя.

Мабыць, трэба падумаць не толькі аб тыражах і аб сістэматычным выданні нацыянальнай вучэбнай музычнай літаратуры для дзяцей, але і аб пэўнай меры ўздзеяння на «скептыкаў» — патрэбна інструкцыя Міністэрства культуры БССР, якая прадугледжвала б, што ў наступны клас пераводзяцца толькі тыя вучні, у праграме якіх ёсць творы беларускай музыкі.

Шмат дапаможа таксама спецыяльная літаратура агульнаэстэтычнага плана. У яркай, даходлівай форме трэба расказаць пра здабыткі беларускай музычнай культуры, пра яе лепшых прадстаўнікоў.

Цікавую і вельмі карысную працу напісаў Б. Гарт. Выдавецтва «Беларусь» праявіла каштоўную ініцыятыву, пашырыўшы тэматыку сваіх музыказнаўчых выданняў за кошт такога патрэбнага дапаможніка, неабходнага для правільнага выхавання нашых дзяцей.

**І. НІСНЕВІЧ.**

Б. Гарт. Фартэпіянныя творы беларускіх кампазітараў у школьным рэпертуары (на рускай мове). Выдавецтва «Беларусь». 1970. Тыраж 1000 экз.

# СВЕТ ЗЯМНЫХ ТАЯМНІЦ

Юных аматараў беларускай прыроды пэўна зацікавіць першая кніжка апавяданняў Змітра Бяспалага «Лясныя хітруны»». Па ёй можна меркаваць, што малады пісьменнік — чалавек цікаўны і дапытлівы, і аб выніках сваёй назіральнасці ўмее сказаць трапна і пераканаўча.

З. Бяспалы піша аб тым, што добра ведае. І яго па-дзіцячы непасрэднае здзіўленне перад усім тым, што адбываецца навокал, не можа не перадацца маленькаму чытачу, не захапіць яго. Сапраўды, ці ж не цікава даведацца, што звычайная балотная чарапаха нетаропкай сваёй хадой, строга кіруючыся ў напрамку да балота, праходзіць зусім, здавалася б, не чарапашыя адлегласці — каля васьмі кіламетраў! («Сустрэча з падарожніцай»); што лічынка мурашынага ільва, у два-тры разы меншая за мурашку, лёгка распраўляецца з ёю, зацягваючы ў пясок («Мурашыны леў»); што павук-чыставік — дбайны гаспадар, кожны вечар вымеце, падрамантуе сваю хату-сетку («Павук-чыставік»); што аблезлы, паліналы, нібы вымачаны ў вадзе, ліс з лета ў лета ласуецца на астраўку чарапашымі яйкамі, і, нібыта знарок, не раскопвае ўсе гнёзды, каб чарапахі не пераводзіліся і штогод «частавалі» яго яешняй («Аматар яешні»). Школьніку карысна будзе ведаць, што дзяцел не толькі «лечыць» дрэвы, але і ўмее збіраць арэхі, разбіваючы толькі пашкоджаныя, каб дастаць «белага, тлустага, з рыжай галоўкай чарвячка» («Нечаканае адкрыццё»), а чорны дзяцел-жаўна можа нават аказацца памочнікам дапытліваму чалавеку («Надзейныя памочнікі»).

Апавяданні З. Бяспалага па сваім характары — пазнавальныя. Яны запрашаюць нашу дзетвару актыўна вывучаць прыроду роднага краю: разважаць, думаць, супастаўляць назіранні, рабіць вывады. Актыўнаму ўспрыманню прыроды аўтар вучыць, не «падрабляючыся пад дзіця»: ён пазбягае сентыменталізму, абыходзіцца без дэкларацыі і сумнага дыдактызму.

З. Бяспалы не проста апавядае пра лясных хітруноў, пра іх звычаі і ўласныя назіранні над імі, а як бы стварае іх паэтычны вобраз пры ўсёй вонкавай сціснасці, эканомнасці моўных сродкаў.

Зразумела, не ўсё гладка ў першай кніжцы пісьменніка. Ёсць у ёй, напрыклад, апавяданні аб здарэннях, што цікавыя самі па сабе, але не патрабуюць работы думкі, не нясуць выхаваўчага зараду («Смерць у канаве», «Лясная зладзейка», «Няпрошаны госць у паграбе»).

Прыдзірлівае вока, безумоўна, можа заўважыць і іншыя недахопы. Але не яны вызначаюць якасць гэтай кніжкі. Уменне пісьменніка стварыць жывы характар, тонкае адчуванне прыроды, здольнасць проста і даходліва расказаць аб ёй дзецям робіць знаёмства з першымі творамі Змітра Бяспалага цікавым і карысным.

**П. ЛЯВОНАВА.**

Змітро Бяспалы. «Лясныя хітруны». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969.

## Мінск сёння



На вуліцы Янкі Купалы.
Фота К. ЯКУЕОВІЧА.

**У РЭДАКЦЫЮ ШТОТЫДНЁВІКА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

*Паважаныя таварышы!*

*Дазвольце мне праз Вашу газету выказаць сардэчную падзяку ўсім арганізацыям, а таксама таварышам пісьменнікам і прыязным чытачам, якія прыслалі свае шчырыя пажаданні ў дзень маго сямідзесяцігоддзя.*

**Уладзімір ДУБОЎКА.**

# ЧАРАЎНІКІ ГУТНАГА ШКЛА

З XV стагоддзя славіцца цудоўным мастацкім шклом Гродзеншчына. У курных хатах, пакутуючы ад нястачы паветра, пякельнай гарачыні, неверагодна доўгага рабочага дня, таленавітыя майстры-самародкі стваралі унікальныя рэчы, якія прыносілі славу беларускаму шклу.

Здавён даўна гутнікі Беларусі любілі ляпіць са шкла ўсялякіх птушак-галубоў, пеўнікаў, паўлінаў; жывёлін — аленяў, зуброў, мядзведзяў, рысяў. Попыт на гэтую прадукцыю быў і ў часы ўздыму і ў часы спаду шкларобства, бо грунтаваўся на любові народа да прыроды. Нават і ў наш час, калі ў эстэтычных поглядах і густах утварыўся некаторы ўхіл у бок дызайнерскіх форм у дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, майстры гутнага шкла ўсё ж вырабляюць сваіх пеўнікаў, няўклюдаў-мішак, галубоў.

Можа дзякуючы жывучасці менавіта гэтай народнай традыцыі мы і маем сёння на нашых шклозаводах віртуозных майстроў гутнага шкла.

Пра цудоўных майстроў, што працуюць на шклозаводзе «Нёман», я і хачу расказаць.

Майстрам - шкларобам завода «Нёман» пашанцавала — яны працуюць побач з таленавітымі, высокакваліфікаванымі мастакамі - прафесіяналамі, якія з павагай і тактам ставяцца да нацыянальных традыцый, да нацыянальнай спадчыны.

Больш за 27 год працуе на Нёманскім заводзе патомны шкловыдзімальшчык Г. Лінкевіч. І ўсе гэтыя гады ён ляпіў фігуркі жывёл, птушак. Недадольную цягу майстра да анімалістычнага жанру заўважылі мастакі. І з 1963 года Г. Лінкевіч — брыгадзір па вырабе шкляной скульптурнай пластыкі. Спачатку ён выконваў фігуркі па эскізах мастакоў, а потым усё больш упэўнена пачаў выступаць як аўтар арыгінальных твораў. Вядомы такія яго работы, як «Мядзведзь», «Пантэра», «Зубр», «Конь-агонь», «Алені». Яны вызначаюцца дакладнасцю мадэліроўкі форм, амаль жорсткасцю лінейных контураў, якія выяўляюць незвычайную пругкасць мышцаў, сілу жывёлін. Найбольш паслядоўна праявілася гэта ў скульптурцы «Пантэра». А вось у фігурцы «Конь-агонь» мастацкі вобраз вырашаны за кошт падкрэслена лёгкай пластычнасці шкла. Грыва каня вольна развяваецца, нервова-плаўна сагнуты яго ногі. У гэтай рабоце Г. Лінкевіч умела скарыстоўвае каларыстычныя магчымасці шкла. Тулава каня — інтэнсіўна-чырвонае, а хвост, грыва і ногі — з бясколернага празрыстага крышталю. Чырвоны колер узмацняе пачуццё імклівасці, напружанасці бегу быстраногага каня. Здаецца, мы нават адчуваем яго гарачае дыханне...

Трынаццацігадовым хлопчыкам прыйшоў на завод Р. Багінскі. Гэта было 23 гады назад. Увесь гэты час Р. Багінскі — ля гуты. Тут жа, на Нёманскім заводзе, працуюць і яго браты: адзін — дырэктарам, другі — мастаком, трэці — майстрам.

Вобразны свет скульптара Р. Багінскага больш шырокі, чым Г. Лінкевіча. Захапляючыся анімалістыкай, ён у той жа час шмат працуе ў галіне жанравай і характарнай пластыкі. Яго цікавяць характары людзей. Блізкі яму і свет казак з іх фантазіяй і гумарам. Цяжкім жыццём беларускага народа ў часы ўладарання белапольскіх паноў навеяны вобраз скульптуры «Пан», са свету казак прыйшлі вясёлыя, жыццярадасныя, пацешныя «Чорт» і «Баба», у гэтай жа казачнай манеры вытрыманы і вобразны лад скульптурных графінаў «Цар Дадон». Р. Багінскі ўмела карыстаецца дэталлю, якая падкрэслівае, вызначае яго думку. Напрыклад, затычка да аднаго з графінаў «Цара Дадона» асацыіруецца з купалам царквы — характэрнай архітэктурнай дэталлю казачнага горада, у другім варыянце — ляпны пеўнік адразу пераносіць нас у свет казкі А. С. Пушкіна. Па-майстэрску абыграны скульптарам і такія трапныя дэталі, як бакенбарды абодвух «Дадонаў». Гэтая дакладнасць, трапнасць і выразнасць дэталіроўкі — характэрны прыём народнага майстэрства гутнай скульптуры.

Звычайны непрыкметны выпадак можа падштурхнуць Р. Багінскага да стварэння сапраўднага шэдэўра. Вось прыклад: зімой на шклозаводзе «Нёман» святкавалі праводзіны зімы. Атмасфера вясёлага свята выклікала ў майстра жаданне адлюстраваць яго ў такім звыклым, блізкім матэрыяле, як шкло. У выніку — цудоўная шматфігурная кампазіцыя «Ой вы коні, мае коні!» Р. Багінскі ўдала скарыстаў дымчатае каляровае шкло, якое не дае адкрытых лакальных тонаў, а крыху прыглушае фарбы. Кампазіцыя Р. Багінскага атрымалася гарманічнай, прыгожай. Выцягнутыя постаці коней, ракурсы галоў, формы ноздраў, дынаміка ног — усё працуе на выразнасць агульнага вобразу.

Трэці майстар нёманскага гутнага шкла — А. Федаркоў — шукае свой мастакоўскі «голас» зусім у іншай галіне гутнага майстэрства. Яго менш цікавяць пластычныя вартасці шкла. Ён цалкам прысвяціў сябе выяўленню дэкаратыўных магчымасцяў паліхромнага каляровага шкла. Апошнія два гады А. Федаркоў захапляецца тэхнікамі старажытнага шкларобства, тэхналогіяй венецыянскай філіграні, дэкорамі егіпецкіх бальзамарыяў. Майстар шмат і ўпарта працуе. І праца яго не губляецца. У эксперыментах нарадзіліся новыя дэкаратыўныя прыёмы выкарыстання сульфіднага шкла. Аказалася, што сульфідная нітка ў спалучэнні з бясколерным крышталем робіцца чорнай. Гэта дало нечаканы дэкаратыўны эфект: на фоне бясколернага крышталю з'явіліся філіграннныя чорныя ніці, свабодна пераплеценыя ў масе шкла. (Прыгадаем — венецыянская філігрань была ў асноўным белага колеру. Акрамя таго, малюнак венецыянскай філіграні быў строга сіметрычным, чоткім). А. Федаркоў пайшоў далей, яго малюнак больш натуральны, пластычны, лёгкі, заснаваны на паўтонах. А. Федаркоў назваў свае дэкаратыўныя прыёмы выкарыстання сульфіднага шкла «нёманскай ніццю». У апошні час гэты новы від дэкору быў выкарыстаны ім у творах, якія асацыіруюцца з вырабамі старажытных егіпецкіх шкловыдзімальшчыкаў. Малюнак на гэтых вырабах рабіўся пры дапамозе накладвання па тулаву сасуда каляровых шкляных нітак і наступным прачэсванні іх спецыяльнымі прыладамі. У выніку на фоне празрыстага сасуда ўтвараліся прыгожыя зігзагападобныя каляровыя палосы. Гэты прыём выкарыстоўвалі і шкларобы старажытнай Русі пры дэкарыроўцы шкляных пісанак.

А. Федаркоў зрабіў ужо некалькі камплектаў сасудаў, ваз, чаш, місак, кубкаў, скарыстоўваючы адкрыты ім прыём. Гэтыя вырабы вытрыманы ў блакітнаватых і белых тонах па бясколерным фоне шкла. Але нельга не сказаць маладому майстру, што ён павінен больш строга ставіцца да выбару форм сваіх сасудаў, каб адкрытыя ім багатыя дэкаратыўныя магчымасці сульфіднага шкла не пярэчылі форме саміх вырабаў. Трэба сказаць, што пакуль А. Федаркоў абмяжоўваўся папулярнымі ў народзе формамі керамічных гарлачоў, місак, кубкаў, талерак, — гэта выглядала арганічна. Але ўжо ў яго наборы «Гарадскі» занадта вольны размашысты малюнак выглядае недарэчы ў вытанчанай карзіначцы, якая механічна паўтарае формы вядомых вырабаў чэшскага каляровага крышталю.

Работы А. Федаркова надзвычай дэкаратыўныя, прыгожыя. Яны прыцягваюць навязной дэкаратыўных вырашэнняў. Імі захапляліся спецыялісты на выстаўках у Балгарыі, Аўстраліі, Францыі, Японіі.

Здавён слаўная Гродзеншчына мастацкім шклом. Шмат пакаленняў майстроў развівалі, перадавалі ад бацькі да сына цудоўнае ўмельства шкловыдзімальшчыкаў. І радасна, што гэтыя народныя традыцыі не згаслі, што яны прыносяць плён, радуюць людзей сваёй прыгажосцю, свежасцю, гумарам і сёння.

**М. ЯНІЦКАЯ.**

*ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!*

# АДДАНАСЦЬ НАВУЦЫ

**Васілю Кірылавічу Бандарчыку споўнілася 50 гадоў.**

Вядомы беларускі этнограф, доктар гістарычных навук, дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР В. Бандарчык прайшоў немалы жыццёвы і творчы шлях. Гэты шлях — тыповы шлях савецкага інтэлігента. Нарадзіўся ён у простай сялянскай сям'і, змалку спазнаў цяжкую працу хлебароба. Пасля заканчэння Слуцкага педвучылішча некаторы час настаўнічаў, потым служыў у Чырвонай Арміі. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны ён быў у радах тых, хто са зброяй у руках уступіў у крывавы бой з гітлераўскімі захопнікамі. Шмат давялося прайсці яму за гады вайны цяжкіх франтавых дарог.

У пасляваенныя гады В. Бандарчык вярнуўся да сваёй мірнай працы — выхавання моладзі. Вучыў дзяцей і вучыўся сам, паспяхова закончыў завочна Беларускі дзяржаўны універсітэт. А потым — аспірантура Акадэміі навук БССР. Выключная працавітасць і здольнасць да навукова-творчай работы прынесла Васілю Кірылавічу багаты плён. У кароткі час абараніў ён кандыдацкую, а потым і доктарскую дысертацыі. Адначасова выступаў у друку з каштоўнымі працамі па актуальных пытаннях беларускай этнаграфічнай навукі. Яго манаграфіі «Гісторыя беларускай этнаграфіі», «Еўдакім Раманавіч Раманаў», «Мікалай Якаўлевіч Нікіфароўскі» сталі падручнымі кнігамі ў самых розных галінах беларусазнаўства.

Заслугай В. Бандарчыка з'яўляецца тое, што ён упершыню ў савецкай навуцы распрацаваў і арыгінальна вырашыў праблему гісторыяграфіі беларускай этнаграфіі. Ён даў аб'ектыўную, навукова-марксісцкую ацэнку асобным перыядам развіцця беларускай этнаграфічнай навукі, дзейнасці ўстаноў і таварystваў, многім вучоным, даследчыкам і збіральнікам матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў.

В. Бандарчык з'яўляецца адным з аўтараў капітальнага даследавання «Беларусы», выдадзенага ў 1964 годзе ў Маскве ў серыі «Народы свету» ў першым томе «Народы еўрапейскай часткі СССР». У гэтай працы на шырокім гістарычным фоне паказаны важнейшыя аспекты побыту і культуры беларускага народа — матэрыяльная і духоўная культура, сямейны і грамадскі побыт, народная творчасць.



Плённа працуе вучоны і зараз. Скора выйдзе з друку новая кніга В. Бандарчыка «Этнаграфічнае вывучэнне Беларусі ў пачатку XX стагоддзя». Напісана ім таксама гісторыя беларускай савецкай этнаграфіі.

Пад кіраўніцтвам В. Бандарчыка калектыў этнографаў Інстытута завяршае падрыхтоўку гісторыка-этнаграфічнага атласа Беларусі, у якім будуць адлюстраваны тры аспекты матэрыяльнай культуры (сельскагаспадарчыя прылады, жыллё, адзенне) беларускага народа другой палавіны XIX стагоддзя і да цяперашняга часу.

Васіль Кірылавіч узначальвае рэдакцыйную калегію 30-томнага звода беларускай народнай творчасці. Гэтаму выданню, у якое ўключаюцца лепшыя ўзоры беларускага дарэвалюцыйнага і савецкага фальклору ўсіх жанраў, В. Бандарчык аддае шмат часу, энергіі і клопату. Шматтомны звод упершыню ў гісторыі Беларусі адлюструе велізарнае багацце слоўнай, музычна-песеннай і народна-тэатральнай творчасці нашага народа. Гэтая капітальная праца будзе садзейнічаць больш глыбокаму вывучэнню культуры, светапогляду і побыту працоўных нашай рэспублікі розных гістарычных эпох.

Васіль Кірылавіч у расквіце творчых сіл. Хочацца ад усяго сэрца пажадаць юбіляру здзяйснення новых навуковых планаў, задум, яшчэ большага плёну ў працы на карысць бацькаўшчыны.

**А. ФЯДОСІК, І. ЦІШЧАНКА.**

# КУПАЛАЎЦЫ Ў ГРОДНА

Трыццаць тысяч гледачоў ужо наведалі Акадэмічны тэатр імя Я. Купалы, які паспяхова гастраліруе ў горадзе над Нёманам. Выступленні славутага калектыву сталі творчай справаздачай перад працоўнымі вобласці напярэдадні 50-годдзя тэатра. Поспехам карыстаюцца ўсе спектаклі рэпертуару. Адбываюцца сустрэчы з грамадскасцю. Асабліва хвалюючымі былі вечары, на якіх хімікі і прафсаюзны актыў горада цёпла віталі любімых артыстаў. На спектаклі прыязджаюць калгаснікі Гродзенскага, Берастовіцкага, Мастоўскага і іншых раёнаў Прынямоння. Тэатр даў дваццаць выязных спектакляў — у калгасах імя Леніна, «Савецкі пагранічнік», «Іскра», «Прагрэс», у саўгасе «Свіслач», дзе асабліва радасна прымаюць «Паўлінку» і «Лявоніху на арбіце». Пабывалі купалаўцы і ў шэфаў — пагранічнікаў.

Спектаклі тэатра даюцца на дзвюх пляцоўках — на сцэне абласнога драматычнага тэатра і ў зале Дома партасветы гаркома КПБ.

Сцяпан ГАЎРУСЕЎ

# ГЛЫБОКАЯ БАРАЗНА

Не вельмі разбагацееш, штогод засяваючы сваю ніву толькі пазычаным. У спраўнага гаспадара павінна хапаць свайго зерня і на штодзённы абыходак, і на трывалы заўтрашні засеў. Вядома, можа здарыцца няўрода ці град пакалечыць тваё поле і тады не грэшна пазычыць у суседа, каб неяк перабіцца. Але асноўнае залежыць ад уласнай дбайнасці і стараннасці. І самая высокая радасць — узяць у рукі спелы колас і ў яго трапяткім гуле зноў пачуць свае спадзяванні і трывогі. Згадаеш, з якой настойлівасцю рэзаў цяжкім нарогам непадатлівы загон, з якім хваляваннем браў у рукі ліповую сявеньку, каб залацістым праменнем зярняты ляглі ў пульхную раллю. І вось яны прабіліся, нарэшце, кволыя і даверлівыя ўсходы, — дзеці тваёй надзеі. Колькі разоў правядзеш заклапочаным позіркам спагадлівае сонца ад небасхілу да небасхілу, пакуль яны набяруцца жыццёвай моцы! Наперадзе іх чакаюць золкія асеннія дажджы, раннія замаразкі, непрагладныя мяцеліцы. І з першымі вясновымі адлігамі, калі пад снегам пабягуць гаманлівыя ручайкі, а ў павесялелым небе жаўранак павесіць новы званок, з таго ці іншага ўзлоб'я пасмялелая рунь з палёгкай зірне на белы свет. Крылом белагрудай ластаўкі прамільгнуць спякотныя дні і вось ужо

Гамоняць калоссі,  
Шугаючы хвалямі,  
З блакітнымі высямі,  
З сінімі далямі.  
. . . . . . . . . .  
Ад ранку да вечара  
Сонца глядзела,  
Каб жыта  
Бурштынавым зернем  
Паўнела.

То ўстане высока,  
То схіліцца нізка,  
Як маці  
Над роднай дзіцячай калыскай.

Гэтымі радкамі ўвайшоў у маю свядомасць паэт Пятрусь Макаль. І з першай сустрэчы—а было гэта роўна дваццаць год назад—ён нечым няўлоўным нагадваў інтэлігентнага трактарыста: у беласнежнай расшпіленай кашулі, смуглы ад загару, з сур'ёзна-іранічным поглядам чалавека, які ведае цану сабе і ўсяму навакольнаму. Здзівіла дарослаць васемнаццацігадовага юнака, самастойнасць у перакананнях. Рэдкія пісьмы, якія ён прысылаў пасля, сведчылі аб пастаяннай засяроджанасці думкі. Не было ў іх таго, што звычайна ўласціва такому ўзросту: бескантрольнага захаплення поспехамі таварышаў і сваімі ўласнымі. Без усялякіх рэверансаў ён гаварыў, што яму падабалася, а што не, і вымагаў гэтага самага ад свайго завочнага субяседніка. Друкаваўся ён не вельмі часта, але кожнае выступленне паэта рабілася аб'ектам самай прыхільнай увагі пісьменніцкай грамадскасці.

Цяпер, з адлегласці часу, лёгка зразумець, што падкупляла ў першых макалёўскіх вершах. Гэта — настойлівае жаданне праявіць сябе ў творчасці як жывую чалавечую асобу, якая не падганяе сябе пад нейкі гатовы эталон. І трэба сказаць, што ў пераважнай большасці сваіх ранніх вершаў ён, бясспрэчна, дамогся гэтага.

Згадаем хоць бы верш «З вяршынь Каўказа», напісаны, здаецца, у 1953 годзе:

Спавіты горы сіняй паволокай,  
Снег на вяршынях. І на нейкі міг  
Здалося мне—я ў Індыі далёкай,  
А не сярод Каўказскіх гор сівых.

Ды раптам скалыхнулася узлессе —  
Прарэзваючы ранішні туман,  
Данеслася ка мне з даліны песня.  
Знаёмая.  
Пра нашых партызан.

Я ўбачыў праз радзеючую дымку  
Той край, дзе па-над Нёманам-ракой  
Ідуць бярозы з соснамі ў абдымку  
Зялёнаю, шумлівай талакой.

Той край, дзе калыханку мне спявалі  
Галінамі дрымотныя бары,  
Дзе час майго дзяцінства сагравалі  
Начныя партызанскія кастры;

Дзе быў лясны гушчар маёй калыскай...

І, як вынік роздуму, як вынік задавальнення — заключныя радкі:

З вяршынь Каўказа, як ніколі, я  
Такою роднай і такою блізкай  
Цябе убачыў, Беларусь мая!

Я вымушан быў прывесці гэты верш цалкам, каб не парушыць тонкай мастацкай тканіны. Гэты верш мае самае непасрэднае дачыненне да праблемы традыцый і наватарства. Некаторымі таварышамі гэта праблема зводзіцца да сумы знешніх мастацкіх прыёмаў, а не да пераадолення паэтычнага — а, значыць, і грамадзянскага!—мыслення. Для мяне асабіста гэты верш дарагі тым, што ён напісаны тады, калі лірыка ўспрымалася нечым калі не непажаданым, то ва ўсякім разе легкадумным, як васількі ў жыце.

Згаданы верш не быў выпадковай удачай, а свядомай пазіцыяй мастака. Паэт гаворыць аб шчасці юнацкага кахання без «вытворчага» абрамлення: калі ты перадавая даярка, дык я цябе пакахаю, калі ты лепшы трактарыст—сэрца маё без астачы належыць табе і г. д. і т. п. Такім жа прасветлена-ўзнёслым пачуццём прасякнуты «Яблыня», «На далёкім паўстанку», «Як рой, сняжынкі» і іншыя раннія макалёўскія творы. Усім ім уласціва адчуванне, што «не засланіла, а адкрыла ты мне цэлы свет».

Як жа спалучыць такую пазіцыю паэта з горкаўскім патрабаваннем, што героем нашых кніг павінна стаць праца? Ці няма тут супярэчнасці? Калі глядзець на рэчы без прадузятасці, то ніякай супярэчнасці няма: нельга на кволыя плечы лірычнага верша ўскладваць эпічную ношу. Кожны жанр мае свае асаблівасці і аб удачы ці промаху паэта мы можам меркаваць, зыходзячы з прыроды таго ці іншага жанру.

Але пойдзем далей за паэтам. Студэнцкія гады, якімі б інтэнсіўнымі яны ні былі ў сэнсе духоўнага развіцця, усе-такі з'яўляюцца парой адноснай бесклапотнасці. Іншая справа — служба ў арміі. Гэта сапраўдны універсітэт станаўлення характару. Пятрусь Макаль прайшоў яго, маючы пры сабе дыплом выпускніка Гродзенскага педінстытута і білет члена Саюза пісьменнікаў СССР. Іменна ў гэтыя гады ў паэта паглыбілася адчуванне, што на нашай зямлі «ўсё пафарбавана ў колер зялёны». І таму мы падзяляем заклапочанасць паэта і гатовы паўтарыць разам з ім:

Людзі, усміхніцеся па-брацку,  
Зробіце нагоду на зямлі.

Альбо:

І я ўзніму над цэлаю зямлёю  
Нябёс блакітны вечны парасон.

Многа падрабязнасцей салдацкага быту можна знайсці ў зборніках «Вятрам насустрач» і «Вечны агонь». І, бадай, адной з каларытнейшых можна назваць замалёўку «У вагоне», якая сваім зместам узвышаецца да сімвала. Хлапчук расплакаўся і яго ніхто не можа суцешыць, нават маці. І толькі воін, які нагадаў малому бацьку, супакоіў маленькага пасажыра. Наогул трэба падкрэсліць схільнасць Петруся Макаля да скульптурнай выразнасці вобраза. Можна спаслацца хоць бы на такі прыклад. Вось як рэльефна намалявана ім мора:

...нямоўчнае мора  
Спрачаецца з нордам.  
На магутных грудзях яго ўбачыш здаля:  
Залатое і круглае—  
Сонца, як ордэн,  
На якім, нібы Крэмль,  
Сілуэт карабля.

Ад кнігі да кнігі расло майстэрства паэта, паглыблялася думка, што з найбольшай паўнатой выявілася ў зборніках «Круглы стол» і «Акно». Пачаўшы з падкрэслена сялянскай тэматыкі, ён не вельмі доўга затрымліваўся на дасягнутых поспехах, з кожным разам пашыраючы свой творчы дыяпазон. Для гэтага, апрача ўсяго іншага, былі і прычыны біяграфічнага парадку. Пасля арміі ён працаваў у «Маладосці», вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве, шырока і паглыблена вывучаў творы сусветнага мастацтва як класічнага, так і сучаснага. І не дзеля таго, каб быць «модным», а па душэўнай неабходнасці ён узяўся за тэмы, якія сталі сутнасцю яго паэтычнага жыцця. Яго героем стаў наш драматычны і супярэчлівы час. І хоць паэт не забывае сваіх сялянскіх вытокаў, асноўным фонам для яго роздуму служыць горад з безліччу сваіх праблем, відаць, таму, што тут канфлікты выступаюць у больш аголенай форме.

Цікавай асаблівасцю яго твораў апошніх год трэба назваць схільнасць да маральна-этычных тэм, роздуму аб тым, як дабратворна ўздзейнічае на чалавека сапраўды высокае мастацтва. Згадаем дарэчы, што дарэвалюцыйная паэзія справядліва і заканамерна абрала сваім героем селяніна-гаротніка—з яго болем, праўдзівасцю і здзіўляючай даверлівасцю. На горад ён глядзеў падазрона, як на скопішча дармаедаў і прайдзісветаў. Коласаўскі дзядзька ў Вільні ідзе сярод нікчэмных чыноўнікаў крокамі Гулівера, хоць яго і прыніжаюць на кожным кроку. А цяпер, калі сялянскія дзеці сталі рабочымі, інжынерамі, палкаводцамі і дзяржаўнымі дзеячамі, змяніліся і адносіны селяніна да горада, нічога не страціўшы ў сваёй непасрэднасці. Усё гэта неабходна ўлічваць паэту. Слоў няма, Янка Купала і Якуб Колас былі, ёсць і будуць краевугольным каменем не толькі нашай літаратуры, але ўсёй культуры ў цэлым. Аднак не варта забываць і своеасаблівай традыцыі Максіма Багдановіча, які, сцвярджаючы тыя ж ідэалы, як і яго паплечнікі, стараўся пашырыць тэматычны абсяг паэзіі, упершыню па-сапраўднаму шырока распрацаваў урбаністычныя тэмы. Яго старэйшыя паплечнікі ўхвалялі і падтрымлівалі гэта патрыятычнае пачынанне. Дык ці варта цяпер імкнуцца да нейкай уніфікацыі паэтычных талентаў, аб'яўляць незразумелым тое, што выходзіць за рамкі прывычнага? А такія папрокі — без дастатковай падставы — Петрусю Макалю даводзілася выслухоўваць.

Дзе б ні знаходзіўся паэт — на ўзбярэжжы мора ці за рабочым сталом, у новай дарозе ці перад калыскай сына—усюды яго не пакідае адзін грамадзянскі клопат: як ажыццяўляецца ленінская справа ў свеце:

З усіх чалавечых армій  
Я сёння ўславіць хачу  
Тую,  
 якая раўняецца,  
Тую,  
 якая змагаецца—  
Па Ільічу.

Паэт яскрава разумее, што «пераблытана высокае і нізкае ў жыцці», таму і не зніжае сацыяльных крытэрыяў пры ацэнцы той ці іншай з'явы. Ён перакананы, што для чалавецтва існуе «адно бомбасховішча — мір» і не стамляецца славіць

Асамблею зялёную  
 сосен,  
 дубоў  
 і бяроз.

У аўтабіяграфічных нататках, спыняючыся на ключавых момантах уласнага жыцця, паэт асабліва выдзяляе адну рысу: «На маю долю выпала шчасце бачыць і чуць многіх выдатных людзей нашага часу. Ужо адзін іх пералік гаворыць сам за сябе: Пальміра Тальяцці, Юрый Гагарын, Сяргей Канёнкаў, Назым Хікмет...». Пра апошняга ён гаворыць асабліва

---

З пошты ЛіМа

## Я РАСКАЖУ ПРА БАЛКОН...

НАШ ДВОР... Такіх — многа ў новых мікрараёнах кожнага горада. Архітэктары, праекціроўшчыкі, будаўнікі някепска папрацавалі, стварылі зручную планіроўку. У баку ад прамысловых прадпрыемстваў, па-за межамі буйных транспартных артэрый, сярод сучасных будынкаў — сучасны двор. Тут ёсць дзе адпачыць, ёсць дзе пасушыць бялізну. Для дзяцей малодшага ўзросту — пляцоўка. Ёсць месца пагуляць у валейбол і баскетбол.

Але вось прыходзіць гаспадар новага раёна — домакіраўніцтва. І выгляд двара мяняецца — часта не ў лепшы бок. А здараецца, што таварышам з домакіраўніцтва нестае разумення задумы праекціроўшчыка або элементарнага густу, каб не парушыць гэтую задуму. Ды і не заўсёды даходзяць рукі да канчатковага добраўпарадкавання двара.

Зручнасць, прыгажосць, эстэтыка асяроддзя, у якім мы жывём (у дадзеным выпадку групы жылых дамоў), ствараюцца не толькі сродкамі чыста архітэктурнымі. Значную ролю тут набываюць зялёная архітэктура (дрэвы, дэкаратыўныя кустарнікі, газоны і г. д.), планіроўка пешаходных сцежак і праезджай часткі, а таксама так званая малая архітэктура (розныя прыстасаванні для дзіцячых гульняў, спортпляцоўкі, урны, лаўкі, ліхтары асвятлення і г. д.). У праектах усё гэта ўлічваецца. Але калі справа даходзіць да выканання, многае робіцца кепска або не робіцца зусім. Карыстаючыся гэтым, жыхары кожнага дома, кіруючыся самымі найлепшымі намерамі, пачынаюць самастойна ўпрыгожваць двор.

Вось навасёл на другі ж дзень пасля ўсялення ў новую кватэру ўжо старанна перафарбоўвае свой балкон. Яму, бачыце, больш падабаецца зялёны колер, чым белы. Дзе ўжо тут пра нейкую там цэласнасць, гармонію... За першым навасёлам спяшаецца другі—ён, можа, і не меў намеру перафарбоўваць балкон, ды ў яго фарба засталася... Ён і рамы вокан перафарбаваў. А там, глядзіш, і трэці. і чацвёрты навасёлы заварушыліся — стараюцца не адстаць ад першых. У выніку работа архітэктара, які з веданнем справы распрацоўваў колерныя рады балконаў, маючы на ўвазе стварыць пэўную кампазіцыю, перакрэсліваецца. І вось ужо цэлы карагод дамоў стаў пярэстым, дысгарманічным.

«Мадэрнізацыя» балкона не канчаецца перафарбоўкай. Вось ужо сусед злева перагарадзіў тую частку балкона, якая праглядаецца, фанерай, а сусед справа — абрэзкамі рознакаляровага пластыку. Вось ужо на кожным балконе вырасла канструкцыя для сушкі бялізны. Знешні выгляд дома псуецца яшчэ больш. Тут было б працей абвінаваціць архітэктараў — наколькі праекціроўшчык павінен думаць аб МАКСІМАЛЬНЫХ зручнасцях для жыхароў. Але хто даў права жыхарам гарадзіць немаведама што на сваім балконе? Асабліва кепска выглядае падобная «самадзейнасць» на дамах паблізу буйных магістраляў.

А можна было б усё гэта папярэдзіць — як гэта робіцца ў цэнтры нашага горада і ў сталіцы рэспублікі: домакіраўніцтву варта было павесіць таблічкі-аб'явы, якія тлумачылі б, што «новаўвядзенні», якія зводзяць на нішто задуму архітэктара, рабіць забараняецца.

Але як быць у выпадках, калі балконы сапраўды трэба перафарбаваць? То фарба стала кепскай, то дажджы і вятры разбурылі афарбоўку. Домакіраўніцтва не мае на гэта сродкаў. Але ж жыхары знаходзяць і сродкі і фарбы. Магчыма, варта неяк каапераваць жыхароў і разам з домакіраўніцтвам здабываць фарбу?

Аднак вернемся да навасёлаў. Не папярэджаныя аб адказнасці за «самадзейнасць», яны стараюцца ўнесці свае ўстарэлыя прывычкі (іншы раз проста мяшчанскія) у афармленне двара. Спешна ўзводзяцца, рознакаліберныя парканчыкі ля пад'ездаў. Адзін пад'езд абносіць «участак» каля сваіх вокан дротам, другі — дошкамі для падлогі (будаўніцтва ж побач!). У выніку разумна спланаваныя газоны ператвараюцца ў рознакаліберныя гародчыкі.

Увогуле, што датычыць азелянення, мы не ўлічваем вельмі многае. Цяперашнія пасадкі дрэўцаў і кустоў гадоў праз пятнаццаць зменяць увесь выгляд мікрараёнаў. І, зразумела, справу гэтую нельга пускаць на самацёк. Планіроўшчыкі ў праектах прадугледжваюць месцы пасадкі дрэў. Домакіраўніцтвы ж у спешцы мала прытрымліваюцца праектаў. І... ініцыятыва пераходзіць у рукі мала дасведчаных у гэтай справе жыхароў.

Трэба забяспечыць жыхароў патрэбнымі рэкамендацыямі, дзе асвятляліся б усе пытанні афармлення двароў і балконаў. Пакуль жа іх няма, дык мой сусед з ніжняга паверха перакапаў цудоўны зялёны дыван пад вокнамі і

падрабязна: «Нават не верылася, што гэта Назым Хікмет... Калі ён пачынаў гаварыць, узнікала адчуванне, што вы ўжо шмат гадоў з ім знаёмы, што ён ваш даўні сябра. Ён расказваў пра свой лёс—жыццёвы і творчы. Сын аднаго з багацейшых турэцкіх магнатаў, самаахвярна парваўшы са сваім класам, прыйшоў у рады змагароў за сацыяльную справядлівасць, за лепшы лад на зямлі. За гэта яму давялося заплаціць многімі гадамі пакут у турэмных адзіночках. І калі б не было гэтага грамадзянскага подзвігу, магчыма, не было б паэта такой выбуховай моцы, паэта, які стаў родным для ўсіх, хто хоча бачыць у вышэйшым рангу на зямлі Праўду». Сказана дастаткова акрэслена—і што самае важнае для нас—засведчана творчай практыкай паэта. Ён разумее мастацтва як служэнне камуністычным ідэалам і найлепшы прыклад гэтаму бачыць у творчай практыцы трыбуна рэвалюцыі—Уладзіміра Маякоўскага, чый уплыў на сучасную культуру набывае сапраўды касмічны характар: «Ламаным радком, усходкамі вершы маланка піша». Нездарма Петрусю Макалю належыць адзін з лепшых твораў нашай паэзіі апошніх год—верш «Сікейрас», прысвечаны выдатнаму мексіканскаму мастаку. Перакананы камуніст, ён нават сваю адзіночку ператварыў у арэну вострай палітычнай барацьбы:

Цемрыва?
Маніце!—
Выстаўка
У рамцы сценаў турэмных!
У вочку замочным—з акенцаў!—
Промень, як ключ, завязнуў.
Камера—рэзідэнцыя
Вялікай дынастыі вязняў.
. . . . . . . . . . . . .
Астрожнымі бразгаць брамамі
Піратам і імператарам,
Пакуль на зямлі не абрана
Праўда адзіным дыктатарам.

Але ўсе цямніцы не вечныя. Лепшы таму доказ—пераможная рэвалюцыя на Кубе. І з'яўляецца зусім заканамерным, што паэт, акцэнтуючы ўвагу на святочным баку новага жыцця вострава Свабоды, пераклікаецца ў гэтым з вядомымі радкамі Яўгенія Еўтушэнкі: «Революция — дело веселое. Надо весело делать ее». Але гэта не бесклапотная весялосць:

Толькі бліскае нямеркла
Кабура на пояску,
Як Паўднёвая Амерыка,
Што ў планеты на баку.

Ды глядзі—
пусціўся ў танец,
Атуліўшы Кубе стан,
Малады заўжды паўстанец—
Несціханы акіян.

Пятрусь Макаль знайшоў ёмістую формулу сваіх узаемаадносін з чытачом, якая не можа не радаваць сваёй натуральнасцю і глыбінёй: «Мае радкі—працяг маёй рукі, якой мне столькі рук паціснуць трэба!». І будучыня ўяўляецца яму не інакш, як «дом сяброў, дзе ворагі пазбаўлены прапіскі». Гэта плённая і перспектыўная пазіцыя, у чым пераканаўся я, нядаўна пазнаёміўшыся з рукапісам новай кнігі паэта. Але не будзем забягаць наперад. Будзем цярплівымі і непаспешлівымі, як сам аўтар. А ён сапраўды можа быць задаволены плёнам сваёй удумлівай працы—сціртү залацістага зерня не заслоніць надламаная саломіна ці адзін асыпаны каласок. Пажадаем жа яму спорнай новай сяўбы і яшчэ буйнейшых усходаў!

---

зрабіў грады для ўкропу. Вось так!

Каго вінаваціць і завошта? Падумаеш, дрэвы трохі не там пасадзілі ці грады ўскапалі—дробязі!

А прыгадайце, што на двары дзяцей больш, чым дарослых. Яны растуць, яны выхоўваюцца ў тым асяроддзі, якое іх акружае. Калі мы хочам выхаваць іх як след, нам трэба дбаць і пра іх асяроддзе.

Прывяду і такі кур'ёз: домакіраўніцтва з першых жа дзён засялення прывезла адразу ж моцныя сталы для... аматараў «забіваць казла», а вось дзіцячыя пясочніцы стаяць дагэтуль без пяску. Невялічкі басейн пасярод двара па сёння без вады. Сталы паставілі, лаўкі—таксама, а вось урны—забыліся. Мабыць, таму так злуецца ўраніцы прыбіральшчыца, прыбіраючы панакіданыя на двары кучы недакуркаў.

Дробязі... Пастаўлены ліхтары для асвятлення, а праводку да іх не падвялі. Носяцца ўначы таксі каля групы дамоў, шукаючы патрэбны нумар, а нумар... і днём не ўбачыш!..

Дарэчы, пра адрас гэтага двара: Гомель, пасёлак Фестывальны, блокі шосты і сёмы. Ды ці толькі гэты адрас?..

Мы надзвычай многа робім для дабрабыту чалавека. Архітэктары і будаўнікі робяць вялікую справу. І мы ім удзячны. Мабыць, трэба і работнікам камунальнай гаспадаркі дбаць, каб зробленае архітэктарамі і будаўнікамі захоўвалася належным чынам.

В. ПЯТРОЎ.

Гомель.

---

НАШЫ *майстры* МАСТАЦТВА

Тамара АБАКУМОЎСКАЯ

# СКРЫЖАВАННЕ ЯГО ДАРОГ



*ЗАСЛУЖАНАМУ АРТЫСТУ БССР С. ХАЦКЕВІЧУ — 60 ГАДОЎ*

БЯСКОНЦЫ грукат колаў, гром артылерыйскай канանады, пачуццё пякучага голаду... А праз шчыліну цяплушкі відаць, як адплываюць назад лясы і пералескі, да болю знаёмыя, такія любыя сасонкі і бярозы на ўзгорках, а побач счарнелыя хаты. Пакарэжаная, стаптаная вайною родная зямля. Не ведае дванаццацігадовы Сцёпка, куды прывядуць яго гэтыя імклівыя, сталёвыя рэйкі, куды завязе гэты шумлівы, бы цыганскі табар, бежанскі цягнік. Але адно знае пэўна — чырвоныя адступаюць, а значыць і ён, сірата-Сцёпка, як звалі яго ўсе ў Парэччы (рана застаўся без бацькоў, загубіла вайна), пойдзе за войскам, дзе ў яго шмат сяброў-прыяцеляў, ласкавых вясёлых хлопцаў.

Многа такіх вось галодных, абадраных, беспрытульных дзяцей бадзялася ў той час па дарогах раздзёртай грамадзянскай вайной, а потым пасляваеннай разрухай краіны. Бахмач, Канатоп, гарады і вёскі Поўдня—дарогі блукання. І невядома, як бы склаўся далейшы лёс Сцёпы Хацкевіча, калі б не добрыя людзі. Ды і бацька пакінуў яму ў спадчыну любоў да працы, павагу да сумленна заробленага кавалка хлеба. Здарылася так, што неяк прыбіўся Сцяпан да брыгады нафтавікоў, што цягнулі нафтаправод Баку—Батумі. Рабочыя хлопцы прыгрэлі беспрытульніка. Тут, у паходным лагеры, атрымаў хлопец першую спецыяльнасць, тут прачытаў і першую сваю кнігу.

А родная зямля клікала і клікала да сябе. І хоць памяць захавала нямногае, па начах снілася роднае Парэчча. Угаворвалі сябры: куды паедзеш, ні родных, ні блізкіх — адзін, што бізун, да каго прыб'ешся? Сцяпан жа рашыў цвёрда—дамоў. І зноў цягнікі, неспакойнае дарожнае жыццё, неспакойнае, бо гэтым разам ён ехаў «зайцам». У дарозе здарылася са Сцяпанам падзея нечаканая, якая ў далейшым перавярнула ўсё яго жыццё...

У Растове «зайца» высадзілі. Наступнага цягніка чакаць было доўга, і хлопец пайшоў паглядзець горад. І раптам на агароджы гарадскога саду — вялізная афіша, якая абвяшчала пра спектаклі. Сцяпан Фёдаравіч сёння не памятае, як называўся спектакль. Здаецца, гэта былі «Разбойнікі» Шылера. Толькі ён тады не чуў ні пра Шылера, ні наогул пра тэатр. А паглядзець, што гэта такое — карцела. Білета купіць не было за што. Пераскочыць праз паркан, схавацца пад сцэнай былому беспрытульніку не штука. Так ён і прасядзеў пад сцэнаю і праслухаў увесь спектакль. Іменна праслухаў, бо выткнуць носу нельга было... Узрушэнне, якое перажыў у той вечар Сцяпан Хацкевіч, нельга параўнаць ні з чым. Так нарадзілася мара — тэатр.

Вядома, шлях да яго быў нялёгкі. Толькі хлопцу шчасціла ў жыцці на добрых людзей. Так сталася і на гуце «Глуша» пад Бабруйскам, куды ён прыехаў пасля доўгай вандроўкі. Там Сцяпан вывучыў прафесію бацькі, стаў шкловыдзімальшчыкам. Там упершыню выступіў на самадзейнай сцэне, з захапленнем іграў у «Пінскай шляхце» і ў «Ганцы». Там уступіў у камсамол. А завадатарам гэтай няўрымслівай камсамоліі быў сакратар ячэйкі Валодзя Бычкоўскі. Многае ён зрабіў, каб выправіць хлопца на рабфак у Мінск, а потым на драматычныя курсы пры Наркамаце асветы БССР.

...16 верасня 1933 года. У гэты дзень выпускнік курса, артыст Сцяпан Хацкевіч, былы сірата-Сцёпка, беспрытульнік, быў залічаны ў трупу Віцебскага тэатра — БДТ-II, а праз тры гады маладога артыста запрасілі ў трупу БДТ-І, тэатра, які носіць сёння імя Я. Купалы. З гэтым тэатрам назаўсёды звязаў свой творчы лёс Сцяпан Хацкевіч. На яго сцэне стварыў каля васьмі дзесяткаў роляў — галоўных і эпізадычных. На падмостках гэтага тэатра пражылі сваё непаўторнае жыццё сцэнічныя героі Хацкевіча, лёс якіх выпакутаваў артыст.

Таленту Хацкевіча (а гэта ярка выявілася ў лепшых яго работах) уласціва яркая вобразнасць, народная самабытнасць і шчырасць, эмацыянальная шырыня, дакладная псіхалагічная абмалёўка характару. Хацкевіч — акцёр па-сапраўднаму народны, а калі больш дакладна, — глыбока нацыянальны. Ён добра разумее душу простага чалавека. Вось чаму так палюбіліся гледачу яго Івашка ў «Кацярыне Жарнасек» М. Клімковіча, сыграны ў юныя гады, салдат Чыбук, чалавек трагічнага лёсу, у «Днях нараджэння» І. Мележа, Буйкевіч у «Лявонісе на арбіце» А. Макаёнка.

У гісторыі беларускага тэатра асобнае месца займае спектакль «Канстанцін Заслонаў» А. Маўзона. У ім Сцяпану Фёдаравічу давялося іграць дзве ролі — у маладыя гады Семяніхіна, мужнага камуніста-падпольшчыка; у новай рэдакцыі спектакля яму даручана роля дзядзькі Крушыны. Крушына—Хацкевіч чалавек негаваркі, стрыманы, дакладны ў кожным руху, сапраўдная «рабочая костачка». Можна сказаць, што ён нават чалавек суровы і сухаваты, але куды падзелася гэтая яго стрыманасць і суровасць, калі разам з Кропляй чытае ён зводку Інфармбюро, якую прынёс Заслонаў, якой няўрымслівай радасцю свецяцца яго вочы, як звонка гучыць хрыплаваты і сцішаны раней голас. У гэтай сцэне раскрываецца глыбокая, нязломная душа старога Крушыны. І цеплыня гэтая і ўсхваляванасць перадаецца зале...

Дакапацца да глыбінь чалавечай істоты, адшукаць у сваім герoі стоенае, непрыкметнае з першага позірку, у вядомым адкрыць невядомае — такі нялёгкі шлях раскрыцця сцэнічнага характару выбірае артыст.

Той, хто больш як дваццаць гадоў назад глядзеў на купалаўскай сцэне спектакль рэжысёра Л. Літвінава «Запрацаваны хлеб» па п'есе А. Астроўскага, мабыць, запомніў Хацкевіча ў ролі Чапурына. І гледачы, і прэса аднадушна адзначалі арыгінальнасць вырашэння ролі С. Хацкевічам, які адмовіўся ад традыцыйнай трактоўкі Чапурына як грубага і наравістага купца. Чапурын Хацкевіча здольны на моцнае каханне, ён чалавек мяккай і шырокай душы.

Праз шмат гадоў артыст сустрэўся з драматургіяй складанай, своеасаблівай. Серапіён Цёткін у п'есе Л. Ляонава «У мяцеліцу» —мужык хітраваты, учэпісты, спраўны гаспадар. Не пашанцавала Серапіёну, застаўся ён удаўцом з кучаю дзяцей. Галоўная яго задача цяпер — ажаніцца, як мага хутчэй прывесці ў дом гаспадыню. З гэтай мэтай і прывезла яго ў горад старшыніха Лізавета. У такой сітуацыі не да кахання, абы справу зрабіць. Ролю гэтую Хацкевіч вядзе з ледзь-ледзь прыкметнай іранічнай усмешкай у адрас свайго героя. Але вось сцэна размовы з Зіначкай (арт. М. Бялінская). Раптам здараецца нечаканае—у непрыкметнай, ужо немаладой жанчыне адкрывае для сябе Серапіён хараство чалавечай душы, якое шукаў шмат гадоў. І некуды знікае зухаватасць, цяплее голас, робяцца нялоўкімі, няўпэўненымі рухі. Хоць і адхілілі тут сватанне Цёткіна, але трапяткая, лірычная вера ў хараство будзе гучаць у яго героі ўсё жыццё. Гэтаму матыву верыш!..

Адной з лепшых работ у творчай біяграфіі артыста з'яўляецца, на нашу думку, роля Кляшча ў спектаклі «На дне» М. Горкага (рэжысёр Б. Эрын). Трагедыю працоўнага чалавека, кінутага на дно жыцця несправядлівым сацыяльным ладам, Хацкевіч перадаў з той вернасцю жыццёвай праўдзе, глыбока эмацыянальнай узрушанасцю, якія пераконвалі гледача. Колькі горычы і нянавісці гучыць у маналогу трэцяга акта, дзе раздушаны, знішчаны Клешч кідае абвінавачанне несправядліваму свету, у якім яму давялося жыць, цярпець і хаваць усе свае надзеі. Глядзіш і думаеш — усё скончана, Кляшчу ўжо не падняцца, не вырвацца за шэрыя муры сутарэння...

Як артыст працуе над роляй? Як адбываецца гэты таямнічы, цікавы, хвалюючы працэс?

Відаць, кожнаму акцёру задаюць гэтае пытанне тыя, хто спрабуе напісаць аб іх рабоце. Сцяпан Фёдаравіч Хацкевіч адказаў на яго так:

— Па-рознаму. Над кожнай роляй па-рознаму і кожны акцёр па-свойму. Што для мяне галоўнае ў маёй рабоце? Вялікая роля? Не! Бывае, цэнтральная роля прыносіць менш радасці, чым эпізод, чым маленькі кавалачак сцэнічнага жыцця чалавека, які стаў табе блізкім, лёс якога ты зразумеў да драбніцы, да апошняга каліўца, які стаў табе, акцёру, па-сапраўднаму блізкім. Так было са мною, калі працаваў я, напрыклад, над роляй эмігранта Аляксандра ў спектаклі «Дзівак» Назыма Хікмета. Галоўнае ў нашай працы — «зачапіць» зерне характару. Тут патрэбна і веданне «навакольнай» літаратуры, так сказаць, веданне прадмета, а, галоўнае, веданне жыцця, ну, і акцёрская фантазія, інтуіцыя. Мой Аляксандр «жыве» на сцэне 10—15 мінут, але да прэм'еры я ведаў пра яго столькі, што мог бы, відаць, напісаць аб ім цэлую кнігу. У нас у Мінску жывуць людзі, што вярнуліся пасля многіх гадоў блукання на Радзіму, і яны мне расказвалі, што гэта такое — сум па роднай зямлі. Ды і сам я ўспомніў далёкае юнацтва, мае вандраванні і маю мару — дамоў, дамоў. У кожным з нас заўсёды жыве гэтае вялікае пачуццё, якое мы і называем любоўю да Радзімы.

...У вольную хвіліну, закінуўшы вуды за плечы, выпраўляецца Сцяпан Фёдаравіч на рыбалку. Відаць, няма ў Беларусі кутка, запаветнага рыбацкага месцейка, дзе ні пабываў бы ён са сваімі вудамі. І калі занятак гэты называюць модным цяпер словам «хобі», Сцяпан Фёдаравіч злуе.

— Проста без прыроды — нельга! Асабліва мастаку... Як не можа быць артыста без любві да роднай мовы, да гісторыі свайго народа, да роднай песні...

Такі і ён — шчыры, непасрэдны, самабытны, як песня, якую спяваюць не вельмі гучна, затое ад сэрца.

Ул. МЕХАЎ

# СЛУХАЕЦЦА СПРАВА АБ ЗАМАХУ

## НОВАЕ ПРА ІВАНА ПУЛІХАВА



4.

ЧАС паслухаць і самога нашага героя — што ён гаворыць следству пра сябе, пра замах, пра матывы, якімі кіраваўся.

Пратакол допыту арыштаванага Пуліхава ад 15 студзеня 1906 года сведчыць аб паводзінах спакойных, цвёрдых, упэўненых.

Так, завуць яго Іван Пятровіч Пуліхаў, пацвердзіў абвінавачаны. Упоперак астатніх пытанняў уводнай старонкі пратакольнага бланка—узрост, рэлігія, род заняткаў і да т. п.—агульнае, размашыстае «адказваць не пажадаў». (Так і бачу, як следчы хуценька гэтыя пытанні мармыча—разумее ж іх чысцюткую фармальнасць!—а ў чалавека насупраць ледзь прыкметная іронія на апухлых, пасінелых пасля ўчарашняга губах: маўляў, навошта ж траціць час на непатрэбшчыну...).

А вось канкрэтна па справе—гэта, калі ласка, гэта ён адказвае:

«Я прызнаю факт, што, з'яўляючыся членам арганізацыі, якая свядома паставіла сабе на мэце звяржэнне існуючага грамадскага ладу, кінуў бомбу... На пытанне аб вінаватасці—вінаватым сябе не прызнаю. Я належу да партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Хацеў забіць губернатара Курлова за збіванне ў Курскай губерні сялян і выхаванцаў навучальных устаноў у Курску, а галоўнае за 18-е кастрычніка — масавы расстрэл на плошчы перад вакзалам станцыі Мінск. Тэрарыстычным актам над губернатарам Курловым мінская рэвалюцыйная арганізацыя хацела звярнуць увагу ўрада на тое, што так далей працягвацца не можа. Міністр Вітэ перад мясцовай дэпутацыяй выказаўся, што губернатар Курлоў немагчымы і павінен быць зняты. Між тым, абяцанне гэтае засталося нявыкананым... Збіраючыся забіць губернатара Курлова—гэта пастаноўлена было мясцовай сацыял-рэвалюцыйнай арганізацыяй — я сам добраахвотна ўзяўся выканаць гэтае рашэнне. Аб тым, што расстрэл 18 кастрычніка ўчынены па загадзе губернатара Курлова, я, ды і наша арганізацыя, заключылі кіруючыся газетнымі звесткамі і грамадскай думкай. Снарад, якім я быў узброены, наколькі мне вядома, зусім такі, як і той, які нядаўна быў кінуты ў паліцмайстра Норава і не разарваўся. Гэтым я не хачу сказаць, што я зачынаў дзіцячую гульню, а сведчу толькі, што ў мяне не магло быць поўнай перакананасці ў тым, што ён разарвецца. Кідаючы снарад, я наўмысна выбраў такі момант, калі ля губернатара было нямнога людзей. Робячы гэта, я хацеў, каб як мага найменш было невінаватых ахвяр. Наколькі я быў знаёмы са снарадам, разбуральная сіла яго была нязначная і ён быў зусім бясшкодны на адлегласці ўсяго некалькі крокаў. Кінутым снарадам я пацэліў проста ў губернатара і думаў, што калі ён разарвецца, то будзе забіты губернатар, а пабочныя асобы паблізу яго атрымаюць ад асколкаў абалонкі толькі нязначныя драпіны...»

Ізмайловіч, як мы ўжо ведаем, у гэты дзень адмовілася адказваць «на ўсе прапанаваныя пытанні». Толькі 19 студзеня, на пяты дзень арышту, ужо калі і Пуліхаў, і яна знаходзіліся ў турме, а не ў паліцэйскай часці, следчаму ўдалося занатаваць у пратаколе, што арыштаваная «не адмаўляе» факту прыналежнасці да партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў і таго, што страляла ў Норава. Астатнія пытанні і на гэты раз засталіся без адказу.

«Належу да партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў...», «не адмаўляе факту прыналежнасці да партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў...» Разумею, што на гэтых радках той-сёй з чытачоў, мякка кажучы, спатыкнуўся. Сацыялісты-рэвалюцыянеры? Эсэры? Члены партыі, якая стане з цягам часу лютым ворагам бальшавікоў, са зброяй у руках выступіць супраць Савецкай улады?!

Праз многа-многа гадоў, калі запускаўся ў вытворчасць памянёны ўжо кінанарыс «Вуліцы бяссмерця»—пра змагароў-рэвалюцыянераў, імёнамі якіх названы вуліцы Мінска,—адзін асцярожны рэдактар настойліва раіў адмовіцца ў сцэнарыі ад навелы пра Пуліхава. Усё-такі—эсэр. «Але ж вуліца яго імя носіць!—пярэчылі аўтары.—І мемарыяльны камень пастаўлены на могілках пры Савецкай уладзе!» Пярэчанні гэтыя асцярожнага рэдактара не пераконвалі: «Камень—ён камень і ёсць. А назву вуліцы пераменяць, от успомніце маё слова—пераменяць!..»

З вышыні свайго часу, з вышыні пазнейшага ўсенароднага вопыту наш разумны рэдактар дакараў, нават судзіў закатаванага царскімі цівунамі Пуліхава за непрадбачлівасць.

За тое, што праз дванаццаць гадоў пасля суда над ім Марыя Спірыдонава ўзначаліць у Маскве левааэсэраўскі антысавецкі мяцеж.

За тое, што легендарны Азеф—славуты кіраўнік эсэраўскай баявой арганізацыі, трывожны сон не аднаго губернатара і міністра—будзе выкрыты як звычайны правакатар, сталы агент ахранкі.

За тое, што эсэраўскія правадыры будуць усміхацца прыхільніцам на трыбунах Часовага ўрада...

Словам, за поўнае банкруцтва сацыялістаў-рэвалюцыянераў як партыі пад час, калі і рэвалюцыя, і сацыялізм станавіліся явай.

Але ж банкруцтва гэтае стала фактам не толькі таму, што партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў страціла, так сказаць, маральны крэдыт у прыхільнікаў **звонку, вакол.** Авантурызм, фактычнае здрадніцтва сваіх вярхоў убачылі і ўсвядомілі тысячы людзей **унутры** партыі. Не ўсе, вядома, — мы ў гэтым пераканаемся, прынамсі, на лёсе той самай Ізмайловіч. Але колькі радавых эсэраў—аб'ектыўна людзей сумленных і шчырых—перажыло ў тыя гады жорсткае, часам трагічнае расчараванне. Колькі яшчэ напярэдадні канчатковага распаду партыі пакінула яе і перайшло да бальшавікоў. Хіба не магло так стацца, што сярод іх быў бы і Пуліхаў, калі б толькі да дзён, што ўзрушылі свет, яму выпала дажыць!..

Ды ў час, пра які мы расказваем, да гэтых дзён было далекавата. Слова правадыроў даходзіла да партыі не са змоўніцкіх контррэвалюцыйных явак, а з царскіх казематаў, катаргі, эміграцыі. На ўсю Расію грымеў стрэл за стрэлам, выбух за выбухам: прыводзіліся ў выкананне прыгаворы баявых эсэраўскіх груп найбольш зацятым царовым слугам —ад гарадавога да міністра. Стрэлы гэтыя скаланалі краіну, Еўропу, свет. Што ж дзіўнага, што іншыя гарачыя юнацкія галовы не адразу маглі адрозніць псеўдарэвалюцыйнасць ад рэвалюцыйнасці сапраўднай і спакушаліся крыклівай дэкларацыяй дзеяння, архіканспіратыўнай рамантыкі, крывавай помсты катам?! Ці варта, ці правільна будзе ўпікаць, ганьбаваць сёння за няправільнасць выбранага шляху, за палітычную блізарукасць, за пазнейшае здрадніцтва правадыроў тых, хто ўзнімаўся на шыбеніцу з чыстым сэрцам, з усведамленнем выкананага абавязку?..

Хто-небудзь з чытачоў, магчыма, спатыкнуўся, паціснуў плячыма і раней, на першых жа словах прыведзеных паказанняў Пуліхава. Сапраўды, што ж гэта такое: «...прызнаю факт, што... кінуў бомбу...», і тут жа: «на пытанне аб вінаватасці—вінаватым сябе не прызнаю». Нібыта і не дужа паслядоўна з пункту гледжання элементарнай логікі. Калі ўжо прызнаўся, што кінуў бомбу, значыць прызнаўся, што вінаваты. З першага механічна вынікае другое...

Але ці так адразу і вынікае? Ці той гэта выпадак, калі двойчы два абавязкова чатыры?

У гісторыі расійскага рэвалюцыйнага руху, у гісторыі расійскага суда ёсць прэцэдэнт, які адказвае на гэтае пытанне не так, як элементарная логіка.

У 1878 годзе народніца Вера Засуліч страляла ў пецярбургскага граданачальніка генерала Трэпава. Трэпаў быў паранены. Засуліч ні ў час следства, ні на судзе не адмаўляла, што страляла менавіта яна, ды і не магла б адмаўляць—стрэліла яна проста ў прыёмнай генерала, падаючы яму прашэнне, і адразу ж была затрымана. Тым не менш Пецярбургскі акруговы суд, які слухаў справу Засуліч, прызнаў яе невінаватай і вынес апраўдальны прыгавор. Славуты рускі юрыст А. Ф. Коні, які старшынстваваў на гэтым працэсе, пісаў потым у сваіх успамінах: «Вельмі многія былі абураны адмаўленнем вінаватасці падсуднай, пры наяўнасці фактаў злачынства і прызнання ў ім. Пры поўным неразуменні, якое існуе ў нашым грамадстве адносна судовых парадкаў і спосабаў выканання правасуддзя, амаль для ўсіх пытанне: «Ці вінаваты?»—і да гэтага часу раўназначнае пытанню: «Ці зрабіў?» І калі чалавеку, які сам прызнае, што «зрабіў», кажуць: «Не вінаваты»,—дык у грамадстве ўзнімаецца лямант, у якім шчырасць незадавальнення роўная толькі глыбіні невуцтва. У справе Засуліч быў менавіта такі выпадак, і ніхто не хацеў зразумець, што, гаворачы «не вінаватая», прысяжныя зусім не адмаўлялі таго, што яна зрабіла, а толькі не ставілі ёй гэтага ў віну...»

Стрэл Веры Засуліч быў актам помсты рэвалюцыйнага падполля граданачальніку за агідную абразу палітычнага арыштаванага. У час наведання Пецярбургскага дома папярэдняга зняволення Трэпаў быў не ў гуморы і за тое, што студэнт Багалюбаў, сутыкнуўшыся з ім на турэмным двары, не зняў шапкі (а нейкія паўгадзіны раней яны ўжо сустракаліся, і Багалюбаў вітаўся з генералам), загадаў Багалюбава высекчы. Такія абразлівыя фізічныя пакаранні ў дачыненні да палітычных—тым больш, што па справе Багалюбава яшчэ не было канчатковага прыгавору — законам не дазваляліся, і ўчынак Трэпава выклікаў абурэнне, пратэст, асуджэнне не толькі ў асяроддзі нелегальных, а і ў друку, у ліберальнай грамадскасці. Апраўдваючы Засуліч, прысяжныя і сам А. Ф. Коні далучыліся да гэтага абурэння і праявілі неўміручую ў гісторыі расійскага суда грамадзянскую мужнасць, высакароднасць, справядлівасць.

Пуліхаў «...хацеў забіць губернатара Курлова за збіванне ў Курскай губерні сялян і выхаванцаў навучальных устаноў у Курску, а галоўнае за 18-е кастрычніка—масавы расстрэл на плошчы перад вакзалам станцыі Мінск...» Ці былі гэтыя падставы важкімі, каб, не адмаўляючы свайго ўдзелу ў замаху, у той жа час мець маральнае права не прызнаваць сябе вінаватым?

Звернемся да падзей, на якія Пуліхаў спасылаецца.

5.

НА СХІЛЕ гадоў, успамінаючы мінулае, П. Курлоў у кнізе «Канец рускага царызму» не абмінае ніводнай з гэтых падзей. Але падае іх так, што хоць ты яго сёння да ліку святых далучай—такі ён заўсёды быў мудры, гуманны, памяркоўны. Ну вось даслоўна пра канфлікт з курскімі навучэнцамі:

«Пасля пахавання вялікага князя Сяргея Аляксандравіча я паехаў у Курск (Курлоў займаў тут пасаду віцэ-губернатара.—**У. М.**), дзе заўважалася ў той час моцнае хваляванне сярод навучэнцкай моладзі, асабліва ў каморніцкім вучылішчы, і дзе ў земстве вялася энергічная прапаганда так званым трэцім элементам. Апошняму ўдалося, урэшце, наладзіць вулічную дэманстрацыю, у час якой справа дайшла да сутычкі з паліцыяй. Само сабой зразумела, што ў рэвалюцыйным друку хутка з'явіліся непазбежныя паведамленні пра збіванні ўдзельнікаў гэтай дэманстрацыі, прычым галоўная роля ў гэтым прыпісвалася мне, хоць мяне ў той час зусім не было ў Курску. У сапраўднасці я меў дачыненне да гэтых, так званых, масавых збіванняў пазней, пасля вяртання з Масквы. Са мною разам працаваў пракурор Харкаўскай судовай палаты С. С. Хрулёў, які асабіста дапытваў вінаватых у маёй прысутнасці. Пры гэтым было з несумненнасцю ўстаноўлена, што паліцыя ў сваіх дзеяннях не дазволіла ніякага гвалту з насельніцтва...»

Тут будзе дарэчы заўважыць: «рэвалюцыйны друк» паводле Курлова—паняцце дыяпазону надзвычай шырокага. Рэакцыянер, зацяты манархіст (так і піша пра сябе: «З'яўляючыся перакананым правым...»), ён нават у мемуарах, напісаных пасля гібелі расійскага самаўладдзя і з яўным усведамленнем, што гібель гэтая была гістарычна непазбежнай, не можа ўтрымацца ад вернападданніцкай заміласванасці, калі гаворка заходзіць непасрэдна пра асобу самадзержца ці членаў яго сям'і. І рэвалюцыянеры для Курлова ўсе, хто дазваляў сабе хоць найменшую палітычную фронду. Яму волю — да адной сцэнкі паставіў бы і бальшавікоў, і тэрарыстаў-эсэраў, і палітыканаў з кадэтаў, накшталт князя Далгарукава.

Таму ніякага сумнення няма, што юрыдычны штотыднёвік «Права» з яго нятоеным кадэцкім ухілам быў для Курлова таксама выданнем крамольным, рэвалюцыйным, «чырвоным». Але мы з вамі ведаем капеечную цану кадэцкай «чырвані» (рэвалюцыйнае выданне — у кожным нумары: «Мы, імператар Мікалай II, паведляем...»!). І калі ўсё-такі гартаем гэты прафесарскі штотыднёвік, то менавіта для таго, каб паглядзець на падзеі, у якіх курскі віцэ-губернатар не ўгледзеў «ніякага гвалту з насельніцтва», вачыма публікі па тым часе шаноўнай, лаяльнай, не бунтоўнай.

І вось што чытаем нават тут:

«...Калі вучні рушылі ад Марыінскай гімназіі да Маскоўскай вуліцы, чуецца раптам свісток і гучны загад паліцмайстра: «Рэзервы, уперад! Бі!» Гарадавыя, кіруемыя акалодачнымі наглядчыкамі, з шашкамі ў руках і мужыкі-стражнікі з кулакамі накідваюцца на натоўп вучняў, і пачынаецца нешта жахлівае. Прыстаў Пузанаў крычыць: «Бі направа і налева!» Б'юць вучняў па тварах і куды папала. Тыя пад ударамі падаюць на зямлю, іх падымаюць за валасы і ўдарамі зноў збіваюць з ног, топчуць нагамі (пудовымі мужыцкімі ботамі). Аднаго гімназіста 11 год, ужо збітага з ног, стражнік хапае за валасы і б'е галавою аб брук. Неверагодная сцэна. Многія пабіты да паўсмерці. Ратавацца няма дзе. Спрабавалі ратавацца ў пад'ездах Сямёнаўскай бібліятэкі, але тут стаяў прыстаў і адкідваў усіх хлапчукоў, якія шукалі там сховішча, прычым адзін з кінутых ім хлапчукоў трапіў пад каня гарадавога і атрымаў моцнае пашкоджанне галавы. Уцекачоў білі бізунамі. Калі абураная публіка звярнулася да жандарскага палкоўніка Велька, які стаяў сярод гледачоў, з просьбай спыніць пабоішча, той спакойна адказаў: «Панове, вы ведаеце, я—чалавек мірны і нічым памагчы не магу».

Апошні акт драмы разыграўся на Краснай плошчы, дзе знаходзяцца красныя і рыбныя рады, мясныя крамы і да якой прылягае базар. Тут на дапамогу паліцыі высыпалі, відаць, загадзя арганізаваныя ёю мяснікі, краснарадцы, дробныя крамнікі і розны базарны зброд. Гэтым збродам збіваліся ўжо не натоўп і групы выхаванцаў, а кожны сустрэчны вучань. Тут смяротна быў пабіты адзін каморнік і адзін студэнт...»

Курская гарадская ўправа ў тыя дні прызнала, што «нягледзячы на ўсе намаганні выявіць сабе прычыны, якія выклікалі гэтую дзікую расправу з дзецьмі, не ведае ніводнага дзеяння з боку навучэнцаў, якое давала б повад паліцыі з такой нічым не апраўдваемай жорсткасцю напасці на безабаронных дзяцей...» Управа прасіла «ў мэтах хутчэйшага супакаення жыхароў горада» зволіць з пасад паліцмайстра Зарына і прыстава Пузанава. Але на хадайніцтва гэтае міністр унутраных спраў адказаў адмоўна. Ці не таму менавіта, што віцэ-губернатарам Курловым і пракурорам Хрулёвым «было з несумненнасцю ўстаноўлена, што паліцыя ў сваіх дзеяннях не дазволіла ніякага гвалту з насельніцтва...»?!

Мы ўжо ведаем, што праз два месяцы, у красаві-

*Працяг. Пачатак глядзі ў мінулым нумары «Літаратуры і мастацтва».

ку, у Курску арыштуюць групу маладых рэвалюцыянераў і двое з іх, Міхаіл Сакалоў і Клара Бродская, назавуць сябе Іванам Пуліхавым і Аляксандрай Ізмайловіч. (Цяпер зразумела, чаму харкаўскі пракурор паспяшаўся напомніць пра гэта віленскаму калегу, даведаўшыся пра замах у Мінску,—спрацавалі даўнія сімпатыі і ўзаемаразуменне з Курловым!). Але калі затрыманыя маладыя «палітычныя», утойваючы свае сапраўдныя імёны, называюць сябе Іванам Пуліхавым і Аляксандрай Ізмайловіч, значыць іх абоіх, Пуліхава і Ізмайловіч, добра ведалі падпольшчыкі там, далёка ад Мінска. Дык ці не ў дні навучэнцкіх хваляванняў былі яны ў Курску? Ці не бачылі зверствы паліцыі на ўласныя вочы?

І яшчэ. Курлоў піша, што найбольшыя хваляванні былі ў каморніцкім вучылішчы. Дык можа таму, што тут, сярод калег, найхутчэй знайшоў і даўніх знаёмых, і наогул агульную мову патомны каморнік (прафесія бацькі), сам нядаўні студэнт Пецярбургскага каморніцкага інстытута (не закончыў, бо быў высланы з Пецярбурга) Іван Пуліхаў?

Зрэшты, гэта пакуль што гіпотэзы, якія могуць і не пацвердзіцца. Але несумненна, што расправа з курскімі навучэнцамі зрабіла адну з самых драматычных зарубак ва ўражлівым сэрцы Івана Пуліхава. І калі чалавек, які стаў увасабленнем беспакаранасці гэтай расправы (курскі губернатар апублікаваў не адно абяцанне, што «падзеі 12-га лютага і ўсім дзеянням розных чыноў будзе дадзена справядлівая поўная ацэнка» і што даручана гэта віцэ-губернатару Курлову), зноў сустракаецца на сваёй дарозе; калі ён ужо сам паўнаўладны губернатар і да таго ж, як бы ў здзек з тваіх пачуццяў, прывозіць з сабой у Мінск у якасці прыбліжанай асобы крывавага курскага паліцмайстра (успомніце: у пераліку важных чыноў губернатарскай канцылярыі, якія стаялі поруч з Курловым у Петрапаўлаўскім саборы 14 студзеня, называецца і імя правіцеля гэтай канцылярыі Зарына), то...

Не будзем забягаць уперад. Разгледзім па чарзе наступны матыў, якім тлумачыць Пуліхаў замах—збіванне ў Курскай губерні сялян.

Паводле кнігі Курлова—і гэтых збіванняў не было. І зноў жа—абсалютна беспадстаўна «рэвалюцыйны друк на працягу многіх гадоў абвінавачваў мяне ў тым, што я сек сотні сялян вёскі Дубовіцы і суседніх сёл і вёсак». Не было гэтага, ніколі не было. А было... ну, гэткі лёгкі каўбойскі ваяжык з эскадронам драгун па месцах, дзе адбыліся або рыхталіся пагромы маёнткаў. Гэткая мілая венская аперэтка, і ён, Курлоў,—яе блакітны герой.

«...Будучы перакананы, што ад іншых можна толькі тады чакаць выканання цяжкага задання, калі сам падаеш добры прыклад, я загадаў падаць мне палкавога каня і на чале эскадрона выехаў з Дзмітрава...»

«...Конь пада мной хістаўся ад стомы, але мы ўсё-такі выканалі нашу задачу...»

«...Я растлумачыў ім усю злачыннасць і недапушчальнасць пагромаў і выказаў упэўненасць, што яны нічога такога сабе не дазволяць. Натоўп адказваў гулам адабрэння і згоды...»

І ўсё-такі нават тут, ва ўласных мемуарах, праз белазубую ўсмешку аперэтачнага каўбоя не-не ды ашчэрвае воўчыя клыкі зацяты карнік:

«...У маёнтку Шауфуса нашы драгуны разагналі пагромшчыкаў, якія спрабавалі адвезці на санях нарабаваную маёмасць. Я загадаў арыштаваць дваццаць чалавек і забраць іх сані...»

«...Нейкі селянін напаў ззаду на вахмістра і нанёс яму калом удар па галаве. Уся мясцовасць была пакрыта народам, яўна варожа настроеным. Я загадаў эскадрону спыніцца і даць схопленаму селяніну тут жа на месцы, у прысутнасці ўсяго натоўпу, 25 розаг. Шум і варожыя крыкі ў момант сціхлі...»

«...Вылучаўся сваім амаль задзірлівым выглядам высокі малады селянін, які, як потым высветлілася, быў старшынёй у той воласці, дзе было спалена Волкаўскае і разгромлена некалькі іншых маёнткаў... Я загадаў зняць з яго адзнакі старшыны ў знак таго, што здымаю яго з пасады, і арыштаваць яго, бо прыстаў казаў мне, што мае дакументы, якія ўпаўне даказваюць яго вінаватасць...»

«...Драгуны выставілі патрулі, і выгляд кавалерыі да таго напалохаў сялянскую масу, якая рухалася да завода, што яна палічыла за лепшае павярнуць назад...»

Чытаеш такое, і нешта зусім не здаюцца табе дабрадушнымі і замілавачымі, як гэта падае Курлоў, словы, пачутыя ім на адным з сабраных яго драгунамі сялянскіх сходаў: «Мы з Дубовіц ведаем, што ваша правасхадзіцельства жартаваць не любіце». І пачынаеш разумець, чаму яшчэ доўга, праз гады і гады, не толькі ў рэвалюцыйнай прэсе, а нават на пасяджэннях дзяржаўнай думы не сціхала абурэнне імпэтам Курлова на Куршчыне. І згаджаешся, што гэты імпэт не мог не трапіць на рахунак, выстаўлены губернатару Пуліхавым і яго сябрамі...

Нарэшце, трэці матыў. Як сказаў Пуліхаў следчаму—галоўнае.

Расстрэл 18 кастрычніка 1905 года дэманстрацыі мінчан застаўся ў памяці народа, як «курлоўскі». Год праходзіць за годам. Само імя Курлова даўно забыта. Раскажа вам сёння, што быў такі гаспадар губерні ў Мінску, апроч спецыялістаў, хіба што аматар-краязнаўца. А словаспалучэнне «курлоўскі расстрэл»—жыве! Страшны ж вы пакінулі пра сябе напамінак, пан камергер двара яго вялікасці!..

Па ўспамінах самога Курлова, ён, канечне ж, і тут не быў вінаваты і блізка. Проста на вакзале, куды прыйшлі дэманстранты, «батальённы камандзір.., не папярэдзіўшы натоўп, каб ён не набліжаўся да войска, ...дапусціў яго на вельмі блізкую адлегласць. Натоўп за некалькі крокаў ад салдат паставіў стол, узнімаючыся на які, прамоўцы пачалі гаварыць супрацьурадавыя і абразлівыя для цара прамовы. Нехта адабраў у начальніка аховы шашку і да яе прымацаваў чырвоны сцяг, затым натоўп пачаў адбіраць вінтоўкі ў варты, якая стаяла да гэтага спакойна. Гэтага салдаты не сцярпелі і раптам, без чыйго-небудзь загаду, адкрылі па натоўпе бязладны агонь. Да іх далучыліся салдаты, якія стаялі на мосце і насыпу, і таксама пачалі страляць у натоўп, у выніку чаго на месцы засталося шмат параненых і забітых...»

«Без чыйго-небудзь загаду...»—вось што Курлоў усяляк і ўсюды падкрэсліваў. Але чытаем прадстаўленне пракурора Віленскай судовай палаты Ястрабцава обер-пракурору першага дэпартамента сената, і нешта не сыходзіцца яно з тым, што сцвярджае Курлоў:

«Яшчэ 12 кастрычніка толькі ў прадбачанні магчымасці ўзнікнення ў гор. Мінску хваляванняў мінскі губернатар Курлоў сабраў асобую нараду з удзелам запрошаных ім віцэ-губернатара, паліцмайстра, ваенных улад і некаторых іншых асоб...

Адкрыўшы пасяджэнне прамовай, п. губернатар выказаў сваё меркаванне, што ў выпадку ўзнікнення вулічных хваляванняў неабходна іх неадкладна спыніць усімі сродкамі, не выключаючы ўзброеных сіл.

Умешваючыся далей ужо ў сферу дзеянняў ваенных улад, губернатар, па словах віцэ-губернатара Чарнцова і жандарскага падпалкоўніка Хрыпава, выказаўся так: «Халастых патронаў не браць і ў паветра не страляць» (паведамлена мне Чарнцовым і Хрыпавым)...»

Цяпер становіцца ясным, чаму намеснік мінскага гарадскога галавы Стэфановіч, тэлеграфуючы пра падзеі 18 кастрычніка старшыні савета міністраў Вітэ («...У гэтай крывавай бойні забіта каля сотні, паранены сотні, насельніцтва вельмі ўстрывожана, у выніку чаго забастоўка ў горадзе і на чыгунцы працягваецца...»), зазначае:

«Адзінымі сродкамі супакаення і прадухілення далейшага кровапраліцця экстранае пасяджэнне думы лічыць: неадкладнае выдаленне галоўнага віноўніка жахлівай падзеі губернатара Курлова і яго саўдзельнікаў, неадкладнае прызначэнне сенатара для расследавання крывавых падзей, прыцягненне галоўных віноўнікаў да крымінальнай адказнасці...»

Пракурор Мінскага акруговага суда Бібікаў таксама шле шыфроўку за шыфроўкай міністру юстыцыі:

«...Настрой насельніцтва да губернатара такі, што яго жыццю ўвесь час пагражае небяспека...»

Курлова выклікаюць у Пецярбург. Курлоў вымушаны пісаць нейкія тлумачэнні. Курлоў пачынае непакоіцца—у фондах Цэнтральнага гістарычнага архіва БССР захоўваецца яго запіска Чарнцову, у якой губернатар даволі нервова просіць свайго намесніка абвергнуць абвінавачанне, быццам ён, Курлоў, гаварыў гэтыя словы: «Халастых патронаў не браць...»

А ў друку, у лістоўках, на легальных і нелегальных сходах не сціхае абурэнне, гнеў, прыкрасць. Бо сам жа Курлоў афіцыйна дэманстрацыю 18 кастрычніка дазволіў; сам жа з балкона свайго дома павіншаваў народ з высокай царскай міласцю—маніфестам ад 17 кастрычніка аб дараванні палітычных свабод; сам жа выканаў, хоць і мулячыся, патрабаванне дэманстрантаў аб вызваленні з турмы палітычных зняволеных (хай толькі тых, што былі арыштаваны па асабістым губернатарскім загадзе надоечы). І пасля ўсяго гэтага...

Абурэнне грамадскасці аказалася марным. Як і спробы пракуратуры быць аб'ектыўнай. 31 снежня 1905 года камандуючы войскамі Віленскай ваеннай акругі генерал-лейтэнант Кршывіцкі спыніў следства па справе аб зводным батальёне 239-га пяхотнага Окскага палка, які расстрэльваў у Мінску дэманстрацыю 18 кастрычніка,—«...за адсутнасцю ў справе вінаватасці каго-небудзь з чыноў, якія ўваходзілі ў састаў азначанага батальёна...» А 5 мая 1906 года сенат прыме шматслоўнае вызначэнне аб тым, што «...не ўгледжвае... якіх там ні было падстаў для пачынання супраць Курлова крымінальнага праследавання».

Але к гэтаму часу над Курловым ужо адбудзецца іншы суд.

Суд, гісторыю і вынікі якога мы тут даследуем.

### 6.

25-ГА СТУДЗЕНЯ 1906 года Яўгенія і Марыя—сёстры Аляксандры Ізмайловіч — кожная паасобку падаюць на імя пракурора Віленскага ваеннага суда ідэнтычнае прашэнне:

«Па атрыманых мною звестках следства па палітычнай справе сястры маёй Аляксандры Адольфаўны Ізмайловіч заканчваецца, а таму прашу Ваша Правасхадзіцельства даць мне дазвол на спатканне з вышэйпамянёнай сястрой маёй, аб чым прашу зрабіць адпаведнае паведамленне п. пракурору Мінскага акруговага суда...»

Звесткі ў сясцёр былі правільныя. Пуліхаву і Ізмайловіч сапраўды таго ж 25 студзеня—на адзінаццаты дзень пасля арышту—было абвешчана, што следства па іх справе закончана і матэрыялы накіроўваюцца пракурору Мінскага акруговага суда. Следчы спяшаўся—справа прыцягвала задужа высокую ўвагу. Ды, зрэшты, не так і складанай была на гэты раз яго работа. Высвятленне ўнутраных спружын учынку падследчых ён не лічыў сваім абавязкам, а знешнія акалічнасці былі як на далоні; ніхто іх не ўтойваў. Звялася работа следчага, па сутнасці, да выканання чыста фармальных працэдур — збору прадугледжаных судаводствам дакументаў.

Так, Ізмайловіч нарадзілася ў Пецярбургу, але ў якой менавіта царкве была хрышчоная, сёстры сказаць не маглі. Адсюль у папках справы надакучлівае мноства пісем да пецярбургскіх прыставаў з просьбай пашукаць у царкоўных кнігах адпаведны запіс, і адказаў гэтых прыставаў ці непасрэдна царкоўных служкаў, што запіс не знойдзены.

Абое падследчыя былі затрыманы непасрэдна на месцы замаху і зробленага не адмаўляюць. Але ўсё роўна праводзіцца працэдура пацверджання асобы кожнага з іх сведкамі замаху. Толькі адзін са сведкаў, паліцмайстар Нораў, просіць вызваліць яго ад гэтай фармальнасці — не хоча ісці ў турму, «паколькі кожнае з'яўленне на вуліцы спалучана для мяне з небяспекай, ды, урэшце, на маю думку, у гэтым няма і патрэбы...»

Нораў, вядома, недарма баяўся паказацца лішні раз на вуліцы. Рэвалюцыйнае падполле зусім не абыякавае было да лёсу зняволеных таварышаў па барацьбе. Захавалася яшчэ адно цікавае з гэтага пункту гледжання сведчанне.

7-га чэрвеня 1906 года, ужо праз некалькі месяцаў пасля суда над Пуліхавым і Ізмайловіч і прывядзення ў выкананне прыгавору гэтага суда, былы машыніст дэпо Лунінец Аляксандр Хахлоў, які знаходзіўся тады ў турме, напісаў пісьмо свайму начальству са слёзнай просьбай пахадайнічаць перад губернатарам аб вызваленні яго з турмы, паколькі ён, Хахлоў, арыштаваны па непаразуменні—у забастоўцы і не збіраўся ўдзельнічаць, а толькі выпадкова, з дурной цікаўнасці, апынуўся на мітынгу забастоўшчыкаў. І вось у гэтым подлым пісьме ёсць такія радкі: «...А як чалавека добранадзейнага вы можаце паказаць мяне яго правасхадзіцельству па справе адкрыцця змовы на ўцёкі Пуліхава, які рабіў замах на жыццё яго правасхадзіцельства. Пра гэта вы, будучы начальнікам у нас, я думаю, ведалі, і што гэтая змова была своечасова паведамлена пану Дабрынеўскаму (тагачасны начальнік мінскай турмы.—**У. М.**). Пасля прачытання прашу вас пісьмо знішчыць, і пра маё паведамленне аб Пуліхаве, спадзяюся, застанецца паміж намі».

Іуда Хахлоў спадзяваўся дарэмна. Начальства не падбала аб тым, каб пісьмо знішчыць, і яно захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве БССР. Подласць і здрада ніколі не паважаліся нават тымі, дзеля каго і на чыю карысць яны рабіліся...

Але чаму прашэнне сясцёр Ізмайловіч пададзена на імя пракурора ваеннага? І Курлоў, і Нораў—прадстаўнікі адміністрацыі грамадзянскай. Самі ўдзельнікі замаху таксама ніякага дачынення не маюць да войска. Следства вядзецца, як мы бачым, цывільнымі судовымі органамі. І аналагічная справа Веры Засуліч, як мы памятаем, разглядалася не ваенным судом, а прысяжнымі...

Тое і яно, што працэс Веры Засуліч на многія дзесяцігоддзі з'явіўся для царызму незабыўным урокам. Неспадзяваныя вынікі яго прымусілі ўладу зрабіць захады для папярэджання такіх нечаканасцей. Ужо непасрэдна пасля працэсу сенат прыняў рашэнне, паводле якога справы аб злачынствах «супраць парадку кіравання» надалей не падлягалі суду прысяжных. А ў неспакойны час, калі адбываюцца падзеі нашага даследавання, у Расіі дзейнічае так званае «Палажэнне аб мерах па захаванні дзяржаўнага парадку і грамадскага спакою». І менавіта згодна з гэтым палажэннем, як сведчыць сакрэтная адносіна ваеннаму пракурору Віленскага ваенна-акруговага суда ад камандуючага войскамі акругі генерал-лейтэнанта Кршывіцкага, міністэрства ўнутраных спраў накіравала справу Пуліхава і Ізмайловіч «да ваеннай падсуднасці для суджэння па законах ваеннага часу».

Ваенны суд—справа нядоўгая. Тым больш, што лёс падсудных—гэтым яўна дыхаюць падшытыя ў папках дакументы—прадвырашаны быў яшчэ да таго, як паўсталі яны перад сваімі суддзямі.

5-га лютага памочнік ваеннага пракурора акругі заканчвае ў Вільні складанне абвінаваўчага акта.

7-га лютага ваенна-акруговы суд у складзе часова выконваючага абавязкі старшыні суда генерал-маёра Нікіфарава, ваенных суддзяў генерал-маёра Кошалева і палкоўніка Лапаціна, пры ўдзеле ваеннага пракурора генерал-маёра Загоскіна і пры сакратары калежскім саветніку Дэль заслухаў паступіўшую справу, адзначыў, што «справа поўная і асаблівых распараджэнняў не патрабуе; маруднасці і нядбайнасці пры правядзенні следства не ўгледжана», і пастанавіў «справе даць далейшы ход, разгледзеўшы ў гор. Мінску па законах ваеннага часу ва ўсім аб'ёме пры закрытых дзвярах».

У Мінск накіроўваюцца адпаведныя паперы, і старшыня Мінскага акруговага суда 10-га лютага прызначае падсудным абаронцаў: Пуліхаву—прысяжнага паверанага С. Ю. Нейфаха, Ізмайловіч—прысяжнага паверанага І. І. Віткевіча. Абодвум абаронцам паведамлена, што 14 лютага а 5-й гадзіне вечара «яны павінны прыбыць у Мінскую турму для прысутнасці пры ўручэнні азначаным падсудным копій абвінаваўчага акта».

Яшчэ дзень-другі, і начальніку ахраннага аддзялення ў Вільні, а ў Мінску—пракурору акруговага суда і паліцмайстру ідуць сакрэтныя адносіны, што склад прызначанага суда едзе з Вільні ў Мінск ранішнім поездам 14-га лютага.

Пасланы павесткі сведкам (Курлову запрашэнне не на стандартным бланку, а ветлівым пісьмом—«прашу ваша правасхадзіцельства...»—падпісаным старшынёй суда генералам Нікіфаравым). Начальніку Мінскага ахраннага аддзялення паведамлена «да ведама і прыняцця адпаведных захадаў, якія Вамі будуць палічаны неабходнымі», што пасяджэнне суда прызначана на 16 лютага, на 11 гадзін раніцы. Паліцмайстар Нораў—ужо не як сведка, а менавіта як паліцмайстар—папярэджаны аб гэтым таксама.

І раптам даволі непрыемная нечаканасць. Роўна за 24 гадзіны да пачатку пасяджэння.

«Яго правасхадзіцельству пану старшыні часовага ваеннага суда ў горадзе Мінску.

Дачкі генерал-лейтэнанта
Аляксандры Адольфаўны Ізмайловіч

Прашэнне.

Маю гонар заявіць Вашаму правасхадзіцельству, што я выбрала сваім абаронцам па справе маёй, якая падлягае разгледжанню часовага ваеннага суда, прысяжнага паверанага акругі С.-Пецярбургскай судовай палаты Мікалая Дзмітрыевіча Сакалова, а таму пакорнейша прашу Ваша правасхадзіцельства дапусціць пана Сакалова да абароны, дазволіць яму спатканне са мною і разгледжанне справы.

Лютага 15 дня 1906 года

Аляксандра Адольфаўна Ізмайловіч».

Можна ўявіць, як зморшчыліся суддзя генерал Нікіфараў і пракурор генерал Загоскін. Асоба адваката Сакалова была тады шырока вядомая. Імя яго часта мільгала ў справаздачах з палітычных працэсаў. І далёка не кожны абвінаваўца мог з годнасцю гэтаму абаронцу процістаяць. У двухтомнай «Гісторыі рускай адвакатуры» выдання 1914 года ёсць, прынамсі, такія радкі: «Прысяжны паверены М. Д. Сакалоў, што выступаў грамадзянскім істцом у Кішынёўскім працэсе аб пагроме, быў арыштаваны, пасаджаны ў турму і затым адміністрацыйна высланы за тое, што, як сказана ў пастанове губеранскага суда, ён распаўсюджваў на судзе і па-за судом няправільныя звесткі аб прычынах пагрому».



Не ад добрага жыцця кішынёўскі губернатар схаваў у турму сталічнага адваката. І не проста гульнёй у фронду, у папулярны па тым часе лібералізм былі для Сакалова такія выступленні. Сацыял-дэмакрат, прыхільнік бальшавікоў, М. Д. Сакалоў кіраваўся на працэсах не адным прафесіянальным абавязкам, а і партыйным, рэвалюцыйным сумленнем. Недарма праз тры гады, на дадатковых выбарах у Пецярбургу ў III Дзяржаўную думу, меркавіта ён, Сакалоў, будзе выстаўлены кандыдатам ад РСДРП. «Масы павінны пазнаёміцца яшчэ раз у новай, больш цяжкай для дэмакратыі, абстаноўцы з партыямі, якія прэтэндуюць на назву дэмакратычных. Масы павінны пазнаёміцца яшчэ і яшчэ раз з адрозненнямі буржуазнай дэмакратыі ад той, якая выставіла на гэты раз М. Д. Сакалова...»,—напіша ў сувязі з выбарамі ў газеце «Новый День» 14 верасня 1909 года Ул. Ільін. Мы ведаем, хто такі Ул. Ільін. Гэта—У. І. Ленін.

Пройдуць яшчэ гады і разыдуцца дарогі М. Д. Сакалова з дарогамі ленінцаў. Больш таго—Ленін будзе неаднаразова рэзка яго крытыкаваць. Але мы з вамі знаёмімся з Сакаловым 1906 года.

Адвакат і з вопытам, і з хваткай, і з аўтарытэтам, і з пазіцыяй, якая, вядома ж, ніяк не магла задаволіць ні суддзю, ні пракурора, ён уключаецца ў працэс, які мы даследуем. Ах, як ахвотна абодва генералы—Нікіфараў і Загоскін—адмовілі б Ізмайловіч. Ды Сакалоў ужо ў Мінску, у гасцініцы «Еўропа», просьба арыштаванай законная, адмовіш—гвалт узнімецца на ўсю краіну. Дазволілі.

Ужо праз шэсць гадзін пасля прашэння Ізмайловіч суд атрымлівае ад яе новага абаронцы паперу наступнага зместу:

«Крымінальны закон, паводле якога абвінавачваецца мая падабаронная, прадугледжвае забойства або замах на забойства службовых асоб пры выкананні імі службовых абавязкаў або з прычыны выканання імі гэтых абавязкаў.

Для ўстанаўлення таго, што п. Нораў у момант замаху на яго не быў пры выкананні абавязкаў службы, а таксама для ўстанаўлення злачынных дзеянняў, учыненых п. Норавым 18 кастрычніка, якія зусім не з'яўляліся яго службовымі абавязкамі і якія, па словах падсуднай, і з'явіліся падставай для яе ўчынку,— маю гонар прасіць выклікаць і дапытаць у якасці сведкаў...»

І Сакалоў называе шэсць чалавек, якія былі актыўнымі ўдзельнікамі дэманстрацыі 18-га кастрычніка. Пяцёра з іх з таго часу знаходзіліся ў Мінскай турме.

Але гэта ў паперы яшчэ не ўсё:

«...Пры затрыманні пані Ізмайловіч яна была пабітая чынамі паліцыі.

Акалічнасць гэтая, паводле неаднаразовага тлумачэння Правіцельствуючага Сената, павінна служыць падставай для змякчэння пакарання.

Таму прашу выклікаць да судовага пасяджэння ўрача-эксперта для ўстанаўлення ім паражэнняў, якія атрыманы былі падсуднай у паліцыі».

Поруч з такім аўтарытэтам, як Сакалоў, смялей адчулі сябе і абаронцы-мінчане. І таго ж 15-га лютага, яшчэ раней, чым Сакалоў, але несумненна ўзгадніўшы з ім свае дзеянні, у суд прысылае заяву абаронца Пуліхава Нейфах:

«Па звестках, некаторыя з часовых членаў названага суда (часовага ваеннага суда, які павінен быў весці працэс.—**У. М.**) мелі блізкія адносіны да справы, якая разглядалася з прычыны дзеянняў ваенных нарадаў 18 кастрычніка 1905 года ў г. Мінску на плошчы перад Віленскім вакзалам. А паколькі цяперашняя справа аб Пуліхаве і Ізмайловіч, як відаць з паказанняў першага, з'яўляецца вынікам справы аб падзеях 18 кастрычніка, то... маю гонар заявіць адвод супраць тых з суддзяў, якія ці то ў якасці асоб, што дзейнічалі 18 кастрычніка, ці то ў якасці ўдзельнікаў следства па той справе маюць да яе адносіны. Кароткасць тэрміну пазбаўляе абарону магчымасці сабраць доказы ў пацверджанне гэтага адводу, але тлумачэнні саміх п.п. членаў... могуць служыць дастатковай падставай да правільнага вырашэння ўзнятага пытання».

Відаць, старшыня суда або сакратар запатрабаваў, каб Нейфах канкрэтна напісаў, каго з членаў суда мае на ўвазе. Або зрабіць гэта параіў Сакалоў. Як там ні было, але пасля замудраных трошкі першых перыядаў ідзе ў заяве вельмі простая заключная фраза: «Чуў, што нарадам на вакзале 18/X камандаваў падпалкоўнік Кургановіч».

Прысяжны паверany Нейфах, відаць, сапраўды не меў часу для больш важкага абгрунтавання свайго адводу. Да пачатку пасяджэння суда заставаліся няпоўныя суткі, а канчатковы склад яго—старшыня генерал-маёр Нікіфараў і члены падпалкоўнікі Кургановіч, Ґаліч, Купрыянаў і Малышаў—стаў вядомы недзе ў самы апошні дзень. Але нас цяпер час не абмяжоўвае. Пагортаем жа дакументы і газетныя падшыўкі.

Вось яно, тое, што нам трэба. У тым самым штотыднёвіку «Право» знаходзім расказ аб расследаванні акалічнасцей расстрэлу дэманстрацыі 18 кастрычніка ў Мінску.

У гэтым расказе, прынамсі, чытаем:
«...Тады палкоўнік, баючыся скаплення публікі, адшукаў на чыгуначнай платформе камандзіра пяхотнай часці падпалкоўніка Кургановіча і прасіў яго прыняць на сябе распараджэнні па ўстанаўленні парадку. На гэты час да вакзала падышла 2-я рота пяхоты і палавіна 1-й роты... Падпалкоўнік Кургановіч, пакінуўшы 1-ю паўроту на станцыйнай платформе, размясціў 2-ю роту супраць натоўпу паміж будынкам вакзала і станцыйнымі пабудовамі...»

І далей:

«...На станцыйнай платформе ніжнія чыны, зарадзіўшы вінтоўкі, пачалі праз вокны вакзала страляць у натоўп... Падпалкоўнік Кургановіч загадаў салдатам спыніць агонь, але яны, відаць, не пачуўшы, за шумам, загаду свайго начальніка, працягвалі страляць...»

Калі б гэта пісаў які-небудзь рэпарцёр, генерал Нікіфараў мог бы ўзяць пад сумненне яго дасведчанасць. Але расказ перадрукаваны «Правам» з «Урадавага весніка», а праводзілася расследаванне міністэрствам унутраных спраў. Значыць пярэчыць тут цяжка — на руках Кургановіча сапраўды кроў ахфяр 18-га кастрычніка. І гэты чалавек сапраўды не мае права выконваць абавязкі суддзі — Феміды з завязанымі вачыма! — у працэсе, дзе стрэлы 18-га кастрычніка як бы загучалі нанова. Адвод адваката слушны, законны — удзел Кургановіча ў судзе сапраўды выглядае цынізмам, элементарным парушэннем правоў падсудных...

Але не спяшайцеся з вывадам, не думайце за генералаў Нікіфарава і Загоскіна — яны кіруюцца не звычайнай чалавечай ці проста юрыдычнай логікай, а сваёй, прадпісанай начальствам. А начальства загадам камандуючага акругі, як мы памятаем, спыніла справу аб зводным батальёне 239-га пяхотнага Окскага палка — батальёна, якім камандаваў Кургановіч! — «...за адсутнасцю ў справе вінаватасці каго-небудзь з чыноў...». І наогул — разглядацца будуць у працэсе падзеі 14-га студзеня, а не 18-га кастрычніка. Таму ў распарадчым пасяджэнні, ужо назаўтра, 16 лютага, перад самым пачаткам працэсу, «суд, выслухаўшы: заключэнне ваеннага пракурора, пастанавіў: у просьбе абаронцы адмовіць, паколькі... дзеянні 18 кастрычніка ніякіх адносін да цяперашняй справы не маюць...».

І ў просьбе адваката Сакалова было адмоўлена таксама. Зноў жа — «падзеі 18 кастрычніка 1905 года не маюць ніякіх адносін да абвінавачання па цяперашняй справе, а таксама, што акалічнасць аб нанясенні пабояў п. Ізмайловіч таксама не мае ніякіх адносін да абвінавачання па цяперашняй справе...».

Як тут яшчэ раз не ўспомніць светлую фігуру Анатолія Фёдаравіча Коні, яго сумленныя і мужныя паводзіны на працэсе Веры Засуліч! Калі працэс гэты закончыўся апраўданнем падсуднай і ашалелы ад страху перад царовым гневам міністр юстыцыі Пален, дакараючы старшыню суда, папракнуў яго і за тое, што абаронцу падсуднай не забаронена было гаварыць пра матывы яе замаху — ганебны загад Трэпава аб фізічным пакаранні Багалюбава — Коні цвёрда адказаў, што ніякі суддзя не мае права на такую забарону.

«Забараніць гаварыць пра падзею 13 ліпеня — значыла забараніць гаварыць пра матыў злачынства, выстаўлены нават у абвінаваўчым акце, — чытаем у Коні ва «Успамінах аб справе Веры Засуліч». — Але як абмяркаваць віну, не ведаючы матыву, як вызначыць матыў, не ведаючы фактаў, на якіх ён вырас? Згадзіцеся, што вы розна зірнулі б на забойцу, які зрабіў сваю злую справу, каб заплаціць прайгранае ў карты, і на забойцу, які пазбавіў жыцця гвалтаўніка сваёй маленькай дачкі. А для таго, каб розна, гэта значыць справядліва аднесціся да абодвух, вы павінны б ведаць, з якога факта нарадзілася думка аб забойстве. Ды і што за сумную, прыкрую карціну ўяўляў бы суд, у якім прысяжным, «суддзям па сумленні», гаварылася б з месца старшыні: «Вось — выстрал і вось — прызнанне... што такое той, хто стрэліў, вам ведаць не трэба; што выклікала ў ім рашучасць стрэліць — вас не датычыць; які ўнутраны працэс, якая барацьба папярэднічала яго дурной справе — пытанне пустой цікаўнасці; што яго чакае пасля прысуду — закон забараняе вам гаварыць... ну, а цяпер адказвайце: «Ці вінаваты ён?..».

Суддзям, перад якімі паставілі нашага героя, рысы высакароднага Коні ўласцівыя не былі. Нам з вамі яшчэ не раз у гэтым пераконвацца.

**Заканчэнне ў наступным нумары.**

МАЙСТРЫ ЗАРУБЕЖНАЙ КУЛЬТУРЫ

# ВЕРНАСЦЬ ПАМЯЦІ

*Штрыхі да партрэта Яраслава Івашкевіча*

**Яраслаў Івашкевіч** займае вядучае месца ў плеядзе сучасных польскіх пісьменнікаў. Нядаўна ў сувязі з прысуджэннем яму міжнароднай Ленінскай прэміі «За ўмацаванне міру паміж народамі» за 1968-69 гг. яго імя з'явілася на старонках друку ўсяго свету.

Уся польская грамадскасць горача адобрыла такую высокую ўзнагароду Яраслава Івашкевіча, бо вядомы яго найвялікшы аўтарытэт сярод суайчыннікаў. І не толькі таму, што ён — выдатны пісьменнік, кнігі якога заваявалі небывалую папулярнасць. Гэты аўтарытэт і ўсеагульную павагу перадвызначыла таксама ідэйная пазіцыя Івашкевіча, яго актыўны ўдзел у руху за мір як у Польшчы, так і на міжнароднай арэне. Я. Івашкевіч — член Прэзідыума Сусветнага Савета Міру.

З рухам прыхільнікаў міру ў Яраслава Івашкевіча звязаны ўжо многія гады. Ён прымкнуў да яго раней, чым сам рух аформіўся арганізацыйна. Хоць сёлета споўнілася дваццаць гадоў з дня стварэння Сусветнага Савета Міру, Яраслаў Івашкевіч сцвярджае, і ён несумненна мае рацыю, што рух у абарону міру нарадзіўся дваццаць два гады таму назад, у 1948 годзе, г. зн. у год, калі ва Ўроцлаве, сталіцы Ніжняй Сілезіі, сабраўся Кангрэс дзеячоў культуры ў абарону міру, адным з галоўных ініцыятараў і арганізатараў якога быў Яраслаў Івашкевіч.

— На фоне тагачаснага палітычнага становішча, — сказаў Івашкевіч прадстаўнікам друку,—кангрэс меў велізарнае значэнне, у ім прынялі ўдзел многія дзеячы культуры. Кангрэс быў склікаць з мэтай выказаць аднадушны пратэст прадстаўнікоў розных народаў супраць якой бы там ні было падрыхтоўкі да новай агрэсіі. Ва Ўроцлаве сустрэліся розныя людзі. Іх сустрэча нарадзіла ідэю аб стварэнні міжнароднага фронту барацьбы за мір.

Яраслаў Івашкевіч застаўся верны гэтай ідэі. Прысуджэнне яму міжнароднай Ленінскай прэміі ўрачыста і афіцыяльна пацвярджае вернасць пісьменніка барацьбе за мір.

Яраслаў Івашкевіч, выдатны пісьменнік і дзеяч, нарадзіўся ў 1894 годзе. Нягледзячы на ўзрост, ён вызначаецца выключнай энергіяй. Пісьменнік па-ранейшаму многа піша, прычым не пазбягае і публіцыстыкі. У папулярнай польскай газеце «Жыце Варшавы» кожную нядзелю можна прачытаць яго літаратурны фельетон. Івашкевіч — галоўны рэдактар літаратурнага штомесячніка «Творчосць». Апрача таго, многія гады ён займае пост старшыні Ґалоўнага праўлення Саюза польскіх пісьменнікаў. Пры тым, пісьменнік — дэпутат сейма Польскай Народнай Рэспублікі.

Творчасць Івашкевіча вызначаецца багаццем і разнастайнасцю літаратурных форм. Тут мы назавем яго навелы і апавяданні «Панны з Вілько», «Млын на Утрацы», «Новае каханне», «Італьянскія навелы», «Аер», «Каханкі з Мароны». Да самых выдатных раманаў адносяцца «Чырвоныя шчыты», «Блендамерскія страсці» і «Гонар і слава». Апрача таго, Івашкевіч з'яўляецца аўтарам паэтычных твораў. У яго творчасці рэалізм назіранняў спалучаецца з інтымным лірызмам і псіхалагічным роздумам. Кнігі пісьменніка перакладзены на многія мовы.

Але не толькі свет літаратуры блізкі і дарагі Яраславу Івашкевічу. Вядома яго захапленне музыкай, выдатнае веданне музычнай творчасці. Асабліва многа ўвагі ўдзяляе пісьменнік даследаванню творчасці і жыццёвага шляху Фрыдэрыка Шапена. Яго пяру належаць кніга і п'еса, прысвечаныя вялікаму польскаму кампазітару.

Івашкевіч падтрымлівае ажыўленую сувязь з буйнейшымі прадстаўнікамі сусветнай культуры. Вельмі часта ён прымае іх у сябе, у сваім чароўным доме ў Ставісках пад Варшавай. Тут знаходзіцца яго цудоўная бібліятэка, якая пастаянна папаўняецца новымі кнігамі, тут жа можна пазнаёміцца з выдатнымі мастацкімі творамі, якія збірае Івашкевіч — тонкі знаўца мастацтва. У гады вайны ў Ставісках знаходзілі прытулак многія людзі, асабліва пісьменнікі, дамы якіх сталі ахвярамі бомб і пажараў. Успомнім хоць бы 1944 год, калі пасля падаўлення Варшаўскага паўстання сталіца Польшчы ператварылася ў аб'ект планамернага разбурэння.

Тыя жудасныя дні не згладзіліся ў памяці Івашкевіча. Гэта пацвярджае яго актыўны ўдзел у руху за мір і ўмацаванне міру.

Польскае агенцтва «Інтэрпрэс».

# БЕГЛЫЯ ЗАПІСЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Словамі, якія патрэбны эканамічнай і тэхнічнай навуцы: *хуткарэзны* станок, *самазаточны* інструмент, *нержавейная* сталь, *нафтаздабыўная (горназдабыўная)* прамысловасць — мы не карыстаемся, іх, па-сутнасці, няма. Але яны выглядаюць, як даўно знаёмыя, бо не парушана іх словаўтваральная прырода. Пішам жа, на жаль, іначай: *хуткарэжучы* станок, *самазатачваючыйся* інструмент, *нержавеючая* сталь, *нафтаздабываючая (горназдабываючая)* прамысловасць, — усё роўна як выкручваем рукі. Думаючы, што мове не баліць.

●

Можна сказаць, што некаторым словам, такім, як *рамонт, цырымонія, рысора, дрызіна, інжынер, сакратар, літаратура, канцылярыя* — пашанцавала. Яны набылі такое напісанне яшчэ, мабыць, тады, калі нормы рабіла сама мова, і таму выглядаюць па-народнаму патуральна. Цяпер бы іх напісалі *рэмонт, цэрэмонія, рэсора, дрэзіна, інжэнер, секрэтар, літэратурэ, канцэлярыя*, гэтак жа як прэсвітэр, рэжым, шніндэль, крэветкі, чэркес, — надаючы ім чужаземнасць.

●

Ніяк не магу прымірыцца, што як чужаземнае трэба пісаць прозвішча Герцэн. Хочацца пакарыстацца любым выключэннем — традыцыйнасцю вымаўлення, даўнім запазычаннем з неславянскіх моваў,— і пісаць Герцан, як імя сваё, добра вядомае кожнаму з юначых гадоў, калі мы знаёміліся з развіццём айчыннай рэвалюцыйнай думкі.

●

Чужаземнае напісанне дадзена і такім гарадам, як Арэнбург, Нахічэвань, Какчэтаў, Чэлябінск, Чэркасы, Чэркеск, хоць яны сталі нашым бытам і смела падышлі б да фармуліроўкі «даўно запазычаных слоў».

●

Пільнуючыся народных канструкцый, вось як шырока можна карыстацца прыназоўнікам НА: пісаць *на* адрас, дом *на* восем кватэр, хата *на* тры акны, п'еса *на* два акты, раман *на* чатыры часткі, збор твораў *на* пяць тамоў, бочка *на* капусту, мех *на* бульбу, пасведчанне *на* заканчэнне школы, квіток *на* здачу грошай у касу; рашэнне *на* выдачу ордэра, пастанова *на* засяленне дома, загад *на* прызначэнне *на* работу, пагадненне *на* абмен дэлегацыямі, дагавор *на* пастаўку абсталявання, указ *на* *ўзнагароджанне*.

●

— Пайшоў на *заслужаны хлеб*, — скажуць пра чалавека, які сваё адпрацаваў, пайшоў на адпачынак. Затое, калі нехта карыстаецца шырокаю павагаю, усімі знаны, за вялікія заслугі пашанаваны ўзнагародамі, скажуць: — Гэта чалавек *заслужóны*.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

Ганна КРАСНАПЁРКА

## МАЯ СЯБРОЎКА ВЕТА

Я БЫЛА шчаслівая тым, што засынаю, але тут пачуўся тэлефонны званок.

— Тому можна?

— Каго?

— Не прыкідвайся, я цябе пазнаў.

— Але я не Тома, і Тома наогул тут не жыве.

— Жартуеш? А мне не да жартачкаў. Чакаю ў сем каля Дома афіцэраў...

Трубка напоўнілася кароткімі гудкамі.

Быў час мераць тэмпературу. Усёй сваёй істотай я адчувала, як падымаецца ўверх ртутны слупок. Я хварэла на ангіну. Ангіна — твая ўласная прывілея і сям'і яна не датычыцца. Вось-вось прыйдуць са школы дзеці, вернецца з работы муж, усе параскрываюць раты і будуць чакаць вячэры. І якое шчасце, што ёсць на свеце людзі, якія вырабляюць пельмені. Дзякуй ім: абед гэта ці вячэра, але ўсе накормлены ўмомант.

Першы дзень ангіны прайшоў як у паўсне. Добра, што дзецям задалі мала ўрокаў, што мужу рана на працу — пакладіся спаць. Мне ж не спалася. Я ўключыла тэлевізар і засталася адзін на адзін са сваёй вернай сяброўкай, дыктарам Ветай Галкінай. На вуліцы Вета мяне не заўважае, праходзіць міма, а дома кожны раз:

— Добры вечар!

— Спакойнай ночы!

Вету я люблю. Яна заўсёды раскажа мне, дзе што робіцца і што будзе заўтра. Яна нязменна ветлівая. Я вельмі хвалююся за яе — яна так позна працуе. І заўсёды думаю: ці чулыя на тэлестудыі людзі, ці падвозяць яе дадому, ці праводзяць хоць бы пешшу.

Напярэдзе ноч, а ў мяне адчуванне такое, быццам у горле штык, у носе мокра, ды думкі, бясконцыя, назойлівыя.

Назаўтра мне ніхто з родных ці знаёмых не званіў. Здавалася, усе яны дамовіліся даць мне магчымасць спакойна пахварэць. Гэта было дзіўна: звычайна з васьмі раніцы пачынаўся іх «ранішні агляд». Толькі каля пяці гадзін вечара пачуўся званок. Я з радасцю схапіла трубку.

— Тома, ты? Ага, папалася!

— Паслухайце, я не Тома.

—Хопіць разыгрываць! Чаму ўчора не прыйшла?

— Паслухайце, у мяне ангіна...

— Ангіна? А са Слаўкам бадзяцца — ангіны няма?

У голасе чалавека было столькі крыўды і болю, што я паспрабавала супакоіць яго:

— Можа Слаўка да ўрача праводзіў?

— А я што — зломак? Мне б сказала.

— Малады чалавек, паслухайце, вы памыляецеся, не туды трапляеце. У мяне муж, двое дзяцей...

— Досыць! Я тваімі спектаклямі здаволіўся.

— Якія спектаклі? — бездапаможна прашаптала я ў трубку. — Мне сорак гадоў...

— Праз дваццаць у цябе язык не павернецца прызнацца ў гэтым.

Тут ужо я не вытрымала:

— Павесьце трубку і званіце сваёй Томе!

Але не паспела дайсці да ложка, як тэлефон зноў патрабавальна зазваніў.

— Ну, даруй мне, Тома, — скарагаворкай верашчала трубка. — Ну, вінаваты, са злосці на цябе яе праводзіў.

— Добра, — літасціва даравала я. — Толькі не турбуйце мяне. Дайце пахварэць.

— Я табе мёду, малака прывязу. Ідзе?

— Ідзе, — не вельмі ўпэўнена адказала я. Ні мёду, ні малака ў мяне не было, а яны пры ангіне — першыя лекі. І ўсё ж мне нешта кальнула: ці сумленна я паводжу сябе? Што ж, зраблю апошнюю спробу:

— Вы не верыце, што я не Тома?

— Мне ўсёроўна, як ты там па пашпарце. Дай свой адрас, я ж у цябе ніколі не быў...

Знямоганая, я прашаптала:

— Заходні завулак, 6, кватэра другая.

Праз паўгадзіны малады чалавек стаяў на парозе. Ён нясмела падаваў мне мёд і бутэльку малака.

— А Тома ляжыць?

— Не! Стаіць!

— А дзе ж яна?

— Перад вамі. Вы мне не паверылі, а людзям трэба верыць.

— Папраўляйцеся... Бывайце здаровы, — ён задам пасунуўся да дзвярэй.

Я ўключыла тэлевізар. На экране яшчэ было цёмна, але знаёмы голас Веты Галкінай паведамляў: «Інстытуту хіміі патрабуецца лабарантка... Званіць па тэлефоне...»

Вета, родная! А ў мяне памянялі нумар тэлефона. Ужо два дні...

Георгі СВЕЖЫН

## АСКЕТ

Яна  
Яго  
Чакае кожны ранак —  
У кабінце ж у яго  
Службовым,  
Дзе пахне кветкамі  
І ўсё прыбрана,—  
Так праведнік  
Чакае стрэчы з богам.

Абы зайшоў ён —  
Да яго рванецца,  
З гатоўнасцю,  
І з сэрцам, поўным жару,  
А ён, аскет,  
Сцюдзёна адхіснецца —  
І спадылба  
Глядзіць, як на пачвару.

Пасля,  
Набычаны,  
Назад адступіць,  
Адыдзе ўбок —  
То ўправа, то налева.

І так штодня:  
Ураз яе астудзіць,  
І не прыгорне,  
Нават каб умлела.

А ўжо ж яна  
Ні разу не зграшыла,  
І надарае шчодра ўсім,  
Чым можа:  
Грашыма,  
Персанальнаю машынай,  
І нават  
Заграпічным падарожжам.

Яна  
Яму  
Усё дала на свеце —  
Каб не гняла  
Яго душу згрызота  
І ўсё ж ён мучае яе.  
І церпіць  
Адна яна —  
Дзяржаўная Работа.

Пераклаў з балгарскай мовы Ніл Гілевіч.





## ТРАНЗІСТАР І МЫ...

Мал. Ю. ГРЫГОР'ЕВА.





— Гэй ты, стары — гучней і весялей!..



— К-ш-ш! Не перашкаджайце адпачываць!..



— Як вы глядзіце за дзіцем! Ён жа праглынуў транзістар!..

Павел ШЫБУТ

## ШРАЦІНКІ

⊙ *Пагрэць рукі можна і без рукавіц.*

⊙ *Калі начальнік кучаравы, дык і лысаму падначаленаму не шкодзіць мець грабянец.*

⊙ *Яму не было чаго губляць, бо ён нічога не меў.*

⊙ *Калі на зайца скажуць, што ён акасеў, гэта яшчэ не азначае, што ён п'яны.*

⊙ *Не ўсім пагарэльцам выплочваецца страхоўка.*

⊙ *Ён не мог запрэгчы Пегаса: не ведаў, як надзець на яго хамут.*

⊙ *Падаюць больш за ўсё на гладкай дарозе.*

⊙ *Вінцік пахвалілі. У выніку ён развінціўся.*

⊙ *У сваёй непагрэшнасці больш за ўсіх пераканаы грэшнікі.*

⊙ *Каб даказаць дурню, што ён дурань, трэба, каб ён меў хоць кроплю розуму.*

⊙ *Ад яблыка раздораў да піўной — такая эвалюцыя яго сямейных канфліктаў.*

⊙ *Чорт часова выконваў абавязкі анёла.*

⊙ *Іншы і ў начоўках можа далёка заплысці.*

⊙ *Хоць і пляваў на ўсё, а здароўя ўсёроўна не збярог.*

⊙ *Меў пустую галаву, але ўсёроўна ў яе нічога не лезла.*

⊙ *У літаратуры месц заўсёды хапае: там на чужое не садзяцца.*

⊙ *Усё жыццё дзяліліся адной скарынкаю: большага адно аднаму шкадавалі.*

Даір СЛАЎКОВІЧ

## ВЫПАДКІ

### ВЕТЭРАН

— Я, таварышы, трыццаць год культуру рухаю. Кручуся, як самадзейны перпетуум мобіле: сам частушкі складаю, сам выконваю, сам і апладысменты арганізоўваю...

### НА ТЭАРЭТЫЧНАЙ АСНОВЕ

Бібліятэка была зачынена ўвесь дзень: праводзілася навукова-практычная канферэнцыя «Беражы мінуту».

### ЖЫЦЦЁ — ПОДЗВІГ

Дырэктар музычнай школы цалкам прысвяціў сябе любімай справе і жыў толькі ёй. Як запэўняла бухгалтэрыя, якая падшывала рабочыя табелі, ён працаваў 24 гадзіны ў суткі.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.
Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856.

АТ 22276

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісы не вяртаюцца.

# ВІЗА НА ЎМЯШАННЕ

В. САМАРЫН,
Э. ХАМІДУЛІН

ЧОРНЫ лімузін з нумарам амерыканскага пасольства прамчаўся па заспаных вуліцах заходнегерманскага гарадка Лампертхейма і спыніўся ля прыземістага з гатычным дахам асабняка. Два пажылыя паны прайшлі ў сярэдзіну будынка, холадна кіўнуўшы паліцэйскаму афіцэру, які адчыніў ім дзверы.

Праз тыдзень на будынку на Ліліентальштрасэ, 2 з'явілася шыльда «Радыё Ліберці» («Свабода»).

Так у 1967 годзе радыёстанцыя «Вызваленне», якая паспела да гэтага часу стаць адыёзнай, выйшла ў эфір пад новым імем, такім жа далёкім ад сутнасці гэтай арганізацыі, як і яе ранейшая назва.

Радыёстанцыя «Свабода» — толькі адна з дзесяткаў такіх арганізацый у разгалінаванай сетцы імперыялістычных радыёвяшчальных карпарацый і радыёстанцый, якія ўдзень і ўначы вядуць падрыўную ідэалагічную работу супраць Савецкага Саюза, сацыялістычнай садружнасці, усіх рэвалюцыйных і прагрэсіўных сіл свету. Амерыканскае інфармацыйнае агенцтва ЮСІА кантралюе такія радыёстанцыі, як «Свабодная Еўропа» і РІАС (у Заходнім Берліне), «Голас свабоднай Азіі» на Тайвані. У цесным узаемадзеянні і ў кантакце з імі дзейнічаюць «Нямецкая хваля», «Голас Ізраіля» і «рэспектабельная» Бі-Бі-Сі.

Мільёны долараў трацяцца штогод заходнімі ўрадамі і манапалістычнымі канцэрнамі на пашырэнне і павелічэнне магутнасцей гэтай радыёпрапагандысцкай сеткі. І зразумела чаму. «Калі раней асновай стратэгіі лічылася акружэнне праціўніка, — тлумачыць выдадзеная ў ЗША кніга «Стратэгічныя псіхалагічныя аперацыі і знешняя палітыка ЗША», — дык цяпер задача складаецца ў тым, каб пранікаць у чужыя краіны, расхістваць грамадства». Зразумела, што радыё, для якога не існуе межаў і не патрабуецца візаў, уяўляецца панам імперыялістам найбольш зручным інструментам такога роду ўмяшання.

## ІЛЖЭПРАРОКІ СПРАБУЮЦЬ ДАГНАЦЬ ЧАС

Да пачатку 60-х гадоў нават самыя заўзятыя праціўнікі камунізма вымушаны былі прызнаць, што іх лабавыя атакі не прыносяць поспеху. З дапамогаю імі ж створаных шматлікіх службаў па вывучэнні аўдыторыі яны паспелі пераканацца да гэтага часу, што ўсе ранейшыя метады антыкамуністычнай прапаганды церпяць крах. Спробы грубага шальмавання камуністычнай ідэалогіі і практыкі будаўніцтва камуністычнага грамадства пачалі выглядаць проста бязглузда на фоне ўнушальных эканамічных, культурных і сацыяльных дасягненняў Савецкага Саюза і іншых сацыялістычных краін. Не менш бязглузда пачалі выглядаць і старыя сцвярджэнні аб нежыццяздольнасці камунізма, асабліва пасля таго, як Савецкі Саюз практычна сам-насам разграміў гітлераўскія полчышчы і не толькі не быў аслаблены і абяскроўлены, як таго хацелі на Захадзе, але праз дванаццаць гадоў ужо абудзіў свет пазыўнымі першага ў гісторыі чалавецтва штучнага спадарожніка Зямлі.

Ідэолагі антыкамунізму вымушаны былі паспяхова мяняць аблічча, і гэта знайшло сваё адлюстраванне ў іх радыёпрапагандзе. У перадачах заходніх радыёстанцый загучалі новыя ноткі. Замест пагроз аб «масіраванай помсце» з'явіліся заклікі да «навядзення мастоў», да суіснавання ідэалогій, да класавага міру. «Голас Амерыкі», Бі-Бі-Сі і іншыя заходнія радыёкарпарацыі ўжо не скупіліся на пахвалы сацыялістычных краін. Асабліва ў сваіх перадачах на гэтыя краіны. Праўда, пахвалы гэтыя пры ўважлівым разглядзе з галавою выдавалі іх аўтараў. За знешняй добразычлівасцю бачылася ранейшае выскаляннe, ранейшае імкненне падарваць мір сацыялізма.

Як, напрыклад, інакш расцаніць серыю перадач «Голасу Амерыкі», у якіх спачатку ўсяляк расхвальваліся эканамічныя і сацыяльныя дасягненні сацыялістычнай Украіны, а потым падсоўваўся вывад аб тым, што рэспубліка, маўляў, дамаглася б большага, калі б яна не ўваходзіла ў склад СССР?

Такія ж «сімпатыі» імперыялістаў пазналі і грамадзяне сацыялістычнай Чэхаславакіі, калі напярэдадні і ў ходзе вядомых падзей 1968 года радыёстанцыі «Свабодная Еўропа», «Нямецкая хваля», той жа «Голас Амерыкі» і Бі-Бі-Сі, прызнаючы поспехі чэшскага і славацкага народаў, вельмі ясна намякалі на тое, што гэтыя поспехі «стрымліваюцца» нейкімі «рамкамі сацыялістычнай садружнасці і саюзніцкімі абавязацельствамі ЧССР у сістэме Варшаўскага дагавору».

Заўважце, аб поспехах сацыялізма балбочуць тыя, хто яшчэ зусім нядаўна не вымаўляў слова «сацыялізм» без брыдкіх эпітэтаў. Час вымушае іх дзейнічаць больш тонка.

Стаўка цяпер робіцца на дробнабуржуазныя перажыткі, нацыяналізм, на любыя ізаляцыйныя тэндэнцыі.

Гэтую тактыку імперыялістычных ідэолагаў прадбачыў У. І. Ленін, гаворачы аб імкненні імперыялістаў «задушыць» камунізм у «любоўных абдымках».

Характэрна, што літаральна ўсе радыёвяшчальныя карпарацыі Захаду на ўпускаюць выпадку, каб лішні раз не заявіць у той ці іншай форме аб сённяшнім капіталізме, як аб грамадстве так званых «роўных магчымасцей», «усеагульнага дабрабыту», як амаль аб увасабленні камуністычных ідэалаў. (Што датычыць барацьбы працоўных капіталістычных краін за свае правы, выступленняў супраць расавай дыскрымінацыі, паходаў і маршаў абяздоленых — усяго таго, чаго ўсё роўна нельга замоўчваць—дык гэтыя красамоўныя факты капіталістычнай рэчаіснасці падаюцца як праява буржуазнай дэмакратыі).

Іншымі словамі, антыкамуністы ў эфіры дзейнічаюць адразу ў двух напрамках. З аднаго боку, яны спрабуюць забіць клін у сацыялістычную садружнасць, адарваць хоць бы адну краіну ад лагера сацыялізма, а з другога боку — усяляк упрыгожыць капіталізм, прыцягнуць да яго сімпатыі людзей.

Калі ў эфіры гучаць разважанні былога пратаірэя Радзянкі аб тым, што сённяшні капіталізм зусім не такі, якім яго выкрывалі Карл Маркс і У. І. Ленін, калі так званыя «саветолагі» Гольдберг у Бі-Бі-Сі ці Збарскі ў «Голасе Амерыкі» спрабуюць палемізаваць з У. І. Леніным, — трэба памятаць, што за гэтымі радыёгаварунамі стаіць вялізная ідэалагічная машына імперыялізму.

...Летась у канцы года ў Гамбургу выйшла ў свет кніга з прэтэнзіяй на палітычны бестселер і адначасова на інструкцыю для ўрадаў заходніх краін. Яна называецца «Сто дзевяноста восьмае дзесяцігоддзе. Калектыўны прагноз на 1970—1980 гады». Яе аўтары — людзі, вядомыя на Захадзе як вядучыя тэарэтыкі ідэалагічнай барацьбы супраць камунізма—Кан, Баўдзісін і Бжазінскі — выступаюць з рэкамендацыяй як мага шырэй выкарыстаць радыёстанцыі «Свабодная Еўропа», «Свабода» і нават тэлевізійную праграму, якая перадаецца з дапамогаю спадарожнікаў, — каб шляхам «вытанчанай інфармацыі, усялякага роду рэвізіяніцкіх ідэй і праяўленняў спачування выклікаць расчараванне і дэмаралізацыю народаў». «Ідэалагічнае выхалошчванне, — падмацоўвае гэтую думку Бжазінскі, — з'яўляецца рашаючым сродкам, калі мы хочам бачыць пажаданыя для нас палітычныя змены ў камуністычным грамадстве».

Трэба зазначыць, што такі адкрыты рэцэпт упершыню трапляе на старонкі кнігі, разлічанай на шырокае ўжыванне. Да гэтага часу падобнае было ўласціва толькі закрытым інструкцыям і сакрэтным дырэктывам.

Усяго ж толькі за апошні час на Захадзе выйшла больш за трыццаць манаграфій па антыкамунізме. Так што ў аўтараў радыёінсінуацый дастаткова «падсобнага матэрыялу».

Гэтыя «даследаванні» і падштурхнулі ўбіць цвік у новую шыльду радыёстанцыі ў Лампертхейме.

## ХТО ЗАКАЗВАЕ МУЗЫКУ

Кіраўнікі радыёстанцый «Свабодная Еўропа», «Свабода», РІАС, якія вяшчаюць толькі на сацыялістычныя краіны, пры ўсякім зручным выпадку абавязкова падкрэсліваюць, што іх установы існуюць на ахвяраванні прыватных асоб і сродкі, выдзеленыя з дабрачынных фондаў. Аднак разглагольстваванні дыверсантаў эфіру аб «дабрачыннасці» з'яўляюцца не больш, як зручнай шырмай. Аб гэтым можна меркаваць хаця б па дзейнасці «Свабоднай Еўропы».

Пазнаёміўшыся з арганізацыяй яе работы, рэдактар часопіса «Тайм» Джон Скот быў літаральна здзіўлены размахам дзейнасці радыёстанцыі. Паводле яго слоў, «колькасць супрацоўнікаў, якія займаліся зборам інфармацыі, не меншая, чым у Асашыэйтэд Прэс, «Тайм» і «Нью-Йорк таймс» разам узятых».

Ці не праўда, пасля такіх прызнанняў неяк не вельмі верыцца ў славутую «дабрачыннасць»? І ўсё ж яна з'яўляецца адной з крыніц фінансавання антыкамуністычнай прапаганды ў эфіры, хаця і не самай галоўнай.

Усё ў тым, што пад шырмаю дабрачыннасці ў любой капіталістычнай краіне можна займацца... нават абрабаваннем банкаў. Ніхто, у тым ліку і падатковае ўпраўленне, не адважыцца сунуць свой нос у вашы фінансавыя справы, калі афіцыйна вы існуеце... на ахвяраванні і паднашэнні. А адкуль гэтыя грошы прыходзяць — ці з сейфаў буйных манаполій, або ўрадавых устаноў — і на што яны выдаткоўваюцца, фінансавыя органы не хвалюе. Карацей кажучы, такая шырма задавальняе і тых, і другіх.

У 1949 годзе ў Нью-Йорку, па ініцыятыве тагачаснага дзяржсакратара ЗША Дзіна Ачэсана і пры актыўным садзеянні ЦРУ быў утвораны так званы «Нацыянальны камітэт барацьбы за свабодную Еўропу», пазней перайменаваны ў камітэт «Свабодная Еўропа». У 1950 годзе амерыканскі ўрад перадаў камітэту радыёстанцыю ў Мюнхене пад назваю «Свабодная Еўропа». Цяпер толькі штатных, грунтоўна правераных работнікаў радыёстанцыі налічваецца больш 1500 чалавек на чале з адстаўным генерал-маёрам Родні Смітам, «Свабодная Еўропа» мае свае прэс-агенцтвы ў Стакгольме, Вене, Бруселі, Парыжы, Лондане, Лісабоне, Рыме і іншых гарадах свету. Паводле самых сціплых падлікаў, бюджэт радыстанцыі складае каля 120 мільёнаў долараў у год. Львіная доля гэтых сродкаў, — як адзначала «Нью-Йорк таймс»,— ідзе ад вядомага Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення ЗША. Некалькі дзесяткаў мільёнаў заходнегерманскіх марак штогод падкідаюць манаполіі і кіруючыя колы ФРГ. У фінансаванні «Свабоднай Еўропы» прымае ўдзел і Пентагон, чые прадстаўнікі — былы міністр абароны ЗША Кліфард, генералы Клей, Крытэнбергер — многія гады членствуюць у камітэце «Свабодная Еўропа». У друку не раз з'яўляліся паведамленні аб тым, што значную частку сродкаў на патрэбы радыёстанцыі ўрад ЗША вылучае са ста з лішнім мільёнаў долараў, якія штогод кангрэс асігнуе на правядзенне падрыўной дзейнасці супраць СССР і іншых краін сацыялізма. Зразумела, не застаюцца ў баку і ўсялякія «дабрачынныя» фонды ракфелераў, морганаў, дзюпонаў.

Штогод буйнейшыя манапалістычныя групоўкі ЗША арганізоўваюць шумныя кампаніі па зборы сродкаў у фонд «барацьбы за выратаванне народаў Еўропы ад камунізма». Летась, напрыклад, зборам сродкаў на пашырэнне магутнасцей радыёстанцыі «Свабодная Еўропа» кіраваў не хто іншы, як Джэймс Рашэ — старшыня праўлення кантралюемай сямействам Дзюпонаў «Джэнерал мотарс». Як паведаміў пазней амерыканскі друк, Джэймсу Рашэ доўга ўгаворваць фінансавых і прамысловых тузоў Амерыкі не давялося.

Усіх гэтых бізнесменаў і фінансавых каралёў Амерыкі аб'ядноўвае лютая нянавісць да Савецкага Саюза і іншых краін сацыялістычнага лагера, чыя растучая магутнасць зрывае іх планы па імперыялістычным заняволенні народаў. Менавіта яны з'яўляюцца сапраўднымі гаспадарамі «Свабоды», «Свабоднай Еўропы» і іншых падрыўных радыёстанцый. Менавіта яны заказваюць музыку цэламу хору антыкамуністычных падгалоскаў у эфіры.

## ...І СЁЕ-ТОЕ ПРА ВЫКАНАЎЦАЎ

Адзін з босаў мілітарысцкага саюза зямляцтва Заходняй Германіі нейкі Эрых Майер, выступаючы на сходзе так званых «сілезскіх бежанцаў», заявіў: «Перманентная вайна з дапамогаю агітацыі і прапаганды— вось шлях барацьбы за рашаючыя перамогі. Радыё — гэта сродак, бадай, больш сучасны і моцны, чым найноўшыя ядзерныя бомбы».

Эрых Майер — былы актывіст гітлерюгенда і цяпер актывіст радыёстанцыі «Нямецкая хваля». Сярод яе супрацоўнікаў — нямала былых членаў нацыянал-сацыялістычнай партыі і работнікаў гебельсаўскай службы прапаганды. Цікава, што першым старшынёй яе савета быў былы нацысцкі маёр, кавалер ордэна «Рыцарскі крыж», здабытага на Усходнім фронце, Карл Гюнтэр. У тыя гады рэзідэнцыя «Нямецкай хвалі» размяшчалася ў тым самым будынку ў Остэрлоозе, дзе была радыёстанцыя, заснаваная ў 1939 годзе асабіста доктарам Гебельсам.

«Нямецкая хваля» прыняла ў спадчыну не толькі памяшканне, абсталяванне і штаты, але і метады антыкамуністычнай прапаганды. Спачатку хлусня і паклёп, якія вылівала гэтая радыёстанцыя ў эфір, увогуле не адрозніваліся ад таго, што рабілі ў часы фашызму прапагандысты Гебельса.

Потым метады пачалі мяняцца. Адкрытую хлусню змяніла вытанчаная падрыхтоўка фактаў. Былыя нацысты пачалі ўбірацца ў тогу праўдалюбцаў і аб'ектывістаў. Загучалі перадачы, якія выказвалі «спачуванне радавым камуністам і грамадзянам сацыялістычных краін». З'явіліся серыі і рубрыкі, прысвечаныя дыферэнцыравана рабочым, інтэлігенцыі, сялянам, дзеячам культуры ў краінах сацыялізма. Прычым слухачу ў кожным канкрэтным выпадку спрабавалі ўнушыць, што менавіта тая сацыяльная катэгорыя, да якой ён належыць, — найбольш ушчэмлена ў сацыялістычным грамадстве. Менавіта «Нямецкай хвалі» належыць прыярытэт у вынаходстве вядомай прапагандысцкай версіі антыкамунізму, быццам ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту і аднапартыйнай сістэмы людзі мастацтва пазбаўлены свабоды творчасці.

Але, бадай, нішто не паказвае так ілжывую сутнасць прапаганды «Нямецкай хвалі», як яе спробы ашальмаваць палажэнні навуковага камунізма і практыку камуністычных партый у вырашэнні нацыянальнага пытання.

Тыя, хто чвэрць стагоддзя назад адпраўлялі мільёны людзей «за расавую непаўнацэннасць» у газавыя камеры, тыя, хто адкрыта імкнуліся знішчыць цэлыя нацыі, — цяпер становяцца ў позу абаронцаў нібыта «прыгнечаных нярускіх нацый» у СССР, пускаюць слязу з поваду быццам існуючай у сацыялістычных краінах «дыскрымінацыі яўрэяў».

Такая метамарфоза былых нацыстаў становіцца зразумелай, калі пазнаёміцца з выказваннем цяперашняга старшыні Савета «Нямецкай хвалі» Вальтэра Штайгнера, якое пасля паўтарыў часопіс «Аўсенпалітык»:

«Нашы ідэі трэба працягваць у грамадскае жыццё камуністычных дзяржаў усімі сродкамі, не грэбуючы ні штучнымі псіхалагічнымі метадамі, ні ветлівасцю і спачуваннем тым, каго ў сапраўднасці мы ненавідзім».

Гэтым, зразумела, сказана яшчэ далёка не ўсё. Галоўнае ў тым, што мілітарысцкія і рэваншысцкія колы Заходняй Германіі ўсяляк падтрымліваюць агрэсіўную палітыку Ізраіля на Блізкім Усходзе. Як і Злучаныя Штаты Амерыкі, яны хочуць атрымаць свайго роду «прэцэдэнт» поспеху агрэсара, свайго роду прыклад, калі імперыялістычная дзяржава беспакарана разбойнічае на чужой зямлі. У гэтым былыя гітлераўцы, якія мараць аб рэваншы, бачаць падмацаванне сваім планам у Еўропе.

Зусім зразумела, што ўсялякая падтрымка антыкамуністычных выпадаў сіянісцкай радыёстанцыі «Голас Ізраіля» з'яўляецца пастаянным курсам «Нямецкай хвалі», якая, як гэта паведамілі самі заходнегерманскія газеты, заўсёды наладжвае ў Дзюсельдорфе кансультацыі па пытаннях антыкамунізму з новым нацысцкім фюрэрам Адальфам фон Тадэнам.

## ДАВОДЗІЦЦА ПАКАВАЦЬ ЧАМАДАНЫ...

Мы прывялі толькі некаторыя прыклады і дадзеныя аб прынцыпах, сродках і метадах радыёвяшчальных цэнтраў Захаду, якія вядуць антыкамуністычную падрыўную дзейнасць. Увогуле ж, можна сказаць, што дзейнасць гэтая не прыносіць пажаданых вынікаў яе арганізатарам і натхніцелям. Бо ніякай хлуснёй і паклёпам нельга спыніць пераможнае шэсце па свеце ідэй камунізма, ніякімі выдумкамі і інсінуацыямі нельга паслабіць прыцягальны прыклад сацыялістычных дасягненняў.

Аб гэтым сведчыць, у прыватнасці, і той факт, што антыкамуністычным прапагандыстам у краінах Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі часта даводзіцца пакаваць свае чамаданы і ўцякаць.

Нядаўна, напрыклад, урад Індыі прыняў рашэнне аб закрыцці ў краіне пяці амерыканскіх так званых «культурных цэнтраў» ЮСІС. Індыйскі ўрад праводзіць цяпер важныя сацыяльна-эканамічныя рэформы, імкнецца ўмацаваць незалежнасць краіны, асланіць яе ад замахаў імперыялістаў. І было б дзіўна, каб у гэтых умовах была пакінута без увагі дзейнасць тых амерыканскіх арганізацый, якія, асталяваўшыся ў Індыі, імкнуцца перашкодзіць ёй, вядуць падрыўную работу на карысць імперыялізму, паклёпнічаюць на дружалюбныя Індыі сацыялістычныя краіны.

Можна не сумнявацца, што радыё «Голас Амерыкі» адчуе цэлы рад нязручнасцей, пазбавіўшыся адразу пяці буйных пастаўшчыкоў антыкамуністычнай «фактуры» ў такой вялікай краіне, як Індыя. Але давядзецца антыкамуністам праглынуць і гэта.

Логіка гісторыі такая, што народы непазбежна распазнаюць рэакцыйную сутнасць антыкамунізма.

(«Советское радио и телевидение»).